КАМУНІСТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ ПОЛЬШЧЫ.
(Сэкцыя Камінтэрну).
КАМУНІСТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ ЗАХ. БЕЛАРУСІ.

Пролетарыі ўсіх краёў, злучайцеся!
פראלעטאריער פון אלע לענדער, פאראייניקט זיך!
Proletarjusze wszystkich krajów, łączcie się!
Пролетарии всех стран, соединяйтесь!
Visų šalių proletarai, vienykitės!

# БАЛЬШАВІК

ОРГАН ЦК КАМУНІСТЧНАИ ПАРТЫІ ЗАХОДНЯИ БЕЛАРУСІ.

---

СЬНЕЖАНЬ
1930 год.

№ 8 (41)

## ЗАЎВАЖАНЫЯ АПЯЧАТКІ:

Старонка 10 радок 8 зьнізу надрукавана: „Гэтая палітычная лінія УНДО зусім нядвухсэнсоўна гаворыць аб поўным уключэньні УНДО у пілсудчыкоўскі беспартыйны блёк“. **Павінна быць:** „Гэтая палітычная лінія УНДО зусім нядвухсэнсоўна гаворыць аб поўным пераключэньні палітыкі УНДО на інтэрвэнцыйныя рэйкі пілсудчыкоўскага беспартыйнага блёку“.

Старонка 50 радок 26 зьнізу надрукавана: ...„якія вырасьлі ва ўхіл да лініі партыі“ **павінна быць:** „якія вырасьлі ва ўхіл ад лініі партыі“.

**КАМУНІСТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ ПОЛЬШЧЫ.**
(Сэкцыя Камінтэрну.)

**Пралетарыі ўсіх краёў злучайцеся!**

# БАЛЬШАВІК

**ОРГАН ЦК КАМУНІСТЫЧНАЕ ПАРТЫІ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ.**

**№ 8 (41)** **Вільня, Сьнежень 1930 год.** **№ 8 (41)**

## V З'езд—гэта новы важны этап на шляху бальшавізацыі Камуністычнай Партыі Польшчы! Усе сілы нашай Партыі на выкананьне і ажыцьцяўленьне бальшавіцкіх пастаноў V З'езду КПП!

## V Зьезд кампартыі Польшчы.

Ад часу IV Зьезду Кампартыі Польшчы прайшло тры гады, за якія партыя перажыла цяжкую паласу фракцыйнай барацьбы, якая паставіла яе перад простай пагрозай расколу.

V Зьезд Кампартыі Польшчы, які адбыўся у другой палове верасня г. г., пакончыў з фракцыйнасьцю,аднавіў партыйнае адзінства і стварыў неабходныя прадпасылкі дзеля падняцьця баяздольнасьці партыі.

У гэтым перш за ўсё заключаецца аграмаднае значэньне Зьезду, які саўпаў з нарастаньнем сусьветнага рэвалюцыйнага ўздыму, як зьезду тэй сэкцыі, якая займае адзін з найбольш адказных пазыцый у Камінтэрне.

Існуе прынцыповая розьніца паміж пэрыядамі IV і V зьездаў у справе аб'ектыўных варункаў, клясавых перасовак і палявеньня працоўных масаў ва ўсёй Польшчы.

Калі IV зьезд канстатаваў некаторыя дасягненьні частковай капіталістычнай стабілізацыі і часовае ўзмацаваньне фашыцкае дыктатуры, дык V зьезд меў справу з далёка прасунутым напярад працэсам раскладу аднэй і другой.

IV зьезд сыгналізаваў, на грунце абвастрэньня ўнутраных супярэчнасьцяў гэтай стабілізацыі, паступовы рост рэвалюцыйных настрояў у масах, падкрэсьліваючы адначасова сур'ёзную дыспрапорцыю паміж рухам у горадзе і ў вёсцы. V зьезд мог ужо гаварыць аб усеагульным рэвалюцыйным прыліву, аб амаль што аднолькавым зроўні палявеньня рабочых і сялянскіх мас.

IV зьезд гаварыў аб кансалідацыі ўсяго фашыцкага лягеру, тады як V зьезд мог адзначыць абвостраныя цярці і ўнутраную барацьбу ў гэтым лягеры, якія паслабляюць фашыцкую дыктатуру.

Упорлівы эканамічны крызыс, шпаркае нарастаньне элемэнтаў агульна палітычнага крызысу, паскораны працэс раскладаньня ў фашыцкім лягеры вымагалі ад зьезду грунтоўнай ацэнкі, яскравай пэрспэктывы і выразных тактычных паказаньняў.

V зьезд аказаўся на вышыні гэтых патрабаваньняў.

Ужо самы склад зьезду—пераважна рабочы, загартаваны ў барацьбе і турмах—сьведчыў аб сур'ёзным баявым вопыце, які знайшоў сваё адбіцьцё ў зьездаўскай дыскусіі*).

*) На зьездзе былі прадстаўлены амаль усе мясцовыя арганізацыі, прычым большасьць ($^2/_3$ дэлегатаў) была абрана акруговымі канфэрэнцыямі, ў якіх прымало ўдзел 130 таварышоў.

Двухтыднёвая праца зьезду дала дакладны адказ на асноўныя пытаньні рэвалюцыйнага руху і галоўныя балячкі партыі.

У ацэнцы сытуацыі зьезд адзначыў асаблівую вастрату эканамічнага крызысу ў Польшчы ў выніку перажыткаў фэадалізму, зямельнага голаду, надзвычайнай нэндзы сялянскіх масаў, кабальнай запазычанасьці, непамерна павялічаных падаткаў, якія выдаюцца на ваенныя патрэбы і на разбухшы апарат фашыцкай дыктатуры.

Паставіўшы належным чынам пытаньне аб выхаду з крызысу, зьезд падкрэсьліў, што сучасны крызыс значна глыбей, становішча польскай буржуазіі цяжэлей, чым у 1925-1926 г.г.— напярэдадні майскага перавароту. Сусьветны эканамічны крызыс усё мацней ударае па Польшчы, як па аднаму з найбольш слабых зьвеньняў міжнароднага капіталізму. Шансы атрымаць неабходную дапамогу ад замежнага капіталу зьменшыліся. Фашыцкая дыктатура, якая павінна была ўзмацніць клясавае панаваньне польскай буржуазіі, моцна пахіснулася. Уласны досьлед мас, ужо некалькі разоў ашуканых на гістарычных паваротах, павялічыўся. Узмацніўся таксама ўплыў сацыялістычнага будаўніцтва ў Савецкім Саюзе.

Рабочыя масы пачынаюць ламаць перагароды, якія ставяцца фашызмам і сацыял-фашызмам. Амаль кожная дэманстрацыя і кожная забастоўка рабочых ператвараецца ў крывавую бойку з паліцыяй. Досыць упамянуць, што за апошні год у 70 гарадох польская буржуазія ўзброенай сілай разганяла беспрацоўных. Моцна ўзварушаны таксама нізы сацыял-фашыцкіх партыяў, аб чым сьведчаць забастовачныя манэўры іх правадыроў, якія прабуюць апанаваць настроі мас, каб не дапусьціць да забастовачнай хвалі.

Глыбокае бушаваньне ў сялянскіх масах вядзе да надзвычайна баявых выступленьняў на грунце падаткаў і фашыцкага земляўпарадкаваньня. Расьце актыўнае супраціўленьне сялян падатковым экзэкуцыям. Усё часьцей ужываюцца ўдушлівыя газы супроць „бунтуючых вёсак“.

У нацыянальна-вызваленчым руху выяўляюцца элемэнты грамадзянскай вайны. Полымь пажараў на Заходняй Украіне, дзе галодны селянін і рабочы, які падвойна ўціскаецца і эксплёатуецца, паліць сядзібы абшарнікаў, фальваркі „асаднікаў“ (каленістаў) і падатковыя ўстановы — гаворыць аб герачнай барацьбе на жыцьцё і сьмерць з польскім імпэрыялізмам. З гэтым рухам ня можа ўжо справіцца паліцыя, фашыцкі ўрад прымушаны браць на дапамогу армію, стралковыя і іншыя атрады. Тысячы паліцэйскіх і пазнанскіх уланаў у постаці „экспэдыцыйных калён“ уводзяць акупацыйны „парадак“, зьверскі распраўляючыся з шырокімі масамі ўкраінскага народу.

Рэвалюцыйнае напружаньне ў працоўных масах супадае з абвостранымі спрэчкамі, з своеасаблівай ўнутранай барацьбой у лягеры фашызму з-за мэтадаў перамаганьня крызысу. Характарызуючы гэтую барацьбу, як часткова адбіцьцё групавых інтарэсаў, нездавольства дробнай і часткова сярэдняй буржуазіі, а таксама перагрупоўкі сіл у фашыцкім лягеры, зьезд падкрэсьліў, што спрэчкі і цярці, хоць-бы надзвычайна абвостраныя, паміж пілсудчыкай і цэнтралевай разам з нацыянал-дэмакратыяй застаюцца ў межах прынцыпова агульнай клясавай падставы, фактычна справа ідзе аб найбольш пасьпяховым зьдзейсьненьні праграмы ўсей буржуазіі: разгрому рэвалюцыйнага руху, перакладаньня ўсіх цяжараў крызысу на плечы працоўных і падрыхтоўкі вайны супроць СССР.

Засьцерагаючы партыю ад адраджэньня правых дэмакратычных ілюзіяў, асабліва небясьпечных у пэрыядзе нарастаньня рэвалюцыйнай сытуацыі, зьезд накрэсьліў выразную пэрспэктыву пралетарскай рэвалюцыі і асноўныя моманты яе праграмы ў Польшчы. Польскі пралетарыят можа раней, чым пралетарыят іншых краёў, увайсьці ў паласу непасрэднай барацьбы за ўладу.

Ва ўсіх варунках надзвычайна ўзрастае роля кампартыі, якая павінна памятаць, што той пералом, які адбываецца ў шырокіх масах у бок рашучай шчырай барацьбы, ня ідзе па простай

лініі і што разьмеры хістаньняў у масах залежаць перш за ўсё ад мабілізацыйных здольнасьцяў камуністычнай партыі і ўменьня дэмаскаваць на жывых прыкладах сацыял-фашыцкіх ашуканцаў.

Шырокія масы хочуць рэвалюцыйнага выхаду з крызысу. Ведаючы, аднак, што рэвалюцыя, якая паказваецца камуністамі, патрабуе вялікіх ахвяр, гэтыя масы яшчэ хістаюцца перад уступленьнем на цяжкі шлях, прыслухоўваючыся адным вухам да сказаў сацыял-ашуканцаў аб бяскроўнай рэвалюцыі ў межах законнасьці. „У значнай часткі рабочых і сялянскіх масаў,—скардзіцца пепеэсаўскі „Роботнік“, — адбываецца разрыў з дзяржавай, растуць бунтарскія плыні, расьце бязумоўна камунізм, маральны расклад грамадзтва значна пасунуўся наперад“. У імя супольнай барацьбы з гэтай небясьпекай стары правадыр ППС — Дашынскі — заклікае пілсудчыкаў „да разумнага кампрамісу“, выступаючы супроць усялякіх спробаў у партыйных нізах „адказваць на гвалт гвалтам, ламаць законны парадак і шукаць помсты“.

Якое галоўнае зьвяно, за каторае Кампартыя Польшчы павінна ўхапіцца ў перажываемы пэрыяд пераломy?

Галоўным зьвяном у ланцугу задач партыі зьезд зрабіў **арганізацыю сіл для рэвалюцыйнага разьвязаньня крызысу**, шпаркае заваяваньне рашаючае большасьці пралетарыяту і асноўных мас сялянства для сацыялістычнай рэвалюцыі. У гэтых адносінах кампартыя Польшчы ня мае доўгіх тэрмінаў, бо падзеі разгортваюцца з надзвычайнай шпаркасьцю.

Разварушыць мільёны працоўных, уцяміць у іх сьвядомасьць на штодзённым досьледзе рэвалюцыйнага выхаду з крызысу шляхам узбройнага паўстаньня рабочых, сялян і салдат, разгарнуць перад імі ў цеснай увязцы з набалелымі патрэбамі канкрэтную праграму савецкай улады, перасіліць дэмакратычныя ілюзіі і паралізаваць контр-рэвалюцыйную дывэрсію сацыял-фашызму—вось вузлавы пункт партыйнай тактыкі.

Адгэтуль неабходнасьць падняцьця актыўнасьці партыі ў барацьбе вакол пякучых патрэб масаў (беспрацоўе, рацыяналізацыя, падаткі, фашыцкі тэрар і г. д.), а таксама ўзмацаваньня партарганізацый у ходзе гэтай барацьбы. Гэтае пытаньне стала выходным пунктам працы зьезду, які грунтоўна раскрытыкаваў усялякія праявы хвасьцізму, паказаў на невыстарчальную актыўнасьць партыі, на аграмадную разьмычку паміж уплывам партыі і арганізацыйным ахопам, на слабасьць прыводных рамнёў да масаў, асабліва рэвалюцыйных прафсаюзаў, на далёка нездавальняючы стан партыйных кадраў.

Зьезд распрацаваў шэраг кіруючых паказаньняў **па тактыцы адзінага фронту**, якая цяпер больш чым калікольвек зьяўляецца магутным сродкам заваяваньня большасьці рабочае клясы. Адзіны фронт зьнізу, на фабрыках, капальнях, фальварках, які ўжываецца ў кожнай акцыі, абапіраецца на сетку камітэтаў, абраных масамі, павінен стаць восьсю штодзённай дзейнасьці партыі. Магчымасьць адыходу мас ад сацыял-фашыстаў ніколі ня была так вяліка, як цяпер, у часе яскравае супярэчнасьці паміж іх фразай і справай, паміж настроямі барацьбы ў нізах і апазыцыйнымі манэўрамі вярхоў сацыял-фашыцкіх і народніцка-фашыцкіх партыяў.

Зьезд надаў шмат увагі ўзмацаваньню кіруючай ролі партыі ў эканамічнай барацьбе. Выходзячы з рашэньняў V кангрэсу Прафінтэрну, зьезд зрабіў асаблівы націск на разьвіцьцё рэвалюцыйных прафсаюзаў і прафсаюзнай левай, за арганізацыйны ахоп і кіраўніцтва баямі, якія нарастаюць у асноўных галінах прамысловасьці, на ўвязку гэтай барацьбы з рухам беспрацоўных і накіраваньне яе супроць фашыцкай дыктатуры.

Абвастрэньне клясавых канфліктаў на фабрыках, якія абкружаюцца паліцыяй, стварае спрыяючы грунт дзеля арганізацыі масавых палітычных забастовак, забастовак салідарнасьці і пратэсту супроць тэрару, разам з вулічнымі дэманстрацыямі. У гэтай галіне партыя робіць толькі першыя крокі. Апошняя спроба ўсеагульнай забастоўкі ў Варшаве ў сувязі з падзеямі 14 ве-

расьня паказала, што пры большай актыўнасьці камуністаў можна падняць на дэманстрацыйную забастоўку шэраг ня толькі дробных, але і буйных фабрык. Усякая пасыўнасьць, усякая боязьнь перад труднасьцямі, павінны быць зламаны. Палітычная забастоўка ў Польшчы становіцца сапраўднасьцю сёньняшняга дню. Асноўная дырэктыва, дадзеная Зьездам—гэта шырокая арганізацыя палітычных штрайкаў вакол падзей, якія жыцьцёва зачапляюць масы,ператварэньне дэманстрацый, якія яшчэ носяць пераважна авангардысцкі характар, у масавыя дэманстрацыі, ператварэньне паасобных фабрычных штрайкаў у групавыя акруговыя забастоўкі з агульным курсам на ўсеагульную забастоўку, частковыя рэпэтыцыі якой могуць быць ужо цяпер.

Партыя павінна кіравацца паказаньнямі Леніна аб палітычнай забастоўцы, як „аб адзіным сур'езным сродку разварушыць, узбурыць, падняць на рэвалюцыйную барацьбу сялянства і лепшую частку сялянскага войску", аб тым, „каб глыбокае азлабленьне і паўстрыманы ропат вёскі разам з абурэньнем кашар знайшлі сабе ў рэвалюцыйнай забастоўцы рабочых цэнтр прыцягненьня". Дзеля гэтага неабходна ўсё часьцей арганізоўваць палітычныя забастоўкі і ўсё часьцей выводзіць масы на вуліцу так, каб з бегам часу „штрайкі, мітынгі, дэманстрацыі шлі беспрастанна".

Ад здольнасьці партыі зьвязацца з фабрыкамі і кіраваць рабочай вуліцай, на якой масы непасрэдна знаёмяцца з пытаньнямі ўлады, залежыць накіраваньне стыхійнага руху мас у рэчышча арганізаванай барацьбы супроць фашыцкай дыктатуры—за дыктатуру пралетарыяту. І наадварот—слабасьць або адсутнасьць Кампартыі ў часе такіх падзеяў, як 14 верасьня, аблягчыць сацыял-фашызму штурхаць масы на бездарожжа апазыцыйных манэўраў.

Адзначыўшы, што „партыя не заваявала яшчэ асноўнай масы ў шэрагу рашаючых буйна-прамысловых цэнтраў" і не замацавала свайго пераважаючага ўплыву ў іншых, Зьезд накіраваў галоўныя арганізацыйныя высілкі партыі ў бок буйных фабрык, як апорных пунктаў барацьбы супроць фашыцкай дыктатуры.

Лёзунг „тварам да буйных фабрык" зьезд увязаў з другім лёзунгам: „**Бліжэй да мільённых масаў працоўнага і эксплёатаванага сялянства**". Накіраваньне баявой энэргіі сялянскіх масаў у рэчышча арганізаванай барацьбы **за зямлю бяз выкупу, за рабоча-сялянскі ўрад**—будзе мець рашаючае значэньне для перамогі пралетарскай рэвалюцыі. Барацьба супроць усялякіх падаткаў, падатковых экзэкуцый і карных экспэдыцый павінна стаць рычагом, які падымае рух сялянскіх мас на вышэйшую ступень. Ні граша фашыцкаму ўраду голаду, беспрацоўя, тэрару і вайны—вось агульны покліч, які зьезд кінуў.

Грунтоўны аналіз клясавых зрухаў у вёсцы, яе распластваньня па лініі адзінага фронту вясковай беднаты і вынішчаемай масы серадняцтва супроць абшарнікаў і кулакоў, аналіз паляваньня сялянскіх масаў, якія знаходзяцца пад уціскам падаткаў, тэрару і аграрнай палітыкі фашызму—дазволіў зьезду распрацаваць тактычна-арганізацыйныя формы дзейнасьці партыі сярод працоўнага і эксплёатаванага сялянства. Галоўнае—гэта рашучы паварот ад сэктанцкага прапагандызму да кіраўніцтва штодзённай барацьбой, да стварэньня яе масавых органаў (сялянскіх камітэтаў), да ўзмацненьня партарганізацыі, да колькаснага павялічэньня і палепшаньня сацыяльнага складу сялянскіх рэвалюцыйных арганізацый.

Адначасова зьезд завастрыў увагу партыі на працы сярод сельска-гаспадарчага пралетарыяту, які зьяўляецца яе галоўнай апорай у вёсцы.

Сур'ёзнае месца ў зьездаўскай дыскусіі заняла нацыянальнае пытаньне. Зьезд даў падрабязны аналіз клясавых зрухаў у нацыянальна-вызваленчым руху, якія ідуць па лініі абвастрэньня барацьбы ня толькі паміж польскай, але і сваёй буржуазіяй, з аднаго боку, і працоўнымі масамі прыгнечаных народаў, з другога. Вось характар барацьбы ўкраінскіх і беларускіх мас супроць польскай акупацыі за самавызначэньне аж да аддзяленьня і далучэньне

да ЎССР і БССР. Гэтая барацьба сваім спічаком накіравана супроць „фэдэралістычных“ плянаў польскага фашызму, а таксама супроць украінскага і беларускага нацыянал-фашызму. Зьезд распрацаваў неабходныя дырэктывы па ўзмацненьню кіраўніцтва нацыянальна-вызваленчай барацьбой і яе ўвязцы з агульна-рэвалюцыйным рухам у Польшчы. Кампартыя Польшчы праводзіць цяпер шырокую кампанію салідарнасьці з украінскімі рабочымі і сялянамі, заклікаючы працоўных да дэманстрацый і палітычных забастовак, салдат — да адмаўленьня страляць і да братаньня, ганьбуючы фашыцкіх катаў і накіроўваючы супольны баявы фронт супроць польскага імпэрыялізму, супроць яго сацыял-фашыцкіх праваднікоў і нацыянал-фашыцкіх прыхільнікаў.

У супроцьстаўленьні антынямецкаму цкаваньню зьезд падкрэсьліў баявую салідарнасьць пралетарыяту Польшчы і Нямеччыны, яшчэ мацней высунуў лёзунг самавызначэньня аж да аддзяленьня для Горнай Сілезіі. Прынцып самавызначэньня павінен таксама ўжывацца ў зьмешаных у нацыянальных адносінах мясьцовасьцях Памор'і.

У цэнтры ўсіх задач партыі Зьезд паставіў барацьбу супроць антысавецкіх ваенных падрыхтовак польскага фашызму і яго хаўрусьнікаў, у абарону сацыялістычнае бацькаўшчыны СССР. Зьезд канкрэтызаваў мэтады і формы гэтай барацьбы ў розных яе стадыях. Пытаньне аб тым, як папулярызаваць аграмадныя дасягненьні пяцігодкі, асабліва калектывізацыі, знайшло свой выраз ва ўсіх рэзалюцыях зьезду.

Мабілізацыя мас супроць імпэрыялістычнай вайны павінна адбывацца ў штодзённай барацьбе з падаткамі, з канкрэтнымі праявамі ваеннай падрыхтоўкі, з правакацыйнымі выпадамі супроць Савецкага Саюзу.

„Падкрэсьліваючы нашую прынцыповую пазыцыю ў момант вайны (ператварэньне імпэрыялістычнай вайны ў грамадзянскую вайну)—кажа рэзалюцыя зьезду, — мы павінны ўжо сёньня ўкараняць у сьвядомасьць мас, што на выпадак узбройнага нападу на СССР, рабочыя, сяляне і салдаты ў Польшчы, на Заходняй Украіне і Беларусі павінны быць гатовы ўжыць усе магчымыя сродкі масавай барацьбы супроць вайны (масавыя антываенныя забастоўкі, асабліва на ваенных фабрыках аж да ўсеагульнай забастоўкі,арганізаваную адмову чыгуначнікаў ад перавозкі зброі, масавыя дэманстрацыі рабочых і работніц перад кашарамі і зборнымі пунктамі, перад цягнікамі, якія дастаўляюць салдат на фронт і г. д.). Там, дзе дзякуючы нашай барацьбе супроць вайны стварыліся прадпасылкі для масавай узброенай барацьбы (масавае супраціўленьне, асабліва сялянскіх мас, мабілізацыі,рэквізыцыям, ваеннаакупацыйнаму рэжыму, стыхійнае імкненьне ў лес, як, напр., у 1920-1924 гг. на Заходняй Украіне і Беларусі), партыя выяўляе ініцыятыву і бярэ ў свае рукі арганізацыю партызанскага руху, накіроўваючы яго ў рэчышча масавай рэвалюцыйнай барацьбы і падпарадкуючы яго інтарэсам перамогі чырвонай арміі і задачам пераможнага ўзбройнага паўстаньня ў Польшчы“.

Адначасова Зьезд пастанавіў разгарнуць кампанію абароны кітайскай рэвалюцыі супроць імпэрыялістычнай інтэрвэнцыі.

V Зьезд грунтоўна заняўся пытаньнямі арганізацыйнай палітыкі. Прынятыя рашэньні даюць шэраг практычных паказаньняў у галіне арганізацыйнага будаўніцтва партыі, яе сувязі з масамі, арганізацыі партыйных ячэяк і ўсялякіх апорных пунктаў на прадпрыемствах, у галіне сыстэмы партківраўніцтва, у вылучэньні кадраў зьнізу, масавай самаабароны, па працы ў арміі, урэшце вызначаюць бальшавіцкі падыход да пытаньняў узбраеньня мас і ўзбройнага паўстаньня, прапаганда якога, як адзінага выхаду з крызысу, пастаўлена на чале задач партыі.

Неабходна, каб кожная акцыя вяла да пашырэньня і арганізацыйнага замацаваньня ўплыву партыі сярод масаў.

Барацьба за армію павінна весьціся ня толькі пры дапамозе нашай агітацыі, але і шляхам арганізаванага ўплыву рабочай вуліцы і рэвалюцыйных сялян на салдацкія масы (карэспандэнцыі, братаньне і г. д.).

Выкараняючы ўсялякія праявы путчызму і перажыткі люксэмбургізму (тэорыя стыхійнасьці) у пытаньнях узбройнай барацьбы, партыя абавязана прысвоіць сваім шэрагам ленінскае разуменьне тэхнічна-арганізацыйных патрэбаў рэвалюцыі і падрыхтаваць свае кадры да практычнага кіраўніцтва барацьбой мас з узброеннымі сіламі фашызму. Ужо цяпер задачай самаабароны зьяўляецца арганізацыя тэхнічных перагародаў супроць нападаў паліцыі, масавых контр-атак і разбраеньня масамі паліцэйскіх атрадаў і т. п.

Зьезд прайшоў пад знакам бальшавіцкай самакрытыкі, якая выявіла галоўныя недахопы і памылкі партыі зьверху да нізу, стварыўшы грунт дзеля каранога пераломy ў партыйнай практыцы.

**V Зьезд быў першым у гісторыі партыі зьездам бальшавіцкай зьнітованасьці дасягнутай у барацьбе на два фронты, супроць правага ўхілу і правай групы, як галоўнай небясьпекі, а таксама супроць усялякіх праяваў левага апартунізму, сэктанства і марадзёрства.**

Грунтоўна раскрытыкаваўшы сыстэму апартуністычных поглядаў групы Варскага і Кастшэвы, зьезд падкрэсьліў, што барацьба з імі павінна працягвацца. Націск дробнабуржуазнай стыхіі і дэмакратычных ілюзій на партыю яшчэ існуе. Старыя правыя погляды адраджаюцца пад новымі відамі. Абвастрэньне цярцёў у фашыцкім лягеры і рэпрэсіі кіруючай групы фашызму ў адносінах да яе цэнтралевых канкурэнтаў выклікаюць новыя хістаньні ў партыйных шэрагах.

Барацьбу супроць правых канцэпцый Варскага і Кастшэвы зьезд рашыў зрабіць актуальнай і ўвязаць з усялякімі праявамі апартунізму на практыцы, асабліва з тэндэнцыяй валачыцца ў хвасьце сацыял-фашызму.

Пад ураганным агнём крытыкі ўсяго Зьезду і на яго цьвёрдае дамаганьне капітуляцыі правая апазыцыя ў ЦК пасьля доўгага раздумваньня, пасьля далейшых манэўраў і атак на лінію партыі, пасьля няўдалых спробаў шантажу, у апошні момант капітулiравала, як група збанкрутаваўшых правадыроў без арміі. Таварышы Прухняк, Стэфанскі, Краеўскі, Гвяздоўскі адмовіліся ад сваіх агаворак да рэзалюцыяў ЦК КПП і Выканкому Камінтэрну. Зьезд прызнаў, што заявы гэтых таварышоў не даюць гарантыі сапраўднага пераходу на лінію партыі. Толькі іх грунтоўная самакрытыка і пасьлядоўная барацьба з поглядамі Кастшэвы і Варскага, якія ўхіліліся ад прысутнічаньня на зьезьдзе, а таксама поўнае самаразбраеньне можа стварыць грунт для пераходу ад права-фракцыйнай на партыйную пазыцыю*).

Ідэолёгічныя дасягненьні партыі ў барацьбе на два фронты дазволілі зьезду накрэсьліць агульныя вехі **праграмы партыі**, як падставу для дыскусіі і праекту, які распрацоўваецца ЦК.

Вынікі двухтыднёвай працы Зьезду будуць бязумоўна вялізарнейшым фактарам падняцьця баяздольнасьці партыі, яшчэ большага згуртаваньня яе шэрагаў вакол выбранага зьездам кіраўніцтва. Партыя атрымае аружжа, неабходнае ў пэрыяд шпаркага насьпяваньня рэвалюцыйнай сытуацыі, аружжа мабілізацыі мільённых мас на **барацьбу за зваленьне фашыцкай дыктатуры, за дыктатуру пралетарыяту, за Савецкую Польшу.**

*) Тав. Прухняк зрабіў нядаўна крок у гэтым напрамку, галасуючы без агаворак за рэзалюцыю ЦК, якая асуджае апошняе выступленьне тав. Варскага (у постаці так. зв. мэморандума), як „найбольш яскравую праяву правага ўхілу ў Кампартыі Польшчы“, як „фракцыйную атаку на лінію партыі і спробу дыскрэдытаваньня партыйнага кіраўніцтва“ якая можа вясьці „да адкрытага рэнэгацтва“.

**Ю. Ленскі.**

**К—кій.**

# Аб выніках выбараў у польскі сойм.

Выбары ў сойм адбываліся ў варунках значнага абвастрэньня ўсіх супярэчнасьцяў, якія падрываюць падставы польскае фашыстоўскае дзяржавы.

Эканамічны крызыс, які распачаўся ў Польшчы яшчэ ў другой палове 1928 году, да часу роспуску сойму і назначэньня новых выбараў, прыняў надзвычайна абвостраныя формы. Ужо ня было ні воднай галіны прамысловасьці, якая-б не пераживала вострага скарачэньня прадукцыі, вялікага накапленьня рэзэрваў бяз відаў на хуткі іх збыт. Нават цяжкая індустрыя, якая яшчэ як-небудзь трымалася, дзякуючы савецкім заказам, у жніўні 1930 г. ужо таксама была ўцягнута ў вір крызысу, даўшы адчувальнае паніжэньне прадукцыі амаль на 20 пунктаў. Мэталюргічныя заводы маюць загрузку ледзь на 25% сваёй прадуктаздольнасьці. Тэкстыльная прамысловасьць перажывае працяглы востра-выражаны крызыс. Беспрацоўе пастаянна ўзрастае, ахопліваючы разам з напоўбеспрацоўнымі 60% усяе рабочае клясы, прычым, як прызнаюць самі капіталісты, у далейшым „патрэбна чакаць новага ўзросту беспрацоўя... няма ніякіх відаў, каб надыходзячая зіма была больш лёккай, чым мінулая, калі, як вядома, беспрацоўе дасягнула надзвычайна вялікага для нашых варункаў роўня“.

Асаблівасьцю сучаснага эканамічнага крызысу ў Польшчы (як і ва ўсім капіталістычным сьвеце) зьяўляецца перапляценьне крызыса ў прамысловасьці, што выражаецца ў перавытворстве, з крызысам ў сельскай гаспадарцы, які выяўляецца ў вострай дэградацыі сельскае гаспадаркі. Катастрафальнае зьмяншэньне цэн на збожжавыя сельска-гаспадарчыя прадукты, што цягнецца ўжо ля двух год, і на жывёлагадоўчыя—што пачалося ў траўні 1930 г. і зьвязана з паніжэньнем пакупальнай здольнасьці гарадзкога пралетарыяту—падрывае ў корані дробную сялянскую бядняцкую і серадняцкую гаспадарку, а кулацка-абшарнічыя гаспадаркі трымаюцца на паверхні дзякуючы страшэннай эксплёатацыі сельска-гаспадарчага пралетарыяту. Пры гэтым яны вымагаюць пастаяннай фінансавай дапамогі з боку дзяржавы, значных дэмпінгавых крэдытаў. У такіх варунках наглядаецца масавая экспрапрыяцыя бядняцкіх гаспадарак, паўпэрызацыя шырокіх мас працоўнага сялянства, надзвычайна звужваецца ўнутраны рынак, адбываецца прагрэсыруючая дэградацыя сельскае гаспадаркі, што ў сваю чаргу дэзарганізуе прамысловасьць і бяз таго пастаўленую ў надзвычайна цяжкія варункі.

Калі да гэтага дадаць фінансавы крызыс, дык стане вачавідным, што адносная стабілізацыя, ў якую ўвайшла Польшча пасьля майскага перавароту 1926 году, „прыказала доўга жыць“.

У гэтых цяжкіх эканамічных варунках разгортваліся масавыя выступленьні рабочае клясы і працоўнага сялянства. Сотні тысяч беспрацоўных выходзілі ва ўсіх прамысловых гарадох на вуліцу з дамаганьнямі хлеба і працы. Адбываліся ўпартыя забастоўкі працуючых пралетарыяў, якія адстойвалі рэвалюцыйнымі мэтадамі сваё напоўгалоднае існаваньне і месцамі пераходзілі ў контрнаступленьне на капітал пад лёзунгамі павялічэньня зарплаты, скасаваньня катаржных мэтадаў капіталістычнай рацыяналізацыі, скарачэньня рабочага дню.

Уцягваюцца ў барацьбу аграмадныя масы прац. сялянства. Нарастае вастрэйшае бушаваньне і сялянскія выбухі па ўсей Польшчы, Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне супроць падатковага ярма, супроць шарваркаў, ліквідацыі сэрвітутаў, фашыстоўскай камасацыі, у

барацьбе за зямлю. Найбольш яскравае праяўленьне знаходзіць сябе рэвалюцыйная барацьба працоўнага сялянства Зах. Украіны, дзе яна паглыбляецца востра-вызначаным нацыянальным момантам і выліваецца масавы сабатаж, у падпалы кулацкіх фальваркаў, месцамі прымае формы партызанскай барацьбы. Барацьба працоўных мас заходня-украінскага сялянства гаворыць аб тым, што ў Польшчы шпаркім тэмпам набліжаюцца адзнакі сялянскай вайны за рэвалюцыйнае вырашэньне зямельнага пытаньня.

На гэтай падставе абвастраюцца супярэчнасьці сярод пануючых клясаў, павялічваюцца цярці і сваркі аб мэтадах ратаваньня дыктатуры буржуазіі, пачынаецца расклад у фашыстоўскім лягеры. Пачуцьцё няўпэўненасьці ў свае сілы, жах перад узмацоўваючымся рэвалюцыйным рухам, які перакочваецца праз галавы сацыял-фашызму, асноўнага ворага ў польскай рэвалюцыі ў рабочай клясы, вызначыўшыяся факты пачатку распада сацыял-фашызму, ня гледзячы на ўсе „рэвалюцыйныя“ манэўры яго правадыроў, значны рост уплыву Кампартыі—усё гэта паставіла перад фашызмам пытаньне аб неабходнасьці згуртаваньня ўсіх сіл капіталістычнай Польшчы, больш поўнага і „рацыянальнага“ прыстасаваньня дзяржаўнага апарату да новых варункаў надыходзячай рэвалюцыйнай сытуацыі, аднаўленьня ўпаўшага ўплыву санацыі ў самім буржуазным лягеры і разгрому рэвалюцыйнага руху працоўных мас.

З другога боку, міжнароднае становішча ў той-жа час высоўвала перад урадам Пілсудзкага патрабаваньне тэрміновага заканчваньня падрыхтоўкі да вайны супроць СССР. Маскоўскі працэс шкоднікаў, агентаў французскага і польскага імпэрыялізму, здэмаскаваў перад усім сьветам падрыхтоўваемы на 1931 год узброены напад на краіну пераможнага будаўніцтва сацыялізму—на СССР. Фашыстоўскай Польшчы ў гэтых інтэрвэнцыйных плянах адведзена выдатнае месца. Фашыстоўская Польшча цаной захопу Украіны і Беларусі павінна дастаўляць асноўны салдацкі кантынгент — гарматняе рабоча-сялянскае мяса, яна павінна непасрэдна павесьці інтэрвэнцыйнае наступленьне супроць Савецкага Саюзу.

Гэтыя надзвычайна складаныя палітычныя абставіны з вялікай настойлівасьцю высунулі перад польскім фашызмам задачу неадкладнага ўзмацненьня пахіснутай фашыстоўскай дыктатуры і ўспраўненьня ўсей сыстэмы дзяржаўнага апарату, прыстасаванага да падрыхтоўваемай вайны супроць рабочае клясы Польшчы і супроць СССР. З гэтай мэтай і былі распісаны выбары ў сойм.

Якія-ж вынікі фашыстоўскіх выбараў? Калі ацэньваць іх на падставе лічбовых данных, апублікаваных фашыстоўскімі ўладамі, дык атрымаецца малюнак „поўнай перамогі Пілсудзкага“. Санацыя атрымала 248 мандатаў з 444 у сойм і яшчэ больш значную большасьць у сэнат. Бязумоўна, ніхто не прабуе сур'ёзна цьвердзіць, што гэтыя лічбовыя данныя хоць-бы сабе ў якой колечы прыблізнай ступені адбіваюць сапраўды суадносіны клясавых сіл у Польшчы.

Выбары адбываліся ў варунках самага адкрытага цынічнага гвалту над рэвалюцыйным антыфашыстоўскім лягерам. Рабочых і сялян арыштоўвалі сотнямі, зьбівалі, забівалі, забаранялі сходы, мітынгі, скасоўвалі рабоча-сялянскія сьпіскі, арыштоўвалі падпісаўшых гэтыя сьпіскі. На Зах. Украіне бушавалі (як бушуюць і да цяперашняга часу) карныя ўланскія палкі. На Зах. Беларусі былі разгромлены ўсе лягальныя рабоча-сялянскія арганізацыі. Ва ўсёй Польшчы шоў пагалоўны паліцэйскі вобыск, Польшча па сутнасьці была ператворана ў пагалоўны паліцэйскі вучастак, у якім усеўладна панаваў фашыстоўскі штых.

Але ня гледзячы на ўвесь разгул тэрару, ня гледзячы на прымусовае галасаваньне „пад музыку“ і ў прысутнасьці паліцыі—фашыстам прышлося ў апошнюю хвіліну зьвярнуцца да простай падмены вынікаў, да сфальсіфікаваных вылічэньняў, каб атрымаць неабходную пілсудчыкам большасьць у сойме.

Нават буржуазная прэса з гіроніяй канстатуе, што „любоў да Пілсудзкага ўзрастала ў напрамку з Захаду на Ус-

ход". Асабліва „горача і прыяцельскі" сустрэлі Пілсудзкага і яго кандыдатаў на Зах. Беларусі. Графы і абшарнікі Скірмунты і Радзівілы, Чапскія, Тышкевічы і ваяводы—каты „атрымалі" ад „удзячных" крывавым акупантам-рабочых і сялян-беднякоў усе мандаты ў сойм і сэнат. Ня менш рашучую „перамогу" атрымаў Пілсудзкі і на Зах. Украіне. Фальсіфікацыя, самая вачавідная і нахабная фальсыфікацыя выбараў на так званых „крэсах" ня выклікае ні ў каго ніякага сумненьня.

Ня менш яскравы малюнак наглядаўся і ў прамысловых раёнах Польшчы. У часе выбараў у Варшаве, калі агалашаліся першапачатковыя вынікі, было відавочна, што рэвалюцыйны сьпіс рабоча-сялянскага адзінства атрымае мінімум тры мандаты, г. зн. значную большасьць галасоў рабочага насельніцтва Варшавы. Але раптам... рахунковая машына „сапсавалася", прадстаўнікоў рабоча-сялянскага адзінства ў выбарнай камісіі арыштавалі—і пасьля гэтага ў іх адсутнасьці атрымаўся „іншы" вынік!

Аднак, ня гледзячы на непамерна цяжкія і складаныя варункі, Кампартыя здолела ня толькі адбіць атаку ўсяго аб'яднанага фашыстоўскага лягеру, але і павесьці шырачэзныя масы ў контрнаступленьне і разьбіць усе рагаткі шалёнага тэрару. Рабоча-сялянскія масы правялі ў фашыстоўскі сойм сваіх дэпутатаў ад асноўных пралетарскіх асяродкаў. Няма ніякага сумненьня, што сьпіс рабоча-сялянскага адзінства атрымаў пераважаючую колькасьць рабочых галасоў ва ўсіх рашаючых прамысловых асяродках Польшчы. Варшава Лодзь, Дамброўскі басэйн сталі яшчэ больш моцнымі цытадэлямі кампартыі Польшчы.

Галоўны вораг польскай рэвалюцыі ў рабочым руху—сацыял-фашызм быў біты ва ўсіх асноўных рабочых раёнах. Гэты момант падкрэсьлівае „Газэта Польска" (5-XII): „У гарадзкіх і рабочых асяродках (ППС) прадэманстравала поўную мізэрнасьць свайго рэклямаванага перад выбарамі пераважаньня". Сур'ёзнае паражэньне ППС і ўсяго Цэнтралеву ў часе выбараў і рост уплыву Кампартыі сьведчаць, што пад бальшавіцкім кіраўніцтвам кампартыі рабоча-сялянскія масы зрабілі далейшы крок па рэвалюцыйнаму шляху ўсьведамленьня сапраўднай здрадніцкай ролі сацыял-фашызму.

Яшчэ больш рашучы ўдар нанесла Кампартыя беларускім і ўкраінскім нацыянал-фашыстам—Астроўскім, Луцкевічам, Акінчыцам і праваму ўкраінскаму „Сельробу". Ня гледзячы на значную фінансавую і паліцэйскую дапамогу, якую атрымалі Луцкевічы з боку фашыстоўскага ўраду, яны сабралі мізэрны лік кулацкіх галасоў, разведзеных невялічкай часткай яшчэ няўсьведаміўшых здрадніцтва нацыянал-фашыстаў адносна да беларускіх працоўных сялян.

Увесь Цэнтралеў і ўсе апазыцыйныя „левыя" групоўкі панесьлі сур'ёзнае паражэньне ў выбарах. Яны не пробавалі і не маглі супроцьставіць урадаваму блёку сваёй разгорнутай палітычнай праграмы ратаваньня фашыстоўскай Польшчы. „Вышукваючы прынцыповых палітычных розьніц, якія быццам існуюць паміж урадовымі групоўкамі ў Польшчы і паміж цэнтралевай апазыцыяй, мы ня можам знайсьці нічога істотнага"—гаворыць пілсудчыкаўская „Рэпубліка" (20-IX 1930 г.).

Усе маючыяся і абвастраючыяся на падставе нарастаньня агульна-палітычнага крызысу цярці ўнутры фашыстоўскага лягеру, застаюцца ў межах прынцыпова агульнага клясавага фронту, які спічаком сваім накіраваны супроць працоўных мас. Палкія спрэчкі паміж санацыяй і апазыцыяй, якія часова вялися нават „Бярэсьцейскімі" мэтадамі, па сутнасьці заставаліся ўнутранымі спрэчкамі па пытаньню аб шляхох і мэтадах ратаваньня фашыстоўскага рэжыму і здушэньня надыходзячай сацыялістычнай рэвалюцыі. Напракі псэўда-рэвалюцыйнай і дэмакратычнай фанфаранадзе Цэнтралеву на чале з ППС і напракі патрыятычна-каталіцкай дэмагогіі НД, працэс далейшай кансалідацыі ўсіх антырэвалюцыйных сіл на падставе кіруючай ролі пілсудчыны працягвае пасоўвацца наперад.

Асабліва яскрава вызначылася зьбліжэньне Пілсудзкага з НД, якая атрымала значны прырост галасоў, выкарыстоўваючы ўзрастаючае нездаволь-

ства шырокіх колаў польскай гарадзкой дробнай і сярэдняй буржуазіі. Зараз-жа пасьля выбараў выявілася далейшая кансалідацыя ўсяго буржуазнага лягеру ад ББ да НД-каў і ППС, уключаючы буржуазію прыгнечаных народаў. Яўрэйская буржуазія зьнімае апазыцыйную маску (аднак, ужо моцна зьліняўшую ў папярэдні пэрыяд) і адкрыта сьпявае дыфырамбы санацыі. „Наш Пшэглёнд" ад 2 і 6 сьнежня піша: „На сваіх сьпісках яна (санацыя) гатова паставіць побач з католікам-евангеліста, побач з палякам—украінца і яўрэя, побач з ксяндзом—пастара і рабіна. Эндэцыя нападае на яе за рэлігійную і нацыянальную цярпімасьць, а санацыя зусім ня крыўдзіцца, а крочыць наперад па выбранай заходня-эўрапэйскай дарозе"... „Той факт, што з аднаго боку—апынулася польская партыя, якая зьмешчае на сваёй лісьце і яўрэяў і іншых інародцаў, а з другога—што яўрэі галасуюць на польскую партыю г. зн. ББ—гэты факт ламае аблюбаваную эндэкамі ўсходнюю сыстэму".

Украінскія нацыяналісты таксама рэтыруюцца з дэмагагічных пазыцый УВО і пераключаюцца на рэйкі адкрытага падтрыманьня польскіх акупантаў. Украінская буржуазія і кулацтва працягваюць даўно пачаўшыся працэс зьбліжэньня з польскай буржуазіяй, што ў свой час знайшло яскравае выражэньне ў ваенным саюзе Пятлюры з Пілсудзкім. „Дило", цэнтральны орган УНДО, піша, што „галасаваньне супроць дзяржаўнага бюджэту — гэта бескарысны крок", што „цэнтральны пункт украінскай праблемы ляжыць на Дняпры", а не ў Заходняй Украіне, і што таму „прадстаўнікі ўкраінцаў у сойме павінны ў сваіх выступленьнях патрабаваць актуалізацыі вызваленчых імкненьняў нашых братоў па той бок Збруча". „Як будуць выглядаць заходнія мяжы будучай украінскай дзяржавы—гэта не пытаньне сёньняшняга дню". Гэтая палітычная лінія УНДО зусім нядвухсэнсоўна гаворыць аб поўным уключэньні УНДО у пілсудчыкоўскі беспартыйны блёк.

Беларускія кулацкія запявалы—Луцкевічы, Астроўскія і Ко таксама пераводзяць усе свае аплочаныя дэфэнзывай сілы на шалёнае цкаваньне БССР і на абарону злоўленых на сьвежым учынку шпіёнаў польскага гэнштабу—нацыянал-дэмакратаў у БССР Лёсікаў, Некрашэвічаў, Ластоўскіх і г. д.

Фашызм выходзіць пасьля выбараў больш скансалідаваным, з больш удасканаленым і гібкім дзяржаўным апаратам. Зноў створаны „парлямэнцкі" ўрад Славэка, ваенізаваны ў поўным значэньні гэтага слова, спрабуе ўсімі спосабамі рэалізаваць пляны буржуазнага вырашэньня крызысу. Але аб'ектыўная сытуацыя ў фашыстоўскай Польшчы не зьмянілася. Выбары не затрымалі і не маглі затрымаць паглыбляючагася працэсу распаду фашыстоўскай дыктатуры. Сілы фашыстоўскага лягеру аказаліся надта слабымі, каб даць рэальную эканамічную базу для больш трывалай кансалідацыі буржуазных сіл, а тым больш, каб разьбіць асноўныя атрады надыходзячай рэвалюцыі, каб зламіць рэвалюцыйную магутнасьць адзінага антыфашыстоўскага рабоча-сялянскага блёку кіруемага кампартыяй.

Барацьба разгараецца. Нямінучае далейшае паглыбленьне эканамічнага крызысу і ўзрост радыкалізацыі масаў будзе зноў і зноў узмацняць унутраныя супярэчнасьці і выклікаць новыя цярці ў лягеры фашызму. Фашызм наступае на зарплату, на сацыяльнае страхаваньне, на рабочы дзень, павышае кватэрную плату, павялічвае падатковае ярмо.

Набліжаюцца рашучыя баі рабочае клясы, падрыхтоўваюцца забастоўкі ва ўсіх асноўных галінах прамысловасьці, падымаецца новая магутная хваля рэвалюцыйных выступленьняў беспрацоўных. Зноў запальваюцца панскія фальваркі на Зах. Украіне. Яўныя адзнакі сялянскіх выступленьняў у Зах. Беларусі ўсе больш адчуваюцца. Раз'ядналыя да гэтага часу сялянскія выступленьні ў караной Польшчы пачынаюць прымаць усё больш масавы характар. Зьяўляюцца шчэліны дзе-ні-дзе і ў дзяржаўным апараце гвалту; пачынаюцца—пакуль яшчэ адасобненыя—салдацкія выступленьні... Адначасна набліжаецца тэрмін ваеннай інтэрвэнцыі супроць СССР...

Перад кампартыяй паўстаюць адказьнейшыя задачы. Неабходна разьбіць пляны фашызму, якія нясуць вайну працоўным масам усей Польшчы і Савецкаму Саюзу. Неабходна адбіць атаку капіталу на зарабковую плату і рабочы дзень і павесьці рабочую клясу ў контрнаступленьне і наступленьне напракі фашыстоўскаму тэрару і здрадзе сацыял-фашыстоўскіх правадыроў. Неабходна арганізаваць барацьбу беспрацоўных за хлеб і працу, за сацыяльнае страхаваньне для ўсіх беспрацоўных, неабходна злучыць барацьбу працуючых яшчэ і беспрацоўных пралетарыяў у рэвалюцыйных прафсаюзах і прафсаюзнай лявіцы. Неабходна ўзмоцніць барацьбу за вуліцу, энэргічна ствараючы масавую самаабарону. На чаргу дня ставіцца пытаньне аб рашучым падтрыманьні і разьвіцьці ўсіх форм барацьбы працоўнага сялянства і прыгнечаных народаў. Кампартыя павінна ва ўсей паўнаце паставіць перад працоўнымі масамі праблему рэвалюцыйнага выхаду з крызысу, арганізаваць і разгарнуць барацьбу мільённых мас за зваленьне фашызму, за самавызначэньне ЗБ і ЗУ аж да аддзяленьня і аб'яднаньня з БССР і УССР, за Савецкую Польшчу. Кампартыя павінна ўжываць шырока і чынна тактыку адзінага фронту зьнізу, павінна супроцьставіцца адкрытаму фашызму, які пранікае ў тыя альбо іншыя пласты рабочае клясы і з усей моцаю дэмаскаваць контр-рэвалюцыйную сутнасьць сацыял-фашызму, які зараз пасьля паражэньня ў выбарах разгорне яшчэ больш дэмагагічнае ўжываньне апазыцыйнай і „рэвалюцыйнай“ фразы. Кампартыя павінна падымаць эканамічную барацьбу працоўных на вышэйшы палітычны ўзровень, усімі сіламі арганізаваць палітычныя забастоўкі, якія выхоўваюць масы для вялікай рэвалюцыйнай барацьбы, за зваленьне фашызму.

І перад усім, кампартыя павінна бязупынна біць у алярм і мабілізаваць шырачэзныя масы на барацьбу супроць падрыхтоўкі вайны супроць СССР. Узмацненьне фашыстоўскага апарату дыктатуры, паглыбленьне ўнутраных супярэчнасьцяў, рост рэвалюцыйнага руху, а адначасна магутны рост сацыялістычнага будаўніцтва ў СССР штурхаюць буржуазію на прысьпяшэньне падрыхтоўкі вайны.

Выбары цалкам і поўнасьцю пацьвердзілі слушнасьць палітычнай лініі партыі і банкруцтва „лева“-апартуністычных установак правай групы у КПП, якая прадракала, што ППС на чале з Цэнтралевам пераходзіць да барацьбы за замену фашыстоўскага ражыму новым выданьнем парлямэнцка-дэмакратычнай сыстэмы кіраваньня.

V зьезд КПП, які выкаваў бальшавіцкую лінію партыі, у жорсткай барацьбе на два фронты, супроць правай небясьпекі, як галоўнай у сучасны момант, і „левых“ заскокаў, які згуртаваў партыю ў барацьбе супроць апартуністычнай групы Варскага - Кястшэвы— бальшавіцкі V зьезд КПП дае гарантыю, што Кампартыя напракі усім труднасьцям, выканае тыя гістарычныя задачы, якія перад ёю стаяць.

**„ІДУЧЫ НАПЕРАД РАЗАМ З МАСАМІ І НА ЧАЛЕ МАС, УЗДЫМАЮЧЫ РУХ НА ЎСЁ БОЛЬШ ВЫСОКІ РОВЕНЬ І НАБЛІЖАЮЧЫ МАСЫ Ў ЧАСЕ ШТОДЗЁННЫХ БАЁЎ ДА БЕСПАСРЭДНАЙ БАРАЦЬБЫ ЗА ЎЛАДУ, ЗА РАБОЧА-СЯЛЯНСКІ ЎРАД, ЗА ДЫКТАТУРУ ПРАЛЕТАРЫЯТУ, ПАРТЫЯ ВЯДЗЕ МАСЫ ДА РЭВАЛЮЦЫЙНАГА ВЫРАШЭНЬНЯ КРЫЗЫСУ ПРАЗ УЗБРОЙНАЕ ПАЎСТАНЬНЕ РАБОЧЫХ, СЯЛЯН І САЛДАТ“.** (З пастаноў 5 з'езду КПП).

Д. Боген.

# Небясьпека антысавецкай інтэрвэнцыі.

Сусьветны імпэрыялізм гарачкова рыхтуецца да ваеннай інтэрвэнцыі супроць Савецкага Саюзу. Калі ў Жанэве адбывалася чарговая камэдыя, арганізаваная праз Лігу Нацый, так званая канфэрэнцыя па „разбраеньню“, у гэты самы час сапраўдны твар ваенных замераў поўнасьцю выкрыты савецкай дэлегацыяй на чале з тав. Літвінавым, і працоўныя масы ўсяго сьвету яшчэ раз пераканаліся з усей відавочнасьцю ў сур'ёзьнейшай пагрозе надыходзячай вайны—інтэрвэнцыі супроць Савецкага Саюзу з боку сусьветнага імпэрыялізму.

Органамі ГПУ СССР — гераічным абаронцай заваёў Кастрычнікавай рэвалюцыі—выкрыта ў Савецкім Саюзе контр-рэвалюцыйная шкодніцкая арганізацыя („Прампартыя“). Гэтая белагвардзейская арганізацыя, якая стварылася француcкім генэральным штабам і працавала на грошы француcкіх і польскіх імпэрыялістых, маральна і матар'яльна кіравалася вядомым арганізатарам ваенных інтэрвэнцыі супроць СССР ў 1918 г., сусьветным катам Пуанкарэ-вайна і ілжа-міратворцам езуітам Брыянам. Верхаводамі гэтай арганізацыі былі былыя царскія генэралы, буйныя ўласьнікі і фінансісты, белагвардзейская эміграцыя ў Францыі пад назваю „Торгпром“.

Апублікаваныя паказаньні арыштаваных контр-рэвалюцыянэраў шкоднікаў, асабліва іх „правадыра“ прафэсара Рамзіна, і ход працэсу над гэтай белагвардзейскай бандай выкрываюць жудасны малюнак шкодніцтва і бязьмежнай подласьці, падрыхтоўкі да ваеннай інтэрвэнцыі з боку сусьветнага імпэрыялізму на чале з Францыяй. Тэрмін інтэрвэнцыі па плянах францускага і польскага імпэрыялізму быў вызначаны на лета 1930 г., а потым перанесены на 1931 год.

За грошы, якія сусьветны імпэрыялізм выціскае з працоўных мас Францыі, Польшчы, Румыніі і іншых, за мільёны доляраў, якія імпэрыялізм шчодра выдаваў шкоднікам, „прампартыя“ павінна была перашкаджаць і сарваць пяцігадовы плян сацыялістычнага будаўніцтва ў Савецкім Саюзе (пяцігодку), разбурваць машыны, узрываць фабрыкі і капальні, разбураць транспарт, аслабляць абароназдольнасьць СССР, выклікаць голад і недахоп тавараў у Савецкім краі, арганізаваць дывэрсыйныя банды, тварыць арганізаваны шпіянаж для імпэрыялістычных генэральных штабаў, каб прысьпешыць ваенную інтэрвэнцыю супроць СССР, зрабіць магчымай капіталістычную рэстаўрацыю ў СССР, зьвярнуць абшарнікам зямлю, што адабрала Кастрычнікавая рэвалюцыя, фабрыкантам—фабрыкі, капальні, і вярнуць назад царскую генэральскую ўладу.

Першы раз інтэрвенцыя была вызначана на лета 1930 г. Плян сарваўся дзякуючы росту і посьпехам пяцігодкі, дзякуючы магутнаму росту рэвалюцыйнага руху працоўных мас у капіталістычных краінах. Але француcкія, польскія імпэрыялістыя не адмовіліся ад сваіх крывавых замераў і адтэрмінавалі пачатак інтэрвэнцыі на 1931 год. Небясьпека ваеннай інтэрвэнцыі за гэты час ня зьменшылася, наадварот, за апошнія часы яна яшчэ больш вырасла. Ніякія дэмагагічныя абвяржэньні імпэрыялістых, накіраваныя да таго, каб усыпіць чуйнасьць працоўных мас і спакойна скончыць справу інтэрвэнцыі, ня могуць замаскаваць гэтага факту, што сусьветны імпэрыялізм гарачкова рыхтуе паход на СССР.

Францускі і польскі імпэрыялізм, як і ўвесь міжнародны імпэрыялізм ліхаманкава ўзбройваецца да вайны супроць СССР, да новай сусьветнай вай-

ны. Толькі на працягу апошніх пяці год ваенныя бюджэты вялікіх дзяржаў вырасьлі на 27 проц. Толькі адны Злучаныя Штаты рыхтуюць да будучай вайны армію ў 3 мільёна 250 тысяч чалавек, 15 тысяч гармат, 6 тысяч танкаў, 5 тысяч самалётаў і 200 тысяч аўтамабіляў. Францускі ўрад унёс у свой парлямэнт прапазыцыю аб павялічэньні свайго ваеннага бюджэту на 750 мільёнаў франкаў. У 1918 г. усе ваюючыя арміі мелі ўсяго 300 тысяч аўтамабіляў, а зараз адны толькі чатыры вялікія дзяржавы (Злучаныя Штаты, Англія, Францыя, Нямеччына) маюць 29 мільёнаў. Англія, Злучаныя Штаты і Францыя разам маюць 13.566 ваенных самалётаў, ня лічучы вялізарнай колькасьці пасажырскіх самалётаў, якія на выпадак вайны лёгка перарабіць у ваенныя. У той час калі ў СССР на 1.000 жыхароў прыходзіцца 3 чырвонаармейцы, у суседніх краёх з СССР на кожных 1.000 жыхароў прыходзіцца 11 салдат. За апошнія 7 гадоў толькі сумежныя з СССР арміі павялічылі свой склад на 100 тысяч салдат. Усе прапазыцыі савецкай дэлегацыі ў Жанэве аб сапраўдным разбраеньні сустрэлі аднадушны адпор з боку ўсіх імпэрыялістычных дзяржаў.

Хлусьлівая антысавецкая кампанія аб так званым „савецкім дэмпінгу“, аб чым крычаць паўсюды ўсе буржуазныя і сацыял-фашыстоўскія газэты, кампанія, якая праводзіцца пад кіраўніцтвам вядомага нафтавага магната і натхніцеля антысавецкага паходу, Дэтэрдынга, зьяўляецца ў рэчаістасьці **падрыхтавальным вагнём да вайны супроць СССР.** Нават буржуазная француская газэта „Рэспубліка“, апісваючы антысавецкую кампанію пра так званы „дэмпінг“, вымушана заявіць: **„мэта гэтай кампаніі—апраўдаць палітыку Клемансо і Мільерана ў 1920 годзе“,** г. зн. палітыку ваеннай інтэрвэнцыі супроць СССР.

У падрыхтоўцы да ваеннага паходу супроць СССР самы актыўны ўдзел прымаюць нацыянал і сацыял-фашысты, увесь II Інтэрнацыянал. За апошнія часы асабліва ўзмацнілася антысавецкая кампанія з боку сацыял-фашыстаў, прычым яны выпярэдзілі нават буржуазную прэсу ў мэтадах антысавецкай хлусьні. Заклік II Інтэрнацыяналу да ўзбройнага паўстаньня супроць савецкай улады цалкам і поўнасьцю супадае з плянамі інтэрвэнтаў, з мэтамі і задачамі выкрытай у СССР органамі ГПУ шкодніцкай контррэвалюцыйнай арганізацыі „прампартыі“.

Асабліва рыхтуецца да вайны фашыстоўская Польшча, Румынія і прыбалтыцкія дзяржавы. У паказаньнях шкоднікаў „прамысловай партыі“ гаворыцца, што **на ПОЛЬШЧУ і Румынію імпэрыялісты ўсклалі „пачэсную“ ролю застрэльшчыкаў антысавецкага паходу.** Што гэта праўда, сьцьвярджаюць самі румынскія і польскія імпэрыялісты. Румынская фашыстоўская газэта „Нэамул-Романеска“ патрабуе далейшага пашырэньня ваенных эканамічных і палітычных сувязяў паміж Румыніяй і Польшчай, падкрэсьліваючы, „што інтарэсы абодвух краёў супадаюць“ і трэба ўзброіцца да зубоў, каб **„падрыхтавацца да тэй ролі, якую прыдзецца адыграць у выпадку вайны супроць СССР“.** Румынія ліхаманкава рыхтуецца да вайны; яна будуе ваенны порт у Канстанцы, каб арганізаваць завоз „ангельскіх, францускіх ваенных параходаў з ваеннымі матар'яламі і прыпасамі для Польшчы, Румыніі, Юга-Славіі і Чэха-Славакіі“. Мяркуецца стварыць аднастайную армію з агульным генэральным штабам для гэтых 4-х вышэйпамянёных краін.

Ангельскі ваенны аташэ С. Кокс раз'яжджае па **прыбалтыцкіх дзяржавах,** вывучаючы мясцовасьці будучай вайны. Францускія генштабісты раз'яжджаюць па Польшчы, Румыніі і Балтыцкіх краёх. Ідзе сталы абмен „візытамі“ паміж Польшчай, Румыніяй і Прыбалтыцкімі краямі з мэтаю замацаваць адзіны антысавецкі фронт. Аграрная канфэрэнцыя ў Варшаве і Бухарэсьце таксама мела на мэце ўзмацніць антысавецкі гаспадарчы фронт, каб кіраваць эканамічнай блёкадаю супроць СССР. Фашыстоўская Фінляндыя адкрыта пагражае вайной супроць СССР, пагражаючы жыцьцю Савецкага поўнамоцнага прадстаўніка ў Фінляндыі. Кіраўнік Латвійскага генштабу адкрыта заяўляе, што латвійская армія рыхтуец-

ца да вайны супроць СССР. Большасьць трохмільярдовага бюджэту фашыстоўскай Польшчы ідзе на армію і паліцыю. Адна толькі галіна прамысловасьці ў Польшчы, на якой не адбіўся ўсё паглыбляючыся эканамічны крызыс—гэта польская ваенная прамысловасьць, Польскі фашызм рыхтуецца да ваеннага нападу супроць СССР, імкнучыся пры дапамозе гэтай вайны знайсьці выхад з свайго цяжкага крызысу. Уся фашыстоўская прэса перапоўнена антысавецкімі цкаваньнямі і хлусьнёю. Каб падрыхтаваць масы да вайны і ўгаварыць іх у „лёгкай перамозе" над непераможнай Чырвонай арміяй, каб скампрамэтаваць сацыялістычнае будаўніцтва ў СССР, распаўсюджываюцца розныя паклёпы аб нібыта сталых „бунтах", аб „гаспадарчым заняпадзе", „аб распадзе" магутнага руху калектывізацыі і г. д. у Савецкім Саюзе.

Нячувана жорсткі тэрар і фашыстоўскія „выбары" у сойм, накіраваныя супроць магутнага росту рэвалюцыйнага руху працоўных мас у Польшчы, зьяўляюцца ў сапраўднасьці выходным пунктам для вайны супроць СССР. Так уласна адкрыта ацаніла вынікі „выбараў" у Польшчы кансэрватыўная ангельская газэта „Дэйлі Мейль". Француская газэта „Фігаро„ адкрыта заяўляе, што ў выніку „выбараў" фашыстоўскі сойм зможа „супроцьставіцца тым, хто спробаваў-бы пагражаць тэрытарыяльнай цэласьці Польшчы". У гэтым-жа духу кажа другая буржуазная газэта „Ом-Лібр", паказваючы на „важную гістарычную ролю Польшчы, абумоўленую яе геаграфічным становішчам",—ролю застрэльшчыка ў ваенным паходзе супроць СССР. Францускі друк адкрыта і шчыра падкрэсьлівае, што вынікі выбараў у Польшчы азначаюць ўзможаньне падрыхтоўкі нападу на СССР.

Крывавыя пагромы, якія чыняць польскія акупанты над працоўнымі масамі Зах. Украіны, якія працягваюцца ў форме карных экспэдыцый ужо больш 3-х месяцаў, перанясеньне сыстэмы карных экспэдыцый на тэрыторыю Зах. Беларусі, недапусканьне да выбарных урнаў украінскіх і беларускіх працоўных мас, нястрыманы разгул ваеншчыны, паліцыі і шпікоў, узмоцненыя гарачковыя ваенныя мерапрыемствы на гэтых абшарах—даказваюць, што польскі фашызм, прытрымліваючыся строга вызначаных тэрмінаў інтэрвэнцыі, робіць усё, каб затапіць у моры крыві Зах. Украіну і Зах. Беларусь, каб такім чынам забясьпечыць сабе „супакой" на гэтым важным фарпосьце будучай вайны.

Савецкі Саюз ня хоча вайны. Працоўныя масы СССР заняты вялікай гістарычнай справаю — яны будуюць сацыялізм, узмацняюць гаспадарчую моц Савецкага Саюзу, пасьпяхова выконваюць грандыёзную справу—выкананьне пяцігодкі у чатыры гады, разгортваюць калектывізацыю сельскай гаспадаркі і на яе базе—ліквідуюць кулацтва як клясу—гэту апошнюю апору сусьветнага імпэрыялізму. Менавіта гэта імпэрыялістычныя інтэрвэнты хочуць сарваць. Для іх існаваньне Савецкага Саюзу, бацькаўшчыны ўсіх працоўных і прыгнечаных, бурны гаспадарчы рост Савецкага Саюзу ў той час, калі ўвесь імпэрыялістычны сьвет знаходзіцца ў жорсткіх ціскох эканамічнага крызысу, зьяўляецца непасрэднай пагрозай для іх уласнага панаваньня, для іх палітыкі далейшай грабежы ў калёніях, прыгнечаньня сваіх уласных працоўных мас і нацыянальных меншасьцяў. На імпэрыялістычныя замеры, на контррэвалюцыйныя падкопы белагвардыйскіх банд унутры Савецкай краіны мільённыя працоўныя масы Савецкага Саюзу адказалі адзінадушным магутным узрывам на тысячах і дзясятках тысячах сходаў, мітынгаў і магутных дэманстрацыяў. „Сусьветнай буржуазіі і белабандытам не ажыцьцявіць сваіх крывавых замахаў на вялікія заваёвы Кастрычніка" — так рашуча, цьвёрда заяўляюць працоўныя СССР. Пад пераможнымі сьцягамі ленінскай партыі пралетарыят і працоўныя СССР наперакор імпэрыялістым і шкоднікам, у жорсткай барацьбе з клясавым ворагам, будуць будаваць сацыялізм і калі патрабуецца—стануць грудзьдзю на абарону сваей Савецкай краіны.

Працоўныя масы Польшчы, Зах. Беларусі і Зах. Украіны ня могуць спа-

койна аднесьціся да гэтых шалёных антысавецкіх падрыхтовак польскага імпэрыялізму. Ні на хвіліну нельга запамятаць, што гэтая небясьпека зьяўляецца беспасрэднай, что польскі імпэрыялізм рыхтуе інтэрвэнцыю на 1931 г. На фабрыках, заводах, на вёсцы, у маёнтках, фольварках — усюды павінен разьнесьціся магутны голас працоўных мас супроць вайны, супроць інтэрвэнтаў, у абарону СССР, адзінай бацькаўшчыны ўсіх працоўных. Барацьба супроць імпэрыялістычных плянаў вайны з СССР ня можа правадзіцца толькі кампанейскі толькі ў аднаразовым парадку,--яна павінна праводзіцца штодзённа; трэба стала высьвятляць масам вялізарную небясьпеку, якая зьвязана з гэтай вайной, трэба мабілізаваць масы да рэвалюцыйных выступленьняў супроць ваенных плянаў польскага імпэрыялізму, супроць яго верных агентаў—сацыял і нацыянал-фашыстых. Партыя павінна асабліва паглыбіць працу сярод салдат. Рэвалюцыйныя выступленьні салдат у Рэмбартове, Катавіцах, Варшаве і г. д. паказваюць, што рэвалюцыйны фэрмэнт ужо прасякае ў асяродзішча салдацкіх мас, ахоплівае ўсё больш і больш шырокія масы рабочых і сялян, апранутых у салдацкія шынэлі. Праца сярод арміі павінна стаць працаю не адных паасобных таварышоў, але працаю ўсей партыі.

V з'езд кампартыі Польшчы востра падкрэсьліў: „Ад сталай чуйнасьці міжнароднага пралетарыяту, ад яго зацятай барацьбы ў абарону СССР, ад ступені актыўнасьці камуністычных партый у арганізацыі і разгортваньні клясавых баёў, ад сыстэматычнага набліжэньня мільённых мас да рэвалюцыйнага штурму на капіталістычны лад, да рашаючых баёў за ўладу—будзе залежыць разьбіцьцё злачынных ваенных плянаў буржуазіі, якія расстрайваюцца дзякуючы няўхільнай мірнай палітыкі савецкага ўраду“...

Уся КПЗБ, якая працуе на адказнейшым вучастку рэвалюцыйнага фронту, павінна мабілізаваць мільённыя працоўныя масы ЗБ на абарону СССР і на барацьбу супроць фашыстоўскай дыктатуры і яе ваенных плянаў.

---

**„Кожны факт ліхаманкавых ваенных падрыхтовак, кожны правакацыйны выпад супроць СССР, кожны акт мірнай палітыкі СССР мы павінны выкарыстоўваць для мабілізацыі мас да барацьбы супроць вайны“.** (З пастаноў 5 з'езду КПП).

**Паўлюк.**

# Аб права-„левацкім“ блёку ва ЎсеКП(б).

Пралетарыят Савецкага Саюзу пад пераможным кіраўніцтвам УсеКП(б) разгорнутым фронтам вядзе наступленьне на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі, пасьлядоўна і рашуча ажыцьцяўляе генэральную ленінскую лінію партыі, зьдзейсьняе пяцігодку ў чатыры гады.

На аднэй шостай частцы зямной кулі творчым уздымам і сацыялістычным спаборніцтвам рабочай клясы і асноўных мас працоўнага сялянства перакрайваецца ўся эканоміка і грамадзкае жыцьцё. З боям выбіваецца капіталізм, выкарчоўваюцца яго падставы. Ламаецца станавы хрыбет кулацка-капіталістычных контр-рэвалюцыянэраў і пасьледкі ўсяго векаваўшага, эксплёататарскага, крывавага і жываеднага.

За апошні год пяцігодкі яшчэ больш узмацнілася эканамічная моц дыктатуры пралетарыяту. Буйна вырасла рабочая кляса і палепшыўся яе матар'яльны і культурны дабрабыт.

Бедняцка-серадняцкія масы рашуча і беспаваротна сталі на шлях сацыялізму. Рабочая кляса пры апоры на беднату і ў саюзе з серадняцтвам, яшчэ больш узмацаваўшы гэты саюз, з посьпехам ліквідуе кулацтва, як клясу, на базе суцэльнай калектывізацыі. У раёнах суцэльнай калектывізацыі калгасьнік-серадняк побач з бедняком зьяўляецца сапраўднай апорай савецкай улады на вёсцы.

Ва ўмовах цеснага абкружэньня міжнародных драпежнікаў, перамагаючы ўсе цяжкасьці росту, пралетарыят і асноўныя масы сялянства пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі бальшавікоў, не адмяняючы НЭП'у, вялікімі крокамі праводзяць фарсаванае сацыялістычнае наступленьне.

Характарызуючы аграмадныя дасягненьні апошніх год краіны Саветаў, тав. Сталін кажа: „Мы ўжо ўвайшлі ў перыяд сацыялізму, бо сацыялістычны сэктар трымае цяпер у руках усе гаспадарчыя рычагі ўсяе народнае гаспадаркі, хаця да пабудовы сацыялістычнага грамадзтва і зьнішчэньня клясавых розьніц яшчэ далёка“.

Апошні год паказвае з усёй вычаціднасьцю гэтыя гіганцкія дасягненьні сацыялізму.

Прырост прадукцыі плянавай прамысловасьці складае 23%, у тым ліку па вытворству сродкаў вытворства—40%, капітальныя ўкладаньні ў прамысловасьці вырасьлі на 89% за адзін год; за два гады пяцігодкі капітальныя ўкладаньні ў прамысловасьці складалі 5 мільярдаў рублёў замест 3 мільярдаў 870 мільёнаў вызначаных пяцігадовым плянам.

Мінулы год у галіне ўздыму і сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі СССР паказвае рост пасеўнай плошчы на 7,4 млн. гэктараў; валавы ўраджай—на 22%. Узмацніўся сацыялістычны сэктар сельскай гаспадаркі. З кожным годам пачынае расьці станавы хрыбет перабудовы сельскай гаспадаркі — саўгасы. Яны ўжо засеялі 3,8 млн. гэктараў сваёй зямлі, а да будучага году падрыхтавалі больш 8 млн. гэктараў, замест 5 млн. га вызначаных да канца пяцігодкі. Пасеўная плошча калектыўных гаспадарак дасягнула 36 млн. га замест 20,6 млн. га, якія вызначаліся ў канцы пяцігодкі. У асноўных збожжавых раёнах яны ахапліваюць больш 40% усіх гаспадарак і $^{2}/_{3}$ усяго яравога пасеўнага кліну. У выніку гэтых вялізарных посьпехаў, саўгасы і калгасы даюць ужо ў гэтым годзе для дзяржавы 60% таварнага хлебу.

Такім парадкам на шляху разгорнутага сацыялістычнага наступленьня, што праводзіцца ЎсеКП(б), збожжавая праблема ў асноўным вырашана, а так-

сама з вялікімі посьпехамі вырашаюцца і праблемы жывёлагадоўлі і тэхнічных культур. Прырост збору хлапка складаў за мінулы год 60%, цукровых буракоў—150%. Да 1-га студзеня 1931 г. трэст па жывёлагадоўлі павінен быў мець 100 мясных саўгасаў з плошчай 13 млн. гэктараў і з'арганізаваць стада ў 1 мільён 100 тысяч галоў буйнай рагатой жывёлы.

Але-ж гэты плян на справе ўжо да 13-й гадавіны Кастрычніка перавыкананы. Зарганізавана 128 мясных саўгасаў, асвоена плошча зямлі ў 15,7 млн. гэктараў і арганізавана стада ў 1 мільён 4 тысячы галоў жывёлы.

Поплеч з гэтымі вялікімі дасягненьнямі маюцца і цяжкасьці, каторыя выражаюцца як у недавыкананьні якасных паказьнікаў у прамысловасьці, цяжкасьцях ў галіне забесьпячэньня, у галіне грашовага звароту, у галіне кадраў кваліфікаванай рабочай сілы, а таксама ў выніку абвастрэньня клясавай барацьбы ў выглядзе шкодніцтва, падрыву і сабатажу клясавага ворагу.

Усе гэтыя цяжкасьці зьяўляюцца толькі цяжкасьцямі росту, якія таяць у сябе сілы для іх перамажэньня.

І дзеля перамажэньня іх, на падставе аграмадных посьпехаў мінулага году, пралетарыят Савецкага Саюзу вызначыў яшчэ больш шпарчэйшыя тэмпы разьвіцьця народнай гаспадаркі Савецкага Саюзу на ўдарны квартал кастрычнік—сьнежань 1930 г., а менавіта: прырост прамысловай прадукцыі ў параўнаньні да IV кварталу 29-30 г. вызначаны на 46%, што ў два разы перавышае сярэдні тэмп росту прамысловай прадукцыі. Прырост усей лёгкай прамысловасьці вызначаны на 80% больш чым было ў IV квартале мінулага гаспадарчага году. За гэтыя тры месяцы будзе прынята на фабрыкі і заводы больш 120 тысяч новых рабочых. Бюджэт вызначаны па даходнай частцы—5 мільярдаў 107 млн. рублёў, па выдатковай—4 мільярды 496 млн. рублёў, што дае магчымасьць скласьці рэзэрв у 503 млн. рублёў.

Усе гэтыя гіганцкія дасягненьні аказваюцца магчымымі толькі пры дыктатуры пралетарыяту, пры гераічным творчым энтузіязьме рабочае клясы, пры цьвёрдым і маналітным кіраўніцтве Ўсесаюзнай Камуністычнай Партыі бальшавікоў. І „пытаньне: „хто каго“—ці сацыялізм пераможа капіталістычныя элемэнты ў прамысловасьці, ці яны перамогуць сацыялізм, ужо ў асноўным вырашана на карысьць сацыялістычных форм прамысловасьці“. (Сталін).

Такія высокія, нябачаныя ў гісторыі чалавецтва тэмпы гаспадарчага разьвіцьця і каранога паляпшэньня матар'яльнага, культурнага і бытавога становішча рабочае клясы і раней эксплёатаваных і прыгнечаных шырокіх асноўных мас працоўных—дасягаюцца ў завостранай клясавай барацьбе пры шалёным супраціве ўсіх сіл капіталу. Са ўсей вачавіднасьцю апраўдваюцца словы Леніна, што капіталізм „не памірае адразу, і тым больш шалёна супраціўляецца, чым бліжэй да сьмерці“.

Адміраючыя клясы—кулак, буржуазная інтэлігенцыя, толькі нядаўна выкрытыя іх контррэвалюцыйныя арганізацыі Рамзіных, Кандрацьцевых—Громанаў — Суханавых, выкрытая контррэвалюцыйная група беларускіх нацыянал-дэмакратаў і іншых шкоднікаў і падрыўнікаў сацыялістычнага будаўніцтва—з усіх сіл супраціўляюцца выкарчоўваньню карэньняў капіталізму, разгортваньню культурнай рэвалюцыі і выступаюць супроць сацыялізму. Яны стараюцца сарваць палітыку і працу Камуністычнай партыі бальшавікоў і скінуць савецкую ўладу.

Клясавая барацьба ва ўнутры краіны Саветаў абвастраецца іменна цяпер, калі міжнародныя імпэрыялістыя перажываюць паглыблены крызыс, калі капіталістычны сьвет разьдзіраюць ўнутраныя супярэчнасьці і нарастаньне рэвалюцыйнага ўздыму, на які робяць вялікі ўплыў посьпехі сацыялістычнай пяцігодкі СССР. Міжнародны капіталізм ставіць стаўку на ўзброены напад на СССР, выстаўляе тэрмін яго зьдзейсьненьня, арганізуе дывэрсыйныя бандыцкія вылазкі, шкодніцтва і падрывы, бяручы пад сваю апеку і кіраўніцтва контррэвалюцыю ўнутры СССР.

Клясавы вораг перад сваёй пагібельлю хапаецца за ўсялякія сродкі. Супраціўленьне адміраючых клясаў ў

Савецкай краіне і даўленьне дробнабуржуазнага асяродзішча адбіваецца на найменш устойлівых і загартаваных элемэнтах пралетарыяту, што перадаецца на паасобныя, няўстойлівыя элемэнты ў партыі, якія фактычна робяцца ў ёй агентурай адміраючых клясаў.

Партыя Леніна, якая цьвёрда загартавана прынцыпам бальшавіцкай няпрымірымасьці да ўхілаў ад генэральнай лініі партыі, заўсёды вяла няшчадную барацьбу на два фронты, як супроць правых, гэтак і „левых“.

Партыя разграміла трацкізм, які адбіваў, як кажа тав. Сталін, „двухзначнае становішча руйнуючайся гарадзкой дробнай буржуазіі, якая ня церпіць „рэжыму“ дыктатуры пралетарыяту, якая стараецца альбо пераскочыць „адразу“ у сацыялізм, каб пазбавіцца ад руйнаваньня (адгэтуль авантурызм і істэрыка ў палітыцы), альбо, калі гэта магчыма, пайсьці на любыя ўступкі капіталізму (адгэтуль капітулянцтва ў палітыцы)“. Яна нанесла сакрушальны ўдар праваапартуністычнаму ўхілу на чале з Бухарыным, Рыкавым, Томскім і Угланавым, прадстаўляўшаму дробнабуржуазны лібералізм, сіла якога як і іншых „знаходзіцца ў сіле дробнабуржуазнай стыхіі, у сіле напору на партыю з боку капіталістычных элемэнтаў наогул, з боку кулацтва—у асаблівасьці“ (Сталін).

Нацiск дробнабуржуазнай стыхіі, абвастрэньне клясавай барацьбы і труднасьці росту зьяўляюцца крыніцай выяўленьня новай апазыцыі ва УсеКП(б) у выглядзе права-„левага“ блёку на чале з Сырцовым, Ламінадзэ і Шацкіным. Гэты блёк склаўся з элемэнтаў трацкісцкага і права-ухілісцкага толку. Плятформа гэтых двурушнікаў-апартуністых зьяўляецца плятформай правай, але прыкрытай „левымі“ фразамі і ў асноўным супадае з адкрытым правым апартунізмам, які зьяўляецца галоўнай небясьпекай на даным этапе. Іх плятформа—гэта адбітак кулацка-шкодніцкіх элемэнтаў, шалёна супраціўляючыхся разгорнутаму сацыялістычнаму наступленьню.

Іх плятформа заключаецца ў тым, каб скруціць сацыялістычнае наступленьне, прыпыніць тэмпы індустрыялізацыі і калектывізацыі, сарваць плян вялікіх работ. Яны аб'ектыўна вядуць да рэстаўрацыі капіталізму.

Гэтыя апартуністыя з права-„левага“ блёку толькі „наогул і ў цэлым“ прызнаюць узятыя тэмпы сацыялістычнага будаўніцтва, а на справе ўсімі магчымымі сіламі змагаюцца супроць іх. Яны хапаюцца за двурушніцтва таму, што ня могуць проста выступіць са сваёй плятформай.

Гэтыя людзі на чале з Сырцовым, Ламінадзэ, Шацкіным кідаюцца ў жах ад шпаркіх тэмпаў гіганцкага сацыялістычнага будаўніцтва, яны спалохаліся нямінучых цяжкасьцяў сацыялістычнага росту, клясавай барацьбы, якія перавялічваюцца імі і на якіх яны стараюцца спэкуляваць. Гэтыя людзі, прышоўшы ў шэрагі партыі, ужо ня раз паказвалі свой твар хістаньняў пад націскам дробна-буржуазнай стыхіі. Напрыклад, у пэрыяд X зьезду УсеКП Сырцоў выступіў супроць Леніна, супроць большасьці ЦК УсеКП(б) за Троцкага. У 1927 г. ён хістануўся да Бухарына, даючы усьлед за Бухарыным, рады кулацтву: „накапляйце ў добры час“.

Шацкін, Ламінадзэ ўжо ня раз праявілі сябе, як апартуністычныя путаньнікі, якія вылівалі поўтрацкісцкую лухту, за што партыя ня раз іх засьцерагала. Яшчэ нядаўна на словах адмовіўшыся ад апартуністычных памылак, яны на справе працягваюць іх і паглыбляюць.

Гэтыя „правадыры“ пачалі навакол сябе гуртаваць меншавіцтвуючыя элемэнты, якія не пераварыліся ў шэрагах партыі, адарваліся ад сваёй клясы. Гэтая мізэрная групка інтэлігентаў правых і „левых“ арганізавала беспрынцыпны блёк.

Рост бальшавіцкай самакрытыкі, ленінскай загартованасьці і няпрымірымасьці да апартунізму партыйных мас хутка здэмаскавала сутнасьць гэтага блёку двурушнікаў.

Пасьля выяўленьня твару двухрушнікаў з права—„левага“ блёку, які стварыўся ня без уплываў т. т. Бухарына, Томскага і Рыкава, ад якіх партыя патрабавала даказаць сваю барацьбу

за генэральную лінію партыі—на днях зьявілася новая заява тав. Бухарына, які асуджае новую апазыцыю двухрушнікаў і становіцца на лінію партыі. Партыя дае магчымасьць былому лідэру правых яшчэ раз даказаць **на справе** сваё завярэньні.

Для правядзеньня сваіх праграмных установак двухрушнікі і апартуністыя проста падсоўвалі партыі патрабаваньне звужэньня фронту капітальнага будаўніцтва, — падставы сацыялістычнай гаспадаркі. Страціўшы сацыялістычныя пэрспэктывы, Сырцоў проста заяўляе: „Мы сьлепа і неарганізавана ўехалі ў галіну такіх эканамічных зьявішч, якія сёньня зьяўляюцца прадмэтам трывожнага абгаварэньня ўсей краіны і... дастаткова інтэнсыўна... абгаварваюцца ў чаргох“.

Пралетарыят Савецкага Саюзу і Камуністычная Партыя бальшавікоў ужо ня раз мелі такога роду розных сыгналізатараў „пагібелі,“ як Троцкага і інш. а чарговымі сыгналізатарамі зьявіліся Сырцоў, Ламінадзэ. Партыя ніколі не дазволіць сябе, каб кіравацца ў сваіх вялікіх работах сацыялістычнага будаўніцтва „парадамі з чаргі“, з якой бяруць „адчуваньні“ права—„левыя“ і галосяць аб „нарастаючым неблагапалуччы“.

Ва ўсіх асноўных пытаньнях сацыялістычнага будаўніцтва і народнай гаспадаркі як у пытаньні апалу, збожжавай праблемы, жывёлагадоўлі яны ідуць па той лініі, што змыкаецца з простымі контррэвалюцыянэрамі, якія даюць з свайго боку актыўнае падтрыманьне правым ва ўсіх галінах іх працы.

Двухрушнікі апартуністыя ня маюць веры ў сілы рабочае клясы. Рабочая кляса, як такавая, у іх у небыцьці.

Сырцоў проста кажа, што „наглядаецца нейкі ўпадак энэргіі, амаль што прастрацыя, адсутнічае творчая ініцыятыва“.

Гэты злосны паклёп на рабочую клясу, на яе гераічны энтузіязм сацыялістычнага спаборніцтва і сустрэчнага промфінпляну, нявер'е ў сілы рабочае клясы, як-раз супадае з „сумненьнямі“ Ламінадзэ аб немагчымасьці пабудовы сацыялізму ў аднэй краіне. Сырцоў абвінавачвае УсеКП (б) унацыянальнай абмяжованасьці і г. д. Адным словам цэлы пераплёт апартуністычнай правахілісцкай блытаніны наглядаецца ўва ўсіх гэтых „павадырох“. Ізноў вылазіць у іх усё тое, што калісь высоўвалі ў барацьбе супроць партыі і трацкісты і правыя ўхілісты. Усё тое-ж самае аружжа бярэцца з арсэналу Троцкага і Бухарына. Каб больш прыкрыць сваю барацьбу супроць партыі перад вачыма шырокіх рабочых і партыйных мас, усыпіць іх чуйнасьць, яны выступаюць нібы абаронцамі інтарэсаў рабочых. Гэтыя „абаронцы“ ня бачаць, што ідзе сыстэматычны рост рэальнай заработнай платы, і, не гледзячы на некаторыя цяжкасьці ў забясьпечаньні рабочых, сыстэматычна паляпшаецца матар'яльна-бытавое іх становішча і зусім зьліквідавана ўжо беспрацоўе. Усяго гэтага апартуністы ня бачаць. А што гавораць факты?

Рэальная заработная плата рабочага СССР ў 1928/29 г. складала 167% у параўнаньні з даваеннай. Адзін толькі бюджэт сацыяльнага страхаваньня вырас за апошнія тры гады з 980 млн. рублёў у 1927/28 г. да 1 мільярду 400 млн. рублёў у 1929/30 г. На рабочае жыльлёвае будаўніцтва выдаткавана за апошнія 3 гады 1 мільярд 880 млн. р., на ахову мацярынства і младзенства—492 млн. руб., на дзіцячыя сады, ясьлі і г. д.—204 млн. рубл.

Урэшце, аграмадную ролю ў каранным паляпшэньні дабрабыту рабочых адыгрывае таксама і ліквідацыя беспрацоўя, што павысіла заробкі рабочай сям'і, павялічыўшы лік працуючых. Усё гэта зьяўляецца найлепшым абвяржэньнем на хлусьню і паклёп двухрушнікаў —апартуністых, якія ў данным выпадку граюць у адну дудку з клясавым ворагам і міжнародным імпэрыялізмам.

Права-„левы“ блёк, выступаючы супроць сацыялістычнай перабудовы вёскі, лічыць, што новы калгасны ўздым зьяўляецца вынікам перагібаў. Ён не разумее характару саміх калгасаў. Апартуністыя кажуць, што партыя нібы не стварыла яшчэ стымулаў дзеля замацаваньня гэтых калгасаў. Яны ня бачаць таго, што індустрыялізацыя краіны зьявілась предпасылкай пера-

ходу да сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі. Яны ня бачаць таго, што 5 млн. гаспадарак з агульнага ліку 22 млн. гаспадарак ужо ўвайшло ў калгасы, што пасеўная плошча калгасаў з кожным годам усё павялічваецца, а таксама павялічваецца і даходнасьць калектыўных гаспадарак, перавышаючы ў некалькі разоў даходнасьць індувідуальных.

Чым вышэй калгасная хваля, тым больш жорсткай становіцца супраціўленьне кулацтва, якое ліквідуецца як кляса, і тым больш аддаляюцца апартуністыя ад партыі і рабочае клясы.

Выкрыцьцё контррэвалюцыйных шкоднікаў і агентаў міжнароднага імпэрыялізму, як „прампартыя", група беларускіх контррэвалюцыянэраў, „працоўная сялянская партыя" Кандрацьевых, Сухановых і Громанаў, са ўсёй вачавіднасьцю паказвае сапраўдны твар апартуністых двухрушнікаў. Абарона тэорыі прытупленьня і згасаньня клясавай барацьбы, „урастаньня капіталістычных элемэнтаў у сацыялізм"—вось адна з праграмовых установак двухрушнікаў—апартуністых, якая ставіць іх на той бок барыкад.

Двухрушнікі ня прызнаюць заветных слоў Леніна, што „дыктатура пралетарыяту ёсьць самая беззаветная і самая бязьлітасная вайна новай клясы супроць больш магутнейшага ворага, супроць буржуазіі, супраціўленьне якой удзесяцярона яе зьвяржэньнем (хаця-б у аднэй краіне) і магутнасьць якой ляжыць ня толькі ў сіле міжнароднага капіталу, у сіле і трываласьці міжнародных сувязяй буржуазіі, але і ў сіле звычкі, у сіле **дробнага вытворства**". („Дзіцячая хвароба лявізны ў камунізьме").

І калі партыя кажа, што трэці год пяцігодкі зьяўляецца годам рашаючым і што ўжо ў сельскай гаспадарцы зроблен пералом ца сацыялізму, дык права-„левы" блёк, наадварот, гэтага зусім ня прызнае.

Гэты паклёп і дыскрэдытацыя савецкага будаўніцтва, а таксама і сацыялістычных мэтадаў, як абвінавачваньне партыі і савецкай улады ў бюрократызме, у „барска-фэадальных адносінах да інтарэсаў рабочых" зьяўляецца найлепшым паказьнікам антыпартыйнага і антыпралетарскага твару двухрушнікаў апартуністых. Супроцьстаўляючы савецкі апарат рабочай клясе, апартуністыя стараюцца падарваць дыктатуру пралетарыята.

УсеКП(б) не дазволіць расстроіць і падарваць дыктатуру пралетарыяту і расстроіць маналітнасьць ленінскіх шэрагаў. Партыя ідэйна і палітычна вырасла, бальшавіцкай самакрытыкай рашуча выяўляе ўсе пахібы і недахопы сваёй працы і дае адпор усякім нападкам агентуры клясавых ворагаў. У адказ двухрушнікам - здраднікам партыі рабочая кляса, яе лепшыя элементы масамі ўваходзяць у шэрагі партыі. У аднэй толькі Маскоўскай акрузе 10 тысяч рабочых падалі заявы аб сваім уступленьні ў шэрагі партыі. Аграмаднае абурэньне супроць двухрушнікаў і здраднікаў з права-„левага" блёку пануе ва ўсей краіне сярод рабочых, калгасьнікаў і бедняцка-серадняцкіх мас, якія патрабуюць выключэньня іх з шэрагаў ленінскай партыі.

Досьлед двухрушніцтва і прадажніцтва права-„левага" блёку ва УсеКП(б) вучыць шмат чаму ўсе іншыя братэрскія камуністычныя партыі. У сувязі з гэтым блёкам асабліва яскрава выкрываецца і перад КПП і яе складовай часткай, КПЗБ, сапраўдны твар правых на чале з Кастшэвай, якія не раз выступалі на абарону сваіх правых установак з „левацкімі" фразамі і якія на справе не адмаўляюцца ад сваёй апартуністычнай работы і барацьбы з партыяй, а двухрушнічаюць перад ёй, выбіраючы момант, каб ударыць з тылу. Гэтае двухрушніцтва апартунізму са ўсёй яскравасьцю ужо праявілася ў паводзінах некаторых правых апартуністых і асабліва Гальмы (Вайткевіча).

Са ўсёй бальшавіцкай рашучасьцю асуджаючы агідную атаку права-„левага" блёку двухрушнікаў на ленінскую УсеКП(б)—будзем вучыцца адстайваць маналітнасьць і чыстату камуністычных радоў, як гэта робіць УсеКП(б).

**Будзем настарожы!**

**І. Генрыкоўскі.**

# V кангрэс Чырвонага Профінтэрну.

І.

V Кангрэс Профінтэрну, скліканы ў момант 10-гадовага юбілею Чырвонага Інтэрнацыяналу Профсаюзаў, задэманстраваў адзінства і згуртаванасьць рэвалюцыйнага прафэсыянальнага руху ва ўсім сьвеце. Вальчэры, Гайсы, Эндэрле і Лоўстоны, якія на гістарычным IV кангрэсе змагаліся супроць лініі Профінтэрну, перайшлі да лягеру ворага, здэмаскавалі сябе, як агентаў сацыял-фашызму ў нашых шэрагах.

У шмат якіх краёх гаспадарчы крызыс прывёў да сур'ёзнага палітычнага крызысу. Разгортваньне сытуацыі ў Польшчы і Нямеччыне сьведчыць аб тым, што ў абодвух гэтых краёх нарастаюць шпаркім тэмпам элемэнты рэвалюцыйнай сытуацыі. У калёніях і палукалёніях антыімпэрыялістычны рух узварушыў шматмільённыя масы. Усё мацней выяўляецца ў гэтым руху гегемонія пралетарыяту.

Якое-ж глыбокае бяздоньне аддзяляе бурлівую рэвалюцыйную сучасную рэчавістасьць ад тэй панікёрскай, рэфармісцкай пэрспэктывы, якую на IV кангрэсе разьвівалі панове Вальчэры і якую нядаўна разгортваў кангрэс Амстэрдамскага Інтэрнацыяналу!

Гэты апошні кангрэс, які адбыўся ў Стакгольме, быў узорам правільнасьці ацэнкі ролі сацыял-фашызму, дадзенай Камінтэрнам і Профінтэрнам. Гэты кангрэс, які складаецца з рэфармісцкіх профсаюзных бонзаў, быў аднадушны ў тых выпадках, калі справа шла аб устанаўленьні ідэолёгічнай і арганізацыйнай лініі сваіх паводзін у справе аб палягчэньні капіталістам праводзіць драпежніцкую капіталістычную рацыяналізацыю, разьбіваць баі рабочых, зьніжаць і так ужо галодныя заробкі рабочых, змагацца з нарастаючай рэвалюцыйнай хваляй, а перш за ўсё змагацца з рэвалюцыйным прафсаюзным рухам, пракладваць шлях для яўнай дыктатуры буржуазіі—фашызму і падрыхтоўваць імпэрыялістычную вайну супроць СССР. Рэнэгаты і прымірэнцы нэгавалі магчымасьць наступальных баёў, дамагаліся капітуляцыі перад рэфармізмам, цягненьня ў яго хвасьце. Назаўтра-ж пасьля кангрэсу жыцьцё выразна паказала, ці правільна кангрэс ацаніў сытуацыю. Штрайк докавых рабочых у Гамбургу, антылёкаўтовыя баі ў Руры, усеагульная забастоўка ў Лодзі, штрайкавая барацьба ў Бамбэю—гэта былі магутныя пяруны, якія зьявіліся зьвястунамі надыходзячай ўздымаючайся рэвалюцыйнай хвалі. Гэтыя штрайкі маюць вялізарнае прынцыповае значэньне. Яны адкідваюць апартуністычную канцэпцыю правіцы, нібы штрайкі зьяўляюцца немагчымымі ў часе гаспадарчага крызысу, масавага беспрацоўя і рэдукцыі.

Досьледы гэтых баёў паказалі таксама памылковасьць поглядаў, якія ня бачаць розьніцы паміж рабочымі, што знаходзяцца ў сацыял-фашыстоўскіх прафсаюзах і ідуць за сацыял-фашызмам, і паміж апаратам сацыял-фашыстоўскіх прафсаюзных арганізацый.

V кангрэс падсумаваў досьледы вялікіх масавых баёў апошніх двух гадоў. Ён паддаў іх грунтоўнаму і ўсебаковаму крытычнаму аналізу. Гэта быў кангрэс добрасумленнай рэвалюцыйнай самакрытыкі пад знакам барацьбы на два фронты—супроць найбольш небясьпечнага ў данны момант правага ўхілу і супроць усякіх ультра-левых і сэктанцкіх тэндэнцый.

V Кангрэс з надзвычайным задаваленьнем выслухаў справаздачу аб дзейнасьці прафэсыянальных саюзаў у Савецкай Рэспубліцы. Дэлегаты капіталістычных краёў, якія беспасрэдна адчуваюць кінутыя на плечы працоўных мас цяжары ўсьцяж пашыраючагася і

паглыбляючагася крызысу капіталістычнай гаспадаркі, з вялікім энтузіязмам слухалі факты аб нязьмерна шпаркім росьце сацыялістычнай гаспадаркі ў Савецкім Саюзе. Праводжанае пад кіраўніцтвам УсеКП(б) наступленьне ўсім фронтам на рэшткі пазыцый капіталізму, наступленьне, у якім актыўнейшы ўдзел бяруць савецкія прафсаюзы, выклікае энтузіязм працоўных мас усяго сьвету, і прасякае іх сьвядомасьцю, што справа будаўніцтва сацыялістычнай гаспадаркі ў Савецкім Саюзе зьяўляецца справаю працоўных мас капіталістычнага сьвету. Кангрэс з задаваленьнем прывітаў зьняцьцё даўнейшага апартуністычнага кіраўніцтва савецкіх прафсаюзаў і ўстанаўленьне на яго мейсца новага кіраўніцтва, якое дае поўную гарантыю інтэнсыўнага ўдзелу прафсаюзаў у сацыялістычным будаўніцтве і зацясненьня рэвалюцыйнага адзінства савецкіх прафэсыянальных саюзаў з усім міжнародным рэвалюцыйным прафэсыянальным рухам.

Дэлегаты ўсіх краёў адзначылі, што СССР зьяўляецца бацькаўшчынай працоўных мас усяго сьвету, і што міжнародная рабочая кляса здолее даць належны адпор усім ворагам Савецкага Саюзу, якія рыхтуюць узбройны напад на СССР.

II.

Досьледы ўсіх баёў за часы паміж IV і V кангрэсамі Прафінтэрну паказалі, што ў працы рэвалюцыйнага прафсаюзнага руху пераважаюць яшчэ элемэнты агітацыі і прапаганды над элемэнтамі арганізацыі і істотнага кіраўніцтва баямі.

Найважнейшымі і найбольш тыповымі памылкамі і недамаганьнямі ў штрайковай тактыцы былі наступныя:

1) Рэвалюцыйны прафэсыянальны рух, будучы ня досыць зьвязаны з масамі на фабрыцы і ня ведаючы з гэтай прычыны дастаткова тых балячак, якія зачаплялі найшырачэйшыя рабочыя колы, у шмат якіх выпадках цягнуўся ў хвасьце мас, якія стыхійна выступалі да штрайку.

2) Найважнейшай прычынай паражэньняў, якія рэвалюцыйны рух пацярпеў у шэрагу штрайкаў, зьяўлялася прафсаюзны легалізм і апартуністычныя ілюзіі, што сацыял-фашызм можа або хоча змагацца за інтарэсы рабочых.

3) Сацыял фашыстам удавалася задушыць шэраг штрайкаў, арганізаваных рэвалюцыйным прафэсыянальным рухам, найчасьцей з тэй прычыны, што камуністы ня ўмелі для падтрыманьня гэтых штрайкаў змабілізаваць рабочых іншых галін прамысловасьці і іншых асяродкаў.

4) Недаацэнка тактыкі адзінага фронту зьнізу ў арганізаваньні і кіраваньні барацьбой выражалася ў слабай апоры вылучаных па нашай ініцыятыве камітэтаў барацьбы на найшырачэйшыя масы рабочых заінтэрасаваных у штрайку, ў няўменьні падыйсьці да нізавых рабочых, якія ідуць за сацыял-фашыстоўскай бюрократыяй і сыстэматычна супроцьстаўляць здрадніцкіх правадыроў з масамі.

Апроч таго трэба падкрэсьліць, што найважнейшаю балячкаю, якая выявілася ў штрайках, кіраваных камуністамі і рэвалюцыйнымі прафсаюзамі, зьяўляецца частая іх устаноўка **толькі на абаронную барацьбу.** З гэтай наскрозь апартуністычнай прадпасылкі вынікае ўстаноўка на стыхійнасьць, на тое, што масы выйдуць на вуліцу, а мы ужо толькі тады возьмем кіраўніцтва і павядзем барацьбу да канца. Устаноўка на выключную абаронную барацьбу, нявысоўваньне наступальных патрабаваньняў (павышэньне заробкаў, 7-гадзіннага рабочага дню, канкрэтных антырацыяналізацыйных дамаганьняў)—вядзе няўхільна да паражэньня.

Да паражэньня вядзе таксама няўменьне ўздымаць эканамічную барацьбу на вышэйшы ровень, увязваць яе з палітычнымі лёзунгамі.

Надзвычайна каштоўнымі асабліва для нашага краю зьяўляюцца паказаньні кангрэсу ў справе палітычных штрайкаў.

„Чыста эканамічныя штрайкі могуць праводзіцца з посьпехам у сувязі з асабліва актуальнымі пытаньнямі, якія жыцьцёва закранаюць рабочую клясу, альбо ў сувязі з такімі новымі атакамі клясавага ворага, якія выклікалі-б вялікае абурэньне ў шырокіх масах пралетарыяту. Такія

штрайкі зьяўляюцца найчасьцей пратэстацыйнымі штрайкамі пад лёзунгамі альбо выключна, альбо ў пераважнай меры палітычнымі... Такія штрайкі могуць на практыцы —у залежнасьці ад канкрэтных варункаў,—працягвацца больш альбо менш часу, могуць ахапіць увесь край, альбо паасобныя акругі, асяродкі і нават паасобныя фабрыкі".

Кангрэс запатрабаваў ад рэвалюцыйнага прафсаюзнага руху зьмены датыхчасовых мэтадаў у падрыхтоўцы і арганізацыі эканамічных баёў. Рэзалюцыі кангрэсу аб сытуацыі і па арганізацыйнаму пытаньню даюць асаблівыя паказаньні аб тым, як належыць мабілізоўваць рабочую клясу да надыходзячых вялікіх масавых баёў.

III.

Узмацненьне кіруючай ролі рэвалюцыйнага прафсаюзнага руху ў эканамічных баёх пралетарыяту немагчыма без узмацненьня рэвалюцыйных прафсаюзных арганізацый.

Разгортваньне і ўспраўненьне рэвалюцыйнай прафсаюзнай арганізацыі можа адбывацца толькі на грунце максымальнай актыўнасьці і ініцыятывы ў баёх.

Было-б памылкаю лічыць, што нашы задачы могуць абмяжавацца толькі праяваю ініцыятывы ў барацьбе, стварэньнем камітэтаў барацьбы і давядзеньнем штрайку да перамогі. Кожная эканамічная акцыя мусіць быць безадкладна выкарыстана для сталага арганізацыйнага ахопу тых мас рабочых, арганізаваных і неарганізаваных, якія ў часе барацьбы пачалі давяраць нашаму кіраўніцтву, пераканаліся, што толькі мы вядзем барацьбу за палепшаньне іх быту. Гэта зразумела ня значыць, што пераможнае заканчэньне штрайку залежыць ад таго, ці існуе самастойны рэвалюцыйны саюз, ці не. Але чым шырэй будзе ахопліваць масы сталая рэвалюцыйная прафсаюзная арганізацыя на фабрыцы, тым большымі зьяўляюцца гарантыі да добрай арганізацыі барацьбы, тым большымі зьяўляюцца гарантыі да яе перамогі.

Па меры шпаркага нарастаньня рэвалюцыйнай хвалі неабходнасьць стварэньня сталага арганізацыйнага асяродку для самастойнага рэвалюцыйнага кіраўніцтва эканамічнай барацьбою становіцца ўсё больш пякучай.

Дзеля гэтага ўвага кангрэсу згуртавалася—побач з праблемамі штрайкавай тактыкі—таксама на справе прафсаюзнай лявіцы. У выніку грунтоўнай працы, крытычнага аналізу досьледаў нямецкай рэвалюцыйнай прафсаюзнай апазыцыі і ангельскага руху меншасьці, кангрэс прыняў наступную прапазыцыю дэлегацый савецкай, польскай і нямецкай:

„У такіх краёх, як Нямеччына, дзе існуе арганізацыйна зьнітованая рэвалюцыйная прафсаюзная апазыцыя, у Польшчы, дзе ўжо створана падстава для рэвалюцыйнай апазыцыі, належыць незарганізаваных заклікаць уступаць і далучацца да шэрагаў прафсаюзнай лявіцы. Кангрэс пацьвярджаее рашэньне рэвалюцыйнай апазыцыі ў Нямеччыне і ў Польшчы аб скрасьленьні лёзунгу „уступайце ў рэфармісцкія саюзы", прычым належыць як мага вастрэй перамагаць усякія тэндэнцыі на перарыў працы і самавольнае выступленьне прыхільнікаў Прафінтэрну з рэфармісцкіх прафсаюзаў. Перад ўсё больш нахабнымі імкненьнямі рэфармісцкіх правадыроў да расколу і перад узрастаючымі супярэчнасьцямі паміж імі і шырокімі рабочымі масамі, прыхільнікі Прафінтэрну павінны ўжо зараз сьвядома, пасьлядоўна і няўтомна працаваць над арганізацыяй і разьвіцьцём рэвалюцыйнага прафсаюзнага руху для найлепшай і больш пасьпяховай падрыхтоўкі і кіраўніцтва клясавай барацьбой пралетарыяту. Гэтаму курсу на стварэньне ад гары да нізу самастойных органаў рэвалюцыйнага прафсаюзнага руху належыць падпарадкаваць усю працу дзеля арганізацыйнага зьнітаваньня арганізаваных і не зарганізаваных—перш за ўсё ў пэрыядзе штрайкавых баёў—для актывізацыі і разгортваньня прафсаюзнай лявіцы і рэвалюцыйных фабрычных камітэтаў; дзеля гэтага належыць выкарыстаць усялякія арганізацыйныя магчымасьці ў

нізавых арганізацыях рэфармісцкіх саюзаў".

Пад гэтай-жа самай лініяй—што і V кангрэс Прафінтэрну—прайшоў таксама V зьезд КПП. Шпаркае нарастаньне агульна-палітычнага крызысу ў Польшчы ставіць перад намі ва ўсім аб'ёме справу разгортваньня масавага рэвалюцыйнага прафсаюзнага руху. Зьезд падкрэсьліў неабходнасьць разбудовы прафсаюзнай лявіцы зьнізу дагары, у апоры на фабрыкі і стварэньне рэвалюцыйных саюзаў у тых мясцовасьцях, дзе для гэтага насьпелі варункі.

IV.

Ставячы перад польскімі і нямецкімі таварышамі вялікія задачы стварэньня масавага рэвалюцыйнага прафсаюзнага руху, Кангрэс засьцярог таксама перад скрыўленьнямі яго паказаньняў, перад тымі памылкамі, якія ў нас у Польшчы ўзьніклі ў выніку памылковых рашэньняў V пленуму ЦК у 1929 г.

**„Выкананьне гэтых задач—падкрэсьліў Кангрэс—ні ў якой меры ня можа паслужыць матывам да аслабленьня нашай працы ў рэфармісцкіх прафсаюзах, працы, якая мае на мэце вырваць рабочых з пад уплываў сацыял-фашыстоўскіх правадыроў; выкананьне гэтых задач таксама ні ў якой меры ня можа апраўдаць сэктанцкіх тэндэнцый да таго, каб выступаць з рэфармісцкіх прафсаюзаў".**

З нашага польскага вопыту мы найлепей ведаем, да чаго даводзіць недаацэнка працы ў рэакцыйных прафсаюзах, а ў першую чаргу ў саюзах рэфармісцкіх Занядбаньне гэтай працы азначае адначасова аддаць досыць значныя масы рабочых, што ідуць яшчэ за Жулаўскім і Дашынскім, у ахвяру здрадніцкай сацыял-фашыстоўскай бюрократыі, якая апяруе найбольш разьбешчанай псэўда-рэвалюцыйнай фразэалёгіяй. Занядбаньне гэтай працы найчасьцей зьяўляецца выразам **апартуністычнай недаацэнкі небясьпекі сацыял-фашызму. Задачай прафсаюзнай лявіцы зьяўляецца ўзмацненьне барацьбы супроць сацыял-фашызму ня толькі на фабрыках, але і па лініі рэфармісцкага прафсаюзу.**

Кангрэс з усей сілаю выказаўся супроць усякіх тэндэнцый і поглядаў, якія замазваюць небясьпеку сацыял-фашызму. Гэта падкрэсьліў тав. Лазоўскі, дакладваючы на кангрэсе папраўку польскай дэлегацыі, прынятую палітычнай камісіяй:

„Надзвычайна важнай папраўкай, якая мае падставовае і прынцыповае значэньне, мы прынялі ў справе ўзаемаадносін сацыял-фашызму да фашызму. Паколькі гэтае пытаньне вельмі часта прыводзіць да розных непаразуменьняў і паколькі ў гэтым пытаньні існуе шэраг няправільных фармуловак, мы прызналі неабходным дадаць паасобны пункт. Ён гаворыць наступнае: „кангрэс асуджае апартуністычную тэорыю, нібы сацыял-фашызм хоча альбо можа змагацца супроць фашызму. Адначасова кангрэс адкідвае псэўда-радыкальны погляд, што няма ніякай розьніцы паміж сацыял-фашыстамі і фашыстамі ў іх прафсаюзнай тактыцы і практыцы. Абодвы тэорыі прыводзяць да недаацэнкі сацыял-фашызму, гэтага найбольш хітрага і найнебясьпечнейшага ворага рэвалюцыйнага руху".

Гэтыя погляды прадстаўляла ў польскім масштабу правая група Кастшэвы і Варскага, у тым ліку т. Вайткевіч, які, як гэта аказалася неўзабаве, быў аўтарам правага фракцыйнага артыкулу, падпісанага псэўданімам Гальма. Погляды т. Вайткевіча, якія супярэчаць рашэньням Камінтэрну і Прафінтэрну, былі асуджаны V зьездам нашай партыі.

* * *

V кангрэс будзе мець вялізарнае значэньне для далейшага разьвіцьця рэвалюцыйнага руху, прафэсыянальнага руху. V кангрэс падсумаваў досьледы астатніх двух гадоў, сканкрэтызаваў тактычныя паказаньні, накрэсьліў лінію далейшага разгортваньня масавага рэвалюцыйнага руху, паказаў шлях да здабыцьця большасьці рабочае клясы. да перамогі. Перад рэвалюцыйным прафэсыянальным рухам цяпер стаіць задача—зьдзейсьніць з бальшавіцкім размахам пастановы Кангрэсу.

**Партыец.**

# Аб'яднаць і стаць на чале стачачнага руху.

Фашыстоўская дыктатура — улада капіталістаў і абшарнікаў—пры непасрэдным удзеле яе агентаў у рабочай клясе і сярод сялянства—сацыял-, нацыянал-і народніцка-фашызму — загнала краіну ў безвыхадзь цяжкага гаспадарчага крызысу. Выхад адтуль пануючыя клясы бачаць толькі ва ўзмоцненай эксплёатацыі шырокіх працоўных мас унутры краіны і ў захопу новых абшараў дзеля пашырэньня сваёй эксплёатацыі і рынкаў збыту, у душэньні СССР як вогнішча сусьветнай рэвалюцыі.

У варунках глыбокага і працяглага гаспадарчага крызысу капіталісты ўзмагаюць націск на рабочую клясу.

Гэты націск выяўляецца ў першую чаргу ў павялічэньні рэдукцый і спробах зьменшыць зарабковую плату. У Вільні зачынены шкляны завод; аб'яўлен лёкаўт на тартаках з мэтай зьмяншэньня зарплаты; на цагельнях фабрыканты зьнізілі зарплату да 4,50 злот. за 1.000 цэглаў; на фабрыцы Нёманскага ў Горадні фактычна зьліквідаваны 8-гадзінны рабочы дзень; скарочаны на 50% рабочыя на тартаках, цагельнях і запалкавай фабрыцы; на патрабаваньне рабочых выплаты запазычанасьці на каменаломнях у Клесове аб'яўлены лёкаўт; уведзены акорды ва ўсіх аддзяленьнях, павялічана норма выпрацоўкі і зьменшана зарплата на запалкавай фабрыцы ў Пінску; на фанэрных фабрыках у Пінску і Горадні рэдукцыі ахапілі каля 30% рабочых; зьніжана на 15% зарплата на фанэрнай фабрыцы ў Беластоку; ня гледзячы на сэзоннае ажыўленьне, зьмяншаецца зарплата тэкстыльшчыкам, — вось некалькі фактаў, якія ілюструюць гэты націск капіталу.

Але ў варунках агульнага ўздыму рэвалюцыйнага руху ў Польшчы ўзрастае адпор пралетарыяту, які пераходзіць часта ў беспасрэднае наступленьне, што знаходзіць свой выраз ва ўзрастаючым ліку эканамічных забастовак, вельмі зяцятых і працяжных, якія адбываюцца ў найцяжалейшых варунках абвостранага эканамічнага тэрару. Пакажам толькі на важнейшыя з іх, як забастоўка будаўляных рабочых пры будове цэмэнтнага заводу ў Бухаўшчыне, Маладэчанскага павету, тартачнікаў, цагельнікаў, футаршчыкаў і краўцоў у Вільні, рабочых на фабрыцы Нёманскага ў Горадні, сернікавых рабочых у Пінску, тэкстыльшчыкаў і фанэрнікаў у Беластоку, пекароў і рабочых пры будове аэрадрому ў Параноўшах. Асабліва характарнай рысай забастовачнага руху ў бягучым годзе зьяўляецца шырокі ахоп сельска-гаспадарчых і сэзонных рабочых, якія асабліва востра адчуваюць кабальную эксплёатацыю абшарнікаў (Бярэставіца, Кобрын, Маладэчна, пры ўборцы бульбы ў Бярэставіцкім раёне і т. п.).

Аднак усе гэтыя забастоўкі ўсё яшчэ маюць надзвычайна разьяднаны і распарушаны характар, што зьяўляецца вынікам слабага кіраўніцтва забастовачнымі баямі пралетарыяту з боку нашых партыйных арганізацый, нявыстарчальнага напружваньня сіл партыі ў справе аб'яднаньня і кіраўніцтва стачачным рухам.

Тактыка фашызму — „разьдзяляй і пануй“—ужываецца ня толькі ў краявым маштабе, але і ў любой рабочай забастоўцы, у любым канфлікце паміж працай і капіталам. Гэтая тактыка ўжываецца штодзённа і паўсямесна. Яна выяўляецца ў выкарыстоўваньні прадпрыемцамі яўнага і скрытага штрайкбрэхерства з боку несьвядомых галодных рабочых і сялян, яна выяўляецца ў разьбіваньні і зрыву сацыял-фашыстамі штрайкаў, у тактыцы ППС, Бунду, ББС, ПЦ, ХД, і НПР, якія ім-

кнуцца разьбіць інтэрнацыянальнае адзінства рабочае клясы, разьбіць адзінства арганізаваных і неарганізаваных рабочых, яшчэ працуючых рабочых і беспрацоўных.

Носьбіты правага ўхілу і апартунізму на практыцы ўнутры нашай камуністычнай партыі аб'ектыўна дапамагаюць нашым клясавым ворагам. У гэтым можна пераканацца на дасьледзе шэрагу штрайкаў.

На Пінскай сярніковай фабрыцы адміністрацыя, дзеля павялічэньня эксплёатацыі, уводзіць акордную працу. У сувязі з гэтым выбухнула стыхійная забастоўка ў адным з фабрычных аддзяленьняў. Нічога не рабілася дзеля пашырэньня забастоўкі на ўсю фабрыку і забаставаўшыя рабочыя, ізаляваныя, прымушаны былі вярнуцца на працу. Адміністрацыя фабрыкі, вядучы барацьбу супроць рабочых, імкнецца разьбіць іх па частках. Дзякуючы дзейнасьці сацыял-фашыстаў і бязьдзейнасьці нашых таварышоў, адміністрацыя мае досыць прыкметныя посьпехі.

„Мудрасьць" апартунізму, у цесным супрацоўніцтве з сацыял-фашыстоўскімі профбюракратамі, выяўлялася ў тым, што калі адміністрацыя пачне зьдзейсьняць свой плян і будзе наступаць на тое ці іншае аддзяленьне, дык гэтае аддзяленьне павінна будзе спыніць працу і баставаць. Баставаць яно павінна будзе так доўга, аж пакуль з прычыны адсутнасьці працы для астатніх рабочых не запыніцца ўся фабрыка. Аб забастоўцы ўсей фабрыкі, па іх думцы, не магло быць і мовы, „бо кан'юнктура для агульнай забастоўкі няспрыяючая". Гэтая тактыка цалкам адпавядала тактыцы адміністрацыі, што было накіравана на разьбіцьцё адзінства рабочых, на разгром іх барацьбы.

У Беластоку, дзякуючы здрадніцтву сацыял-фашыстаў і бязьдзейнасьці партыйнай арганізацыі ў тэкстыльнай забастоўцы, фабрыкантам удалося разьбіць рабочых па частках.

Дзеля кароткасьці абмяжуемся гэтымі дзьвума яскравымі прыкладамі. У менш яскравай форме іх можна знайсьці вельмі і вельмі шмат.

Усялякая больш-менш масавая эканамічная забастоўка ў варунках гаспадарчага крызысу мае палітычнае значэньне. Характэрна для забастовачнага руху ў варунках крызысу тое, што з аднаго боку барацьба становіцца больш цяжкай, складанай, больш вострай і патрабуе больш ахвяр з боку бастуючых, а з другога боку самае жыцьцё паказвае рабочым, што іншага шляху, апроч барацьбы, няма. Гэтым тлумачацца, як узмагаючыяся канфлікты паміж рабочымі і прадпрыемцамі, што выяўляецца ў вялікай колькасьці стыхійных і палуарганізаваных забастовак ва ўсей Польшчы і на ЗБ, а таксама і разьяднанасьць гэтых забастовак. Галодны працуючы рабочы, перад тым, як ён кідае працу, стараецца выпрабаваць усе магчымасьці якія ён разумее дзеля таго, каб не пазбавіцца тых мізэрных грошай, якія ён атрымоўвае. Прадпрыемцы карыстаюцца гэтымі ілюзіямі для таго, каб разьбіць рабочых па частках, каб злупіць дзесяць скур з рабочых, разьяднаных і неарганізаваных. Сацыял-фашысты вядуць сваю здрадніцкую работу, узмагаючы гэтыя ілюзіі, разьбіваючы барацьбу мас. Апартуністы-ж у нашым асяродзьдзі цягнуцца ў хвасьце. пужаюцца цяжкасьцяў барацьбы, „дрэннай кан'юнктуры", ня бачучы гатоўнасьці мас да барацьбы.

Нас аддзяляюць ад сацыял-фашыстаў нашыя мэты. Сацыял-фашысты абараняюць існуючы лад, мы змагаемся супроць яго. Для працоўных мас усей Польшчы ёсьць толькі адзін выхад: **рэвалюцыйнае вырашэньне крызысу — устанаўленьне дыктатуры пралетарыяту.** Адгэтуль дзьве процілеглыя, варожыя адна другой, тактыкі. Тактыка сацыял-фашызму на разьбіцьцё руху і тактыка нашай партыі, якая імкнецца да аб'яднаньня, каардынацыі, кіраўніцтва рухам і цэнтралізацыі разлучаных выступленьняў рабочае клясы і працоўных масаў.

Асабліва ў варунках крызысу барацьба за штодзённыя патрэбы можа быць выйграна выключна праз масавасьць, упорлівасьць, гатоўнасьць мас да барацьбы і іх арганізаванасьць. Адгэтуль вынікаюць і канкрэтныя нашы задачы.

Труднасьць барацьбы, цяжкае становішча рабочага патрабуе ад нас яшчэ большай чуйнасьці ў справе кіраўніцтва штодзённай барацьбой рабочае клясы. Нельга, як гэта зроблена ў шэрагу месц, абвяшчаць забастоўку зьверху. Трэба раней правесьці папярэднюю працу сярод мас, паказваючы ім на прыкладзе іншых, выйграных і праіграных забастовак, як патрэбна змагацца, не замазваючы труднасьцяў барацьбы. **Нельга таксама навязаць масам патрабаваньняў, без папярэдняга абгаварэньня іх.** Трэба памятаць, што ў першую чаргу самі бастуючыя рабочыя павінны будуць несьці ўвесь цяжар барацьбы і таму яны павінны цьвёрда ведаць, за што яны змагаюцца, і быць гатовымі да гэтай барацьбы. Ужо ў ходзе кампаніі і ў ходзе самай барацьбы трэба папулярызаваць і ўключаць са згоды бастуючых, больш высокія запатрабаваньні, ўлічваючы гатоўнасьць мас змагацца за іх. Дамаганьні бастуючых яшчэ да пачатку забастоўкі трэба папулярызаваць сярод іншых рабочых і працоўных ва ўлётках, на масоўках, мітынгах і на частковых альбо агульнагарадзкіх канфэрэнцыях, куды ўцягваюцца ўсе рабочыя, а ў раёнах—і сяляне.

Праводзячы папярэднюю падрыхтоўку да забастоўкі, ня трэба паўтараць цяжкую памылку тэраспольскіх таварышоў, якія рыхтавалі забастоўку так доўга, пакуль ня скончыўся сэзон на агурковых плянтацыях. Таварышы павінны заўсёды памятаць, **што адним з рашаючых момантаў у падрыхтоўцы мас на забастоўку зьяўляецца мабілізацыйная іх здольнасьць, іх сіла і напружанасьць у справе арганізацыі мас.**

Дзеля каардынацыі і аб'яднаньня разьяднаных забастовак трэба мабілізаваць усе сілы парт. арганізацый, прафапазыцыі і **бастуючых рабочых.** Трэба ад бастуючых або рыхтуючыхся да забастоўкі рабочых пасылаць па магчымасьці шматлікія дэлегацыі да рабочых іншых прадпрыемстваў, да чыгуначнікаў, да сельска - гаспадарчых рабочых і да акаляючых вёсак. Пры пашырэньні забастоўкі патрэбна такія дэлегацыі пасылаць і ў суседнія гарады. Задачы дэлегацыі—растлумачыць, за што змагаюцца бастуючыя рабочыя, і заклікаць рабочых да салідарных выступленьняў.

Калі адно або некалькі прадпрыемстваў распачалі забастоўку, трэба неадкладна мабілізаваць усю бастуючую масу ў паход за зьняцьцё з працы рабочых іншых фабрык.

А на практыцы мы маем часта злачынны, груба-апартуністычны падыход. Калі на фанэрнай фабрыцы Маліняка ў Беластоку выбухнула забастоўка, дык на другой фабрыцы таго ж Маліняка, дзе працуюць 100 рабочых, сярод якіх маюцца і нашыя таварышы, мясцовая арганізацыя нічога не зрабіла, каб падняць і на гэтай фабрыцы забастоўку салідарнасьці і выкарыстаць бастуючых аднэй фабрыкі для агітацыі і зьняцьця рабочых другой фабрыкі.

Усялякая больш-менш масавая забастоўка, асабліва ў часе крызысу, зьяўляецца малай вайной. Адгетуль вынікаюць нашыя задачы ў справе барацьбы супроць сацыял - фашызму і сыстэматычнага здэмаскаваньня яго ў часе падрыхтоўкі забастоўкі, як і ў ходзе яе. Кожны рэвалюцыйны рабочы павінен памятаць, што самым небясьпечным ворагам, асабліва ў часе актыўнай барацьбы, **зьяўляецца здраднік унутры змагаючайся арміі.** Але вядучы барацьбу супроць сацыял-фашыстаў, здраднікаў рабочае клясы, трэба яскрава і выразна адрозьніваць паміж сацыял-фашыстам, профбюракратам і шэраговым рабочым, які зьяўляецца членам сацыял-фашыцкіх арганізацый. На грунце адзінага фронту зьнізу трэба ўцягнуць гэтых рабочых у барацьбу супроць здраднікаў рабочае клясы.

З характару і труднасьцяў барацьбы вынікаюць нашыя арганізацыйныя задачы пры падрыхтоўцы забастоўкі і ў ходзе яе. Неабходна ўжо спачатку падрыхтоўчай працы выбраць камітэт акцыі, а ў часе забастоўкі—забастовачны камітэт. **Апроч гэтага трэба выбраць у кожным аддзяленьні буйных фабрык або на кожным малым прадпрыемстве або групе прадпрыемстваў камітэты акцыі альбо дэлегатаў, з такім разьлікам, каб кожныя 20-30 рабочых кіраваліся камітэтам альбо**

дэлегатам. Яны павінны быць падпарадкаваны агульнаму камітэту. Іх задача—інфармаваць агульны камітэт аб настроях, думках і пажаданьнях мас. Перанесьці і правесьці сярод тых рабочых, на чале якіх яны стаяць, усе рашэньні агульнага камітэту. Галоўнейшыя пытаньні, як напрыклад, дадатковыя дамаганьні і т. п., дэлегаты павінны ставіць на абгаварэньне выбраўшых іх рабочых. Апроч гэтага агульны камітэт павінен рабіць справаздачы на масавых сходах альбо мітынгах аб сваёй дзейнасьці.

Тыя буйнейшыя недахопы і памылкі, якія праяўляюцца на кожным кроку ў галіне кіраўніцтва эканамічнай барацьбой рабочае клясы, вынікаюць перш за ўсё з таго, што нашыя партыйныя арганізацыі ўсё яшчэ невыстарчальна зьвязаны з прадпрыемствамі і таму нядосыць ведаюць штодзённыя патрэбы рабочае клясы. Амаль поўная адсутнасьць органаў адзінага фронту барацьбы мас на прадпрыемствах (фабзаўкомаў, камітэтаў акцый і т. п.) пры надзвычайна слабай сетцы рэвалюцыйных прафсаюзаў, рэфармісцкія перажыткі ў мэтадах працы гэтых саюзаў, слабасьць працы ў рэакцыйных прафсаюзах, невыстарчальная актыўнасьць партыйных арганізацый у галіне ўзмацаваньня і пашырэньня левай прафапазыцыі надзвычайна ўтрудняюць арганізацыю эканамічнай барацьбы рабочае клясы. Да гэтага трэба дадаць усё яшчэ ня зжыты апартунізм у практычнай працы, які часта сьцірае розьніцу паміж рэвалюцыйным прафрухам і сацыял-фашыстамі. На зьнішчэньне гэтых недахопаў, на вынішчэньне памылак на падставе бальшавіцкай самакрытыкі партарганізацыі павінны згуртаваць максымум увагі. V Кангрэс Профінтэрну і V Зьезд КПП стварэньне масавага рэвалюцыйнага прафруху паставілі, як ударную задачу перад нашай партыяй. Гэтая задача можа быць пасьпяхова зьдзейсьнена толькі пры максымальным падняцьці актыўнасьці нашай партыі ў справе падрыхтоўкі, арганізацыі, кіраўніцтва і цэнтралізацыі ўсё ўзрастаючай забастовачнай барацьбы супроць фашыцкай дыктатуры.

Партыя справіцца з задачай арганізацыі рабочых мас толькі ў тым выпадку, калі яна сама будзе добра арганізавана і згуртавана. Ды і ў часе забастоўкі асабліва важна, каб партыйнае ядро (ячэйка, фракцыя, камітэт) працавала калектыўна і выразна размяркоўвала паміж сабою функцыі і абавязкі.

У ходзе забастоўкі, а галоўнае, па яе заканчэньні трэба на масоўках абгаварваць прароблены вопыт, памылкі створаныя ў часе забастоўкі.

Кожная забастоўка павінна дапамагаць справе падрыхтоўкі партыйных кадраў, рэвалюцыйных рабочых (прафапазыцыі, профгрупы рэвалюцыйных саюзаў, самаабароны) і для ўсей рабочай масы зьяўляецца рэпэтыцыяй да тых вялізарнейшых баёў, якія яшчэ стаяць наперадзе. У выніку кожнай забастоўкі нашыя арганізацыі павінны павялічваць сваю арганізацыйную сетку.

Сапраўднае перарастаньне эканамічных баёў у палітычныя магчыма будзе толькі пры варунках каардынацыі разьядданых шматлікіх страйкаў, іх цэнтралізацыі пад кіраўніцтвам партыі, іх умасаўленьня, увязваючы ў ходзе барацьбы эканамічную барацьбу рабочых з палітычнай, падводзячы такім чынам шырокія пласты пралетарыяту да ўсеагульнай палітычнай забастоўкі. Наша сіла—сіла пралетарыяту заключаецца ў масавасьці руху, у аб'яднаньні барацьбы працуючых з беспрацоўнымі, арганізаваных і неарганізаваных на грунце большай сьвядомасьці шырокіх мас.

---

**„БОЛЬШ ЧЫМ КАЛІ-КОЛЬВЕК УЗМАЦНЕНЬНЕ І КАНКРЭТЫЗАЦЫЯ НАШАЙ ТАКТЫКІ АДЗІНАГА ФРОНТУ ЗЬЯЎЛЯЕЦЦА ЗАРАЗ АБАВЯЗКОВЫМ ВАРУНКАМ ЗДАБЫЦЬЦЯ БОЛЬШАСЬЦІ ПРАЛЕТАРЫЯТУ“.** (З пастан. 5 з'езду КПП).

П. Корчык.

# Больш увагі нацыянальна-вызваленчаму руху!

Гэты лёзунг чырвонай ніткай праходзіў праз дыскусію пры абмяркаваньні нацыянальнай справы на V Зьезьдзе КПП. Справа нацыянальна-вызваленчай барацьбы—аднаго з падставовых фактараў пралетарскай рэвалюцыі ў Польшчы—набірае асаблівага значэньня ў сучасны пэрыяд, калі ў шпаркім тэмпе нарастае рэвалюцыйная сытуацыя ў Польшчы, калі барацьба працоўных масаў Зах. Беларусі і Зах. Украіны проціў фашыцкай акупацыі і сваёй буржуазіі прыймае ўсё больш вострыя формы, калі ў шуканьні выхаду з нарастаючага агульна-палітычнага крызысу фашыцкая дыктатура ліхаманкава арганізуе напад на СССР. Фашызм распальвае вялікадзяржаўны шавінізм і патрыятызм, узмагае цкаваньне Савецкага Саюзу, агнём і жалезам душыць нацыянальна-вызваленчую барацьбу паняволяных народаў, а адначасна пры дапамозе ўкраінскага, беларускага, яўрэйскага нацыянал- і сацыял-фашызму робіць усё большыя высілкі, каб зрабіць з працоўных масаў паняволяных і ўціснаных народаў прыладу сваіх імпэрыялістычных плянаў, ачмучваючы іх фэдэралістычнымі лёзунгамі і лёзунгам „абароны“ Украіны і Беларусі ад „чырвонага маскоўскага імпэрыялізму“.

V Зьезд адзначыў, што на грунце эканамічнага крызысу і далейшага паглыбленьня палітычнага крызысу фашыстоўскай дыктатуры будзе ў шпаркім тэмпе адбывацца далейшае завастрэньне, паглыбленьне і пашырэньне рэвалюцыйнай нацыянальна-вызваленчай барацьбы паняволяных народаў. Правільнасьць гэтай ацэнкі знаходзіць асабліва яскравае падцьверджаньне ў тых падзеях, якія разгортваюцца цяпер на Зах. Украіне. Магутная хваля вострай забастовачнай барацьбы сельска-гаспадарчых рабочых, якая пракацілася на абшарах Зах. Украіны ў мінулым годзе, зьмянілася цяпер яшчэ больш вострымі формамі барацьбы паняволяных працоўных украінскіх масаў проціў абшарнікаў і фашыстоўскай акупацыі. Гараць абшарніцкія і асадніцкія двары, паліцэйскія і падатковыя ўрадавыя ўстановы, як выраз помсты працоўных масаў проціў сваіх гнібіцеляў і эксплёататараў; барацьба гэтая захоплівае ўсё новыя абшары, прыймае ўсё больш вострыя формы, пераходзіць мейсцамі да збройнага адпору карным фашыцкім атрадам, паліцыі і стралецкім бандам. Паглыбленьне нацыянальна-вызваленчае барацьбы, хоць і не ў такіх яшчэ яскравых формах, мы бачым і на Зах. Беларусі, доказам чаго зьяўляецца ўзрастаючая барацьба беларускага сялянства проціў падаткаў і шарваркаў, проціў грабежніцкай ліквідацыі сэрвітутаў і камасацыі, ажыўленьне забастовачнай барацьбы с.-гаспадарчых рабочых (Маладэчна), адпор сялянскіх масаў паліцыі (Алекшыцы, Чэрнявіцы). Гэта зьвястуны новага магутнага пад'ёму нацыянальна-вызваленчай барацьбы, нарастаньня элемэнтаў грамадзянскай вайны ў Зах. Беларусі, як правільна акрэсьліў яшчэ IV пленум ЦК КПЗБ.

Абвастрэньне клясавай барацьбы ў Зах. Украіне і Зах. Беларусі, абвастрэньне барацьбы проціў акупацыі, зьяўляецца вынікам усяе грабежніцкае каленіяльнае палітыкі фашыцкай дыктатуры, укінуўшай на дно прапасьці, вызыску, нэндзы, голаду, безрабоцьця і безьзямельля працоўныя масы паняволяных народаў. Гэтая палітыка, мэтай якой было ўзмацненьне базы фашыцкай акупацыі ў ЗБ і ЗУ праз замацаваньне саюзу паміж польскім фашызмам і ўкраінскай і беларускай буржуазіяй коштам павялічэньня вызыску

і нэндзы працоўных масаў, прысьпяшала дыфэрэнцыяцыю на ЗУ і ЗБ, тэмп якое яшчэ больш павялічыўся ў варунках глыбокага эканамічнага крызысу.

Побач са шпаркім тэмпам рэвалюцыянізаваньня масаў ідзе ўзмацненьне саюзу і супрацоўніцтва буржуазіі паняволеных народаў з польскім фашызмам, актыўны іх ўдзел у душэньні рэвалюцыйнага руху і арганізацыі вайны процiў Савецкага Саюзу для зваленьня рабоча-сялянскай улады ў Савецкай Украіне і Савецкай Беларусі.

Магутным фактарам, які прысьпяшае працэс палярызацыі сілаў на ЗБ і ЗУ і рэвалюцыянізаваньне працоўных масаў паняволяных народаў, зьяўляецца магутнае разьвіцьцё сацыялістычнага будаўніцтва ў СССР, вялізарныя дасягненьні ленінскай нацыянальнай палітыкі ВКП(б), забясьпечыўшай магутны росквіт Савецкай Украіны і Савецкай Беларусі. Працоўныя масы акупаваных Зах. Украіны і Зах. Беларусі на ўласным досьледзе пераканаліся, што ў той час калі ў Польшчы і акупаваных ёю Зах. Беларусі і Зах. Украіне пашыраецца гаспадарчы крызыс, калі ўсьцяж ўзмацоўваецца вызыск і нэндза, калі польскі фашызм узмацняе нацыянальны ўціск і хоча ў моры крыві затапіць вызваленчую барацьбу паняволяных народаў, там, у бацькаўшчыне міжнароднага пралетарыяту, у СССР і ягонных складовых частках, Савецкай Украіне і Савецкай Беларусі—расьце дабрабыт масаў на падставе вялізарных дасягненьняў сацыялістычнага будаўніцтва ў горадзе і на вёсцы. Разьвіцьцё калектывізацыі ствapae падваліны сацыялізму на вёсцы і вядзе да ліквідацыі кулацтва, як клясы. Разам з гэтым ідзе магутнае разьвіцьцё ўкраінскай, беларускай, яўрэйскай—нацыянальнай па форме і пралетарскай па зьместу—культур, пры адначасным забясьпечаньні ўсебаковага гаспадарчага і культурнага разьвіцьця для нацыянальных меншасьцяў.

Але гэтыя вялізарныя дасягненьні працоўных масаў пад кіраўніцтвам ВКП(б) на Сав. Украіне і Сав. Беларусі, а асабліва ліквідацыя кулацтва, як клясы, аканчальна хаўтураць падзеі ўкраінскай і беларускай буржуазіі на буржуазнае перараджэньне Савецкіх Рэспублік і дзеля гэтага расьце іх актыўнасьць да арганізацыі збройнай інтэрвэнцыі процiў краіны дыктатуры пралетарыяту, зацясьняецца іх саюз з польскім фашызмам. Украінская і беларуская буржуазія зьяўляецца аднэй з падставаў фашыстоўскай акупацыі на ЗБ і ЗУ, стаіць у першых шэрагах душыцеляў нацыянальна-вызваленчае барацьбы на Зах. Украіне і Зах. Беларусі і арганізатараў вайны процiў СССР. Тут зыходзяцца інтарэсы ўкраінскай і беларускай буржуазіі з інтарэсамі польскага фашызму і міжнароднага імпэрыялізму. Нацыянальная палітыка фашыстоўскай дыктатуры цесна зьвязана з падрыхтоўкай міжнародным капіталам вайны процiў СССР, у арганізацыі якое Польшча зьяўляецца фарпостам, а Зах. Украіна і Зах. Беларусь маюць адыграць ролю выпадовае брамы для збройнага нападу на СССР.

Фактары, якія акрэсьліваюць нацыянальную палітыку фашыстоўскай дыктатуры, гэта перш за ўсё агульныя інтарэсы польскай буржуазіі, гэта значыць імпэрыялістычныя тэндэнцыі да гаспадарчай экспансіі на Усход, да расшырэньня граніц польскае акупацыі і разгрому Савецкага Саюзу, што цалкам супадае з інтарэсамі міжнароднага імпэрыялізму; гэта спэцыфічныя інтарэсы польскіх пануючых клясаў на акупаваных землях, якія ўсё больш адчуваюць канкурэнцыю з боку ўкраінскай і беларускай буржуазіі, а таксама неабходнасьць узмацненьня супрацоўніцтва польскага фашызму з буржуазіяй панявольных і ўцісканых народаў для супольнай барацьбы процiў СССР і рэвалюцыйнага руху ў Польшчы, Зах. Украіне і Зах. Беларусі.

У агульных інтарэсах пануючай польскай буржуазіі і буржуазіі паняволяных народаў і міжнароднага імпэрыялізму фашыстоўская дыктатура ўзмацняе нацыяналны ўціск, абвастрае рэпрэсіі і тэрар, які мейсцамі набірае мэтадаў грамадзянскай вайны. Фашызму ўжо ня выстарчаюць масавыя арышты, катаржныя прысуды і разгромы арганізацыяў нац.-вызваленчага руху;

фашыцкая дыктатура пачынае ўсё больш ужываць сьмяротныя прысуды, залівае Зах. Украіну тысячамі паліцэйскіх і стралецкіх бандаў, мабілізуе цэлыя карпусы кавалерыі для карных экспэдыцыяў, накладае на вёскі кантрыбуцыі, канфіскуе сялянскую маемасьць для пакрыцьця страт абшарнікаў, растрэльвае сялян і рабочых, гвалціць жанчын у раёнах, ахопленых зарывам рэвалюцыйнай барацьбы.

Імкнучыся крывёю, агнём і жалезам задушыць рэвалюцыйны рух, фашыцкая дыктатура адначасна ліхаманкава напружвае ўсе сілы, каб утрымаць і ўзмацніць сваю базу на акупаваных землях у першую чаргу праз узмацненьне польскай буржуазіі, абшарнікаў, асаднікаў, фашыстоўскага чыноўніцтва і верхавіны польскай гарадзкой дробнай буржуазіі. Адначасна фашыцкая дыктатура зацясьняе саюз з буржуазіяй паняволяных народаў. Падставай гэтага саюзу зьяўляюцца супольныя клясавыя інтарэсы, супольная барацьба проціў рэвалюцыйнага руху ў Польшчы, проціў Савецкага Саюзу. Уся гаспадарчая палітыка фашыстоўскай дыктатуры ідзе па лініі замацаваньня гэтага саюзу (зямельная і крэдытовая палітыка, грашовыя падачкі нацыянал-фашыцкім арганізацыям); у тым-жа кірунку ідзе царкоўная палітыка фашызму і поўныя падачкі для ўкраінскай і беларускай буржуазіі і кулацтва ў галіне нацыянальнай культуры. Гэты клясавы саюз паміж буржуазіяй пануючай нацыі і буржуазіяй паняволяных нацыяў усё больш будзе зацясняцца па меры далейшага абвастрэньня рэвалюцыйнай барацьбы на Зах. Украіне і Зах. Беларусі. Усе спрэчкі паміж польскай, украінскай ці беларускай буржуазіяй за ільвіную долю ў эксплёатацыі беларускіх і ўкраінскіх працоўных масаў адыходзяць на задні плян і падпарадкуюцца агульнаму заданьню душэньня рэвалюцыйнага руху, які аднолькава пагражае панаваньню, як тых, так і другіх, і заданьню арганізаваньня вайны супроць СССР.

Такім чынам нацыянальная палітыка фашыцкай дыктатуры паглыбляе клясавыя супярэчнасьці ня толькі паміж працоўнымі масамі паняволяных народаў і буржуазіяй пануючай нацыі, але таксама паміж украінскімі, беларускімі, яўрэйскімі працоўнымі масамі і іх уласнай буржуазіяй, спрыяе паглыбленьню і завастрэньню клясавае барацьбы проціў польскай акупацыі і яе саюзьнікаў— буржуазіі паняволяных народаў. Працоўныя масы Зах. Украіны і Зах. Беларусі ўсё больш усьведамляюць сабе, што іх вызваленьне з-пад фашыцкай акупацыі і аб'яднаньне з Савецкай Украінай і Савецкай Беларусьсю цесна зьвязана з барацьбою проціў свае ўласнае буржуазіі і кулацтва, выразам чаго зьяўляецца зьменшэньне уплываў нацыянал- і сацыял-фашыцкіх украінскіх, беларускіх і яўрэйскіх партыяў, узрост уплываў Кампартыі, ўзмацненьне гегемоніі пралетарыяту ў нацыянальна-вызваленчым руху, зацясьненьне інтэрнацыянальнага саюзу працоўных масаў Польшчы, Зах. Украіны і Зах. Беларусі пад гегемоніяй пралетарыяту.

У варунках нарастаньня рэвалюцыйнае сытуацыі ў Польшчы ўзрастае актыўнасьць буржуазіі паняволяных народаў у барацьбе проціў рэвалюцыйнага руху ў Польшчы і проціў СССР. Усё больш актыўную ролю адыгрываюць беларускія і ўкраінскія нацыянал-і сацыял-фашыцкія партыі ў душэньні нацыянальна-вызваленчай барацьбы і разгроме рабоча-сялянскіх арганізацый. Яны арганізуюць напады сваіх баёвак на арганізацыі нацыянальна-вызваленчага руху, бяруць чынны ўдзел у пагромах гурткоў ТБШ і знаходзячыхся пад рэвалюцыйным уплывам аддзелаў „Просьвіты“, робяць даносы на рабоча-сялянскіх паслоў, на рэвалюцыйных рабочых і сялян. Фашыцкая група Луцкевіча-Астроўскага цесна супрацоўнічае з кіраўніком Віленскай ахранкі віцэ-ваяводай Кіртыклісам, у разгроме нац.-вызваленчага руху на Зах. Беларусі. Украінскія нацыянал-і сацыял-фашысты рашуча адмяжоўваюцца ад гераічнае барацьбы ўкраінскіх працоўных масаў проціў польскай акупацыі і апраўдываюць крывавую расправу акупантаў. Іх правадыры, старшыня УНДО Лявіцкі і мітрапаліт Шэптыцкі, супольна з Пілсудзкім, Слаўкам, Складкоўскім дагаварваюцца, як лепш задушыць рэвалюцыйны рух на ЗУ.

Гэтая барацьба процiў рэвалюцыйнага руху на ЗБ і ЗУ цесна зьвязана з арганізацыяй вайны процiў СССР. Супольна з фашыцкай дыктатурай абмяркоўваюцца пляны нападу на СССР, падзелу тэрыторыяў (дагавор гэн. Сальскага з Слаўкам), арганізацыі ваенных украінскіх і беларускіх аддзелаў. Пад кіраўніцтвам польскага фашызму вядзецца салідарная акцыя ўкраінскай і беларускай буржуазіі і кулацтва па абодвых баках кардону для арганізацыі контр-рэвалюцыйных выступленьняў і шкодніцтва ў УССР і БССР („Саюз Вызваленьня Украіны", контр-рэвалюцыйная дзейнасьць беларускіх нацыянал-дэмакратаў і т. п.).

Таксама ўсё больш замацоўваецца супрацоўніцтва яўрэйскай буржуазіі з польскім фашызмам, які ставіць перад яўрэйскай буржуазіяй місію прысьпяшэньня палёнізацыі акупаваных абшараў (выступленьні Голувко, канфэрэнцыя Слаўка з Грынбаўмам). Нацыяналістычная антынямецкая сьвістапляска разьлічаная на распальваньне ў масах шовінізму і ваяўнічага патрыятызму, не перашкаджае ўсё большаму зацясьненьню супрацоўніцтва паміж польскім фашызмам і нямецкай буржуазіяй ў Польшчы, якая выконвае цяпер ролю пасрэдніка для зьбліжэньня фашыцкай Польшчы з Нямеччынай, для прысьпяшэньня арганізацыі супольнага фронту вайны супроць СССР. Таксама і літоўская буржуазія ў Польшчы з гэткай-жа мэтай дапамагае ліквідацыі спрэчак паміж Польшчай і Літвою, выступаючы ў ролі пасрэдніка ў перагаворах, якія вядуцца цяпер паміж Польшчай і Літвою.

V Зьезд КПП асабліва зьвярнуў увагу партыі на небясьпеку, якая пагражае нацыянальна-вызваленчаму руху з боку тых аддзелаў украінскага і беларускага нацыянал-фашызму, якія ў варунках узмагаючайся рэвалюцыйнай хвалі змушаны паслугоўвацца найбольш завостранаю радыкальнай фразай, а часамі „радыкальнымі" мэтадамі, каб лепш перахопліваць рэвалюцыйныя настроі масаў. Такім аддзелам на Зах. Беларусі зьяўляецца група Луцкевіча-Астроўскага, папоўненая ў апошні час рэнэгатам „Грамады" Акінчыцам. Група гэтая разгарнула супольна з фашыстоўскай дыктатурай у шырокім маштабе закроены манэўр навакол засуджаных на катаргу паслоў „Грамады". Манэўр гэты быў разьлічаны на тое, каб зьнімаючы варункова кару паслоў Грамады, змусіць іх да пасыўнасьці пад пагрозай аднаўленьня кары, і такім чынам стварыць уражаньне, што ўсе правадыры Грамады ідуць сьледам за Луцкевічам і Акінчыцам на шлях супрацоўніцтва з фашызмам, здэзорыентаваць масы і пасеяць у іх ілюзіі аб зьмене курсу фашыстоўскай нацыянальнай палітыкі. Манэўр гэты лопнуў, як мыдляная банька, бо паслы „Грамады" на чале з Тарашкевічам здэмаскавалі гэты манэўр фашызму, і сталі ў шэрагі працоўных Зах. Беларусі дзеля далейшай рэвалюцыйнай барацьбы процiў фашыстоўскай акупацыі і яе саюзьнікаў, беларускіх нацыянал-фашыстаў.

У гэтых-жа варунках адбываецца зацясьненьне супольнага фронту сацыялфашызму паняволяных народаў са сваёй буржуазіяй з аднага боку (супольны выбарчы блёк украінскай сацыял-дэмакратыі з УНДО) і ўзмацненьне адзінства ўсяго сацыял-фашыцкага лягеру навакола ППС для душэньня рэвалюцыйнага руху, што праяўляецца ў адзіным фронце іх пры разьбіцьці рэвалюцыйнага прафруху, ламаньні забастовачнай барацьбы, падтрымоўваньні фашыстоўскага арбітражу і г. д. Гэтае адзінства ў іх контр-рэвалюцыйнай дзейнасьці не перашкаджае ім, лічучыся з ростам рэвалюцыянізаваньня масаў, завастраць радыкальную фразу, а нават крытыкаваць ППС, як гэта робіць Бунд, які гэтым імкнецца ратаваць свае пазыцыі ў масах, шмат пахістаньня пасьля яго ўваходу ў II Інтэрнацыянал, выклікаўшае абурэньне яўрэйскіх рабочых.

ППС, гуртуючы навакола сябе ўвесь фашыстоўскі лягер, выступаючы на чале Цэнтралеву, як апошняй дошкі ратунку для загрожанага панаваньня фашыстоўскай дыктатуры ад напору рэвалюцыйнай хвалі, таксама і ў галіне нацыянальнай палітыкі разам з польскімі народніцка-фашыстоўскімі партыямі фактычна зьяўляецца аднэй з галоўных падставаў польскай акупацыі на ЗБ і ЗУ, правадніком фашыстоўскай

палітыкі палёнізацыі, рассаднікам сярод польскага пралетарыяту польскага вялікадзяржаўнага шавінізму, для арганізацыі нападу на СССР.

Нацыянальна-вызваленчы рух, барацьба процій фашыстоўскае акупацыі —гэта ўдар у падставы польскага імпэрыялізму, гэта ўдар у падставы панаваньня польскай буржуазіі, а тым самым адзін з падставовых чыньнікаў пралетарскай рэвалюцыі ў Польшчы. Гэта асаблівая скрава выступае цяпер. З гэтага ясна здае сабе справу фашыстоўская дыктатура, кінуўшая цэлыя карпусы для затапленьня ў крыві рэвалюцыйнага руху на Зах. Украіне. Але гэтага зразуменьня няма яшчэ поўнасьцю сярод усіх зьвеньняў нашае партыі, доказам чаго зьяўляецца слабая дзейнасьць партыйных арганізацый ўсяе Польшчы, ЗБ і ЗУ па мабілізацыі масаў на падтрыманьне, пашырэньне і кіраваньне нацыянальна-вызваленчай барацьбой. І дзеля гэтага асабліва моцна трэба падкрэсьліць правільнасьць заваострэньня V Зьездам увагі ўсяе партыі на значэньні нацыянальна-вызваленчае барацьбы, на ўсьведамленьні кожнага рабочага і селяніна, што барацьба працоўных масаў Зах. Украіны і Зах. Беларусі процій акупацыі, за самавызначэньне аж да аддзяленьня і аб'яднаньне з УССР і БССР, што барацьба літоўцаў за самавызначэньне аж да аддзяленьня, барацьба процій нацыянальнага ўціску яўрэйскіх і нямецкіх масаў, барацьба за самавызначэньне аж да аддзяленьня для Горнай Сілезіі,—зьяўляецца адначасна барацьбою працоўных масаў усяе Польшчы за зваленьне фашыстоўскае дыктатуры, за Польскую Савецкую Рэспубліку. Таксама трэба ўсьведаміць працоўныя масы паняволяных і ўцісканых народаў, што іх барацьба за сваё нацыянальнае вызваленьне неаддзяліма ад клясавае барацьбы пралетарыяту за зваленьне фашыстоўскай дыктатуры, што шлях да нацыянальнага вызваленьня толькі адзін—барацьба за Савецкую Польшчу, за дыктатуру пралетарыяту, процій буржуазіі, як пануючай нацыі, так і сваёй роднай, у стварэньні адзінага фронту барацьбы рабочых, сялян і паняволяных народаў пад гегемоніяй пралетарыяту і яго Кампартыі.

Зьдзейсьненьне гэтай задачы магчыма толькі шляхам самай цеснай увязкі нацыянальна-вызваленчае барацьбы паняволяных народаў са штодзённаю барацьбой пралетарыяту і працоўных масаў сялянства праз арганізацыю супольных акцыяў, праз разьвіцьцё акцыяў салідарнасьці сярод польскага і яўрэйскага пралетарыяту з барацьбою масаў паняволяных народаў процій акупацыі і нацыянальнага ўціску, праз арганізацыю выступленьняў на Зах. Украіне і Беларусі на падтрыманьне барацьбы пралетарыяту і працоўнага сялянства ў Польшчы.

Прысваеньне ўсёй партыяй падставаў бальшавіцкае ленінскае нацыянальнае палітыкі асабліва важна цяпер напярэдадні нападу польскага фашызму ў саюзе з буржуазіяй паняволяных народаў на СССР, калі ўсё больш будзе ўзрастаць на працоўныя масы націск, як вялікадзяржаўнага польскага шавінізму, так і нацыяналізму буржуазіі і кулацтва паняволеных народаў. Дзеля гэтага трэба ўзмоцніць барацьбу процій нацыяналізму, антысэмітызму, узмоцніць працу над замацаваньнем інтэрнацыянальнай салідарнасьці працоўных масаў. Націск шавінізму ўсякага гатунку прасякае і ў рады рэвалюцыйных арганізацыяй, аб чым сьведчаць выступленьні некаторых абвінавачаных на працэсе ППС-лявіцы ў Сасноўцу, выступленьне Каўфмана і іншых на працэсе „21" ва Львове. Трэба ўсьведаміць сябе тую веліч небясьпекі, калі ў часе вайны некаторыя зьвеньні нашае партыі ці нацыянальна-вызваленчых арганізацыяў паддаліся-б націску таго ці іншага нацыяналізму. V Зьезд правільна падкрэсьліў, што ў варунках Польшчы галоўная небясьпека пагражае з боку націску польскага вялікадзяржаўнага нацыяналізму і ў гэты бок павінен быць скіраваны галоўны агонь. Але побач з гэтым узмагаецца таксама небясьпека нацыяналізму беларускага і ўкраінскага, бо польскі фашызм будзе мабілізаваць беларускія і ўкраінскія масы на вайну процій Савецкага Саюзу галоўным чынам праз беларускую і ўкраінскую буржуазію пад лёзунгамі ўкраінскага і беларускага нацыяналізму і дзеля гэтага на гэтых вы-

частках агонь трэба накіраваць ня толькі ў бок польскага нацыяналізму, але перад усім і ў бок украінскага і беларускага нацыяналізму.

Выканаць гэтую задачу партыя зможа толькі тады, калі да канца пераможа ў сваіх шэрагах усякія ўхілы ад ленінскай нацыянальнай палітыкі. І тут галоўная небясьпека—правая—небясьпека нацыянал-апартунізму. Зьезд засудзіў нацыянал-апартуністычныя погляды тав. Вінярскага, нібы сучасная Польшча зьяўляецца калёніяй імпэрыялістычных дзяржаў, што польская буржуазія, арганізуючы вайну процiўСССР, робіць гэта толькі пад націскам імпэрыялістычных дзяржаваў, што галоўным зьвяном, за якое КПЗУ павінна ўхапіцца ў працы сярод польскіх рабочых на Зах. Украіне, гэта абарона іх „нацыянальных інтарэсаў", гуртаваньне іх на грунце „барацьбы за сапраўдную дзяржаўную незалежнасьць польскага народу". Крыніцай гэтых антыбальшавіцкіх поглядаў зьяўляюцца канцэпцыі правай групы ў КПП (нацыянал-апартуністычныя погляды т. Варскага, тэорыі, запярэчваючыя існаваньне польскага імпэрыялізму, разьвітыя ў брашуры Бранда).

Побач з гэтым трэба змагацца з усялякімі праявамі нігілізму ў нацыянальным пытаньні, недаацэнкі значэньня нацыянальна-вызваленчай барацьбы, усялякімі праявамі пасыўнасьці да нацыянальна-вызваленчай барацьбы паняволяных народаў.

V Зьезд завастрыў таксама ўвагу на барацьбе з націскам на нашу партыю украінскага і беларускага нацыяналізму. Небясьпека нацыянал-апартуністычных ухілаў у КПЗУ і КПЗБ паглыбляецца ў зьвязку з антысавецкай актывізацыяй буржуазіі паняволяных народаў. Яскравым прыкладам небясьпекі з гэтага боку зьяўляецца здрада групы Васільківа-Тур'янскага. Аб актуальнасьці гэтай небясьпекі сьведчаць факты хістаньняў у шэрагах нац.-вызваленчага руху, нявыстарчаючая актыўнасьць некаторых членаў партыі ў барацьбе проціў нацыянал-фашызму, а часам нават ілюзіі адносна яго, памылкі, якія ідуць па лініі адзінага нацыянальнага фронту і ўзнаўляючыяся канцэпцыі аб безклясавасьці украінскага ці беларускага народу.

V Зьезд скрытыкаваў таксама нацыянал-апартуністычныя памылкі ў яўрэйскай рабоце, якія адбіваюць націск яўрэйскай буржуазіі, што знайшло свой выраз у недаацэнцы буржуазнага і контр-рэвалюцыйнага характару сыянізму, у недаацэнцы сацыял-фашыстоўскай сутнасьці Бунду, у адзіным фронце з Бундам і ПЦ.

Рашуча змагаючыся з усялякімі ўхіламі, асабліва-ж з нацыянал-апартуністычнымі, на падставе бальшавіцкае самакрытыкі, партыя павінна весьці далейшую працу ў галіне прысваеньня ленінскай нацыянальнай палітыкі, на перашкодзе чаму стаялі апартуністычныя тэорыі правай групы Кастшэвы-Варскага. Толькі тады партыя зможа правільна кіраваць нацыянальна-вызваленчым рухам паняволяных народаў і павесьці рашучы штурм на зваленьне фашыстоўскай дыктатуры ў Польшчы.

---

**„БАРАЦЬБА ЗА САМАВЫЗНАЧЭНЬНЕ І АБ'ЯДНАНЬНЕ ЗБ І ЗУ З КРОЎНЫМІ САВЕЦКІМІ РЭСПУБЛІКАМІ ПАВІННА БЫЦЬ АСАБЛІВА ВОСТРА СУПРОЦЬСТАЎЛЁНА „ФЭДЭРАЛІСТЫЧНЫМ" ВАЕННЫМ ПЛЯНАМ ПОЛЬСКАГА ФАШЫЗМУ, А РЭВАЛЮЦЫЙНЫ САЮЗ ПРАЦОЎНЫХ МАС ПОЛЬШЧЫ, УКРАІНЫ І БЕЛАРУСІ—КОНТР-РЭВАЛЮЦЫЙНАМУ САЮЗУ ПОЛЬСКАЙ, БЕЛАРУСКАЙ І ЎКРАІНСКАЙ БУРЖУАЗІІ".** (З пастаноў 5 з'езду КПП).

Г. Рваль.

# За арганізацыю рэвалюцыйнай барацьбы сялянскіх мас у Польшчы.

Шпаркі рост рэвалюцыйнай барацьбы асабліва на Заходняй Украіне, дзе сяляне паляць абшарнічыя сядзібы, патрабуе ад нас выразнай ацэнкі гэтых новых зьявішч, іх формаў, іх значэньня ў агульным працэсе нарастаньня рэвалюцыйнай сытуацыі і ўзаемнай сувязі паміж рэвалюцыйнай барацьбой пралетарыяту і вызваленчай барацьбой паняволяных народаў. Мы павінны адначасна вызначыць нашу тактыку, якая разьлічана ў першую чаргу на тое, каб стыхійны рэвалюцыйны рух масаў на Заходняй Украіне і Заходняй Беларусі накіраваць у рэчышча агульнай рэвалюцыйнай барацьбы пралетарыяту супроць фашыстоўскай дыктатуры.

„Чырвоны певень“ на Заходняй Украіне паявіўся ўжо вясной бягучага году, аднак, толькі ў жніўні і верасьні падпалы абшарнічых сядзібаў пачалі прымаць масавы характар. Гэтая форма барацьбы сялянства не зьяўляецца чымся новым і невядомым. У ходзе ўсіх рэвалюцый, у якія ўцягнуты былі шырокія сялянскія масы, „чырвоны певень“ быў аднэй з форм барацьбы вясковых мас супроць эксплёататараў.

Першымі паказьнікамі росту шырокага рэвалюцыйнага руху на Заходняй Украіне былі мінулагоднія масавыя забастоўкі сельска-гаспадарчых рабочых, якія маюць асабліва важнае значэньне дзеля узмацаваньня гегемоніі пралетарыяту ў барацьбе сялянскіх мас. Пасьля гэтых гераічных буйных забастовак значна ажывіўся нацыянальна-вызваленчы рух, які прыняў паступова ўсё больш востры характар (львоўскія дэманстрацыі). Узрос таксама ўплыў КПЗУ, якая, аднак, ня здолела ў дастатковай ступені замацаваць арганізацыйна свой уплыў і сваі посьпехі. Таму яна і не змагла дастаткова падрыхтавацца да кіраўніцтва стыхійным патокам сучасных баёў сялянства, не змагла на сучасным этапе падрыхтаваць новых сельска-гаспадарчых забастовак.

Вялікі рост рэвалюцыйнай барацьбы на Заходняй Украіне зьяўляецца яшчэ аднэй яскравай праявай абвастрэньня агульнага становішча ў Польшчы. Гэтая барацьба ўдарае па найбольш паражальнаму месцу імпэрыялістычнай Польшчы і прыходзіць у момант агульнага нарастаньня рэвалюцыйнай барацьбы польскага пралетарыяту. Менавіта таму фашызм мабілізуе аграмадныя паліцэйскія і ваенныя сілы, каб неадкладна здушыць галоўнае асяродзішча руху.

Ці ўдасца фашызму зрабіць гэта— залежыць у першую чаргу ад таго, наколькі ўдасца злучыць барацьбу сялянскіх мас і прыгнечаных народаў з барацьбой рэвалюцыйнага пралетарыяту, узмацніць гегемонію пралетарыята ў гэтай барацьбе, наколькі партыя зможа зьдзейсьніць сваю кіруючую ролю, урэшце, у якой ступені адбываючаяся барацьба сялянства разгорнецца на астатнія тэрыторыі Заходняй Украіны, Заходняй Беларусі і Польшчы.

Аб'ектыўнае разьвіцьцё падзеяў у Польшчы гаворыць за нас. Аб гэтым сьведчыць далейшае паглыбленьне гаспадарчага крызысу і палітычнага крызысу фашызма. З надыходам зімы трэба чакаць сур'ёзнага абвастрэньня ўнутранага крызысу, далейшага росту беспрацоўя і абвастрэньня клясавых баёў. У гэтай сувязі барацьба ўкраінскіх сялянскіх мас ідзе па лініі ўзрастаючай рэвалюцыйнай хвалі, паскарае і завастрае гэтае ўзрастаньне.

Справа вызваленчай барацьбы прыгнечаных народаў зьяўляецца справай усяго польскага пралетарыяту. Чыннае падтрыманьне, абарона працоўных мас Украіны і Беларусі зьяўляюцца пытаньнем жыцьця і сьмерці для польскіх працоўных мас. Неабходна біць ва ўсе званы, сьпяшацца з дапамогай украінскаму працоўнаму сялянству, супроць якога фашыстоўская дзяржава мабілізавала ўвесь апарат прымусу. Неабходна арганізаваць масавыя забастоўкі і вулічныя выступленьні супроць карных экспэдыцый. Неабходна арганізаваць дружыны масавай самаабароны на фабрыках, у фольварках і ў вёсцы. На ўсялякі новы акт тэрару неабходна адказаць узмацненьнем масавай упартай барацьбы, высьвятляючы працоўным, што пятля, якую фашызм накідвае на шыю ўкраінскіх сялян, будзе аднача сна душыць польскія працоўныя масы. Украінскае сялянства ўжо аказвае актыўнае супраціўленьне. Ужо цяпер у паасобных выпадках барацьба на Заходняй Украіне прымае форму ўзброеных сутычак з паліцыяй і войскамі (абстрэльваньне паліцэйскіх патрулёў і атрадаў кавалерыі ў часе экспэдыцый ў вёсцы, падпалы дзяржаўных установ, сутычкі з бандамі „Стральца“). Барацьба прымае характар партызанскіх выступленьняў, мае тэндэнцыю перарасьці ў паўстаньне. Далейшае яе разьвіцьцё залежыць ад таго, наколькі партыя патрафіць палітычна ахапіць гэты рух, разгарнуць, паглыбіць і арганізацыйна аформіць яго, накіраваць у рэчышча барацьбы пралетарыята за зваленьне фашыстоўскай дыктатуры, за зямлю бяз выкупу, за самавызначэньне аж да аддзяленьня і аб'яднаньня ЗУ і ЗБ з УССР, БССР і мабілізаваць рэвалюцыйны пралетарыят Польшчы на падтрыманьне працоўных мас ЗУ і ЗБ. Ад гэтага залежыць, ці будзе барацьба ўкраінскіх працоўных мас ізалявана і падаўлена ваенна-паліцэйскімі сіламі польскага фашызму.

## Стыхійныя формы сялянскай барацьбы і партыя.

Ці павінны мы падтрымліваць барацьбу сялянскіх мас у тых яе формах, у якіх яна праяўляецца? Гэтыя формы руху не намі прадыктаваны. Іх высунулі стыхійна самі сяляне. Мы-ж іх барацьбу падтрымліваем рашуча і да канца.

Напомнім у гэтым месцы, што пісаў Ленін аб стыхійным сялянскім руху 1905 году ў Расеі:

„Сялянскі рух восеньню 1905 г. дасягнуў яшчэ большых разьмераў. Больш трэці паветаў ва ўсёй краіне было тады ахоплена „сялянскімі непарадкамі“ і сапраўднымі сялянскімі паўстаньнямі. Сяляне спалілі да двух тысяч сядзібаў і разьмеркавалі паміж сабою жыцьцёвыя сродкі, якія былі нарабаваны дваранскімі драпежнікамі ў народу. Нажаль, гэта работа была занадта мала грунтоўнай! Нажаль, сяляне зьнішчылі тады толькі пятнаццатую долю таго, што яны павінны былі зьнішчыць, каб да канца зжыць са сьвету расейскай зямлі ганьбу фэадальнага буйнага землеўладаньня. Нажаль, сяляне дзейнічалі занадта распылена, неарганізавана, недастаткова наступальна, і ў гэтым заключаецца адна з караных прычын паражэньня рэвалюцыі“. (Даклад аб рэвалюцыі 1905 г., Ленін. Творы, т. XIX, стар. 353).

Гэтыя словы могуць зьбіць з ног таго, для каго зьяўляюцца чужымі бальшавіцкія мэтады паглыбленьня ўсякай рэвалюцыйнай барацьбы, выкарыстаньня яе для мэтаў рэвалюцыі, падпарадкаваньня яе галоўнай задачы пралетарскай рэвалюцыі—барацьбе за ўладу. Таксама незразумелымі будуць ленінскія адносіны да стыхійных формаў барацьбы для ўсякага, хто сябе ўяўляе, што рэвалюцыйная тактыка гэта збор фармальных прадпісаньняў і рацэптаў, якія маюць абавязковую сілу заўсёды і ўсюды ў аднолькавай ступені падобна рытуальным законам. Наша партыя ня выдумвае форм барацьбы, не стварае іх штучна і не абмяжоўваецца тымі формамі, якія ствараюцца ў працэсе барацьбы на кожным данным этапе. Мы лічымся з тым, што ў далейшым могуць і будуць узьнікаць усё новыя і новыя формы, якіх мы загадзя вызначыць ня можам. З такой пастаноўкі пытаньня яскрава выцякае, што мы ня можам дэкрэтаваць альбо навязваць

масам пэдантычных схэм, што мы павінны ўжываць такую тактыку, якая-б, з аднаго боку, аб'яднала, арганізоўвала і ўзмацняла працоўныя масы ў барацьбе, а, з другога боку, дэзарганізавала і паслабляла сілы ворага.

Камуністы ня былі-б арганізатарамі рэвалюцыі, страцілі-б сваю кіруючую ролю ў адносінах да прыгнечаных і эксплёатаваных масаў, калі-б яны не падтрымлівалі рашуча і не выкарыстоўвалі ўсялякага рэвалюцыйнага народнага руху супроць буржуазіі.

„Прапагандавацъ сярод самых шырокіх пластоў пралетарыяту, што РСДРП ставіць сваёй задачай самае энэргічнае падтрыманьне сучаснага сялянскага руху, ні ў якім разе не перашкаджаючы яго рэвалюцыйным праявам, аж да канфіскацыі абшарнічых зямель". (Праэкт рэзалюцыі аб падтрыманьні сялянскага руху, Ленін, творы, том VII, стар. 280).

У другім больш позьнім дакумэнце ў палеміцы з Радэкам, які не зразумеў рэвалюцыйнага значэньня гераічнага ірляндзкага паўстаньня, барацьбы ірляндзкіх рабочых, сялян і працоўных дробнабуржуазных пластоў гораду супроць ангельскага імпэрыялізму, Ленін гаварыў:

„Нельга сур'ёзна адносіцца да сур'ёзнай вайны, не выкарыстоўваючы малейшай слабасьці супраціўніка, ня ловячы ўсялякага шансу, тым больш, што нельга ведаць наперад, у які ўласна момант, і з якой уласна сілай „выбухне" тут ці там, той ці іншы склеп пораху. Мы былі-б вельмі кепскімі рэвалюцыянэрамі, калі-б у вялікай вызваленчай барацьбе пралетарыяту за сацыялізм не змаглі выкарыстаць усякага народнага руху супроць паасобных ліхаў імпэрыялізму ў інтарэсах абвастрэньня і пашырэньня крызысу. Калі-б мы сталі, з аднаго боку, заяўляць і паўтараць на тысячу ладоў, што мы супроць усялякага нацыянальнага ўціску, а з другога боку, называць „путчам" гераічнае паўстаньне найбольш рухлівай і інтэлігентнай часткі некаторых клясаў прыгнечанай нацыі супроць прыгнятацеляў—мы давялі-б сябе да роўню такога-ж тупога, як каўцкіанцы". (Вынікі дыскусіі аб самавызначэньні, Ленін, творы, том XIX, стар. 270).

Сучасная фашыстоўская Польшча сапраўды паходзіць на склеп пораху, які гатоў узарвацца. І мы, бязумоўна, поўнасьцю падтрымоўваем рух, які завастрае і пашырае крызыс, мы выкарыстаем яго дзеля мабілізацыі тых аграмадных рэзэрваў сацыялістычнай рэвалюцыі, якімі зьяўляецца сялянства і працоўныя масы прыгнечаных народаў. Мы рэкамэндуем сялянам разам з тым такія сродкі барацьбы, якія, адпавядаючы спэцыфічным варункам вёскі і абвастраючымся абставінам, аблягчаюць нам максымальнае арганізацыйнае афармленьне стыхійнага сялянскага руху, аблягчаюць нам кіраўніцтва рухам, паглыбленьне яго і пашырэньне на астатнія раёны Польшчы.

У сьціслай сувязі з гэтым, знаходзіцца выкарыстоўваньне лёзунгу: „Ні граша ўраду тэрару, голаду, беспрацоўя і вайны", які ў раёнах дзейнічаньня карных экспэдыцый становіцца практычным лёзунгам дню, які мабілізуе сялянскія масы супроць фашыстоўскай дыктатуры. З мэтай дэзарганізацыі акупацыйных уладаў і ўзмацненьня рэвалюцыйнага адпору мас, побач з антыпадатковай кампаніяй, мы высоўваем лёзунг няпрызнаньня загадаў акупацыйных уладаў, арганізуем адмаўленьне ад аховы абшарнічых сядзібаў, адмаўленьне ад уплаты адшкадаваньняў за страты, зробленыя пажарамі, адмаўленьне ад адбудовы на сродкі сельскіх таварыстваў зьнішчаных гаспадарак.

Партыйныя арганізацыі павінны здаць сабе справу ў тым, што барацьба працоўных Заходняй Украіны можа хутка перакінуцца на Заходнюю Беларусь і іншыя тэрэны Польшчы. Таму неабходна загадзя мабілізаваць усе сілы, каб забясьпечыць сабе кіраваньне рухам. Патрэбна шырокая папулярызацыя барацьбы ўкраінскіх сялян, арганізацыя выступленьняў салідарнасьці ў горадзе і вёсцы. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на тое, каб паасобныя выпадкі адмаўленьняў ад выкананьня дарожных павіннасьцяў, уплаты

падаткаў, адпору які даецца на прымусовыя спагнаньні, фашыстоўскую камасацыю і ліквідацыю сэрвітутаў— знайшлі хуткае і актыўнае падтрыманьне акаляючых вёсак. Патрэбна на кожным кроку дэмаскоўваць падатковае грабежніцтва, дарожныя павіннасьці і інш., як складовую частку агульнай падрыхтоўкі фашызму да вайны супроць СССР. У галодных раёнах Заходняй Беларусі ў часе галодных бунтаў мы павінны падтрымаць захопы галоднымі сялянамі хлеба з абшарнічых клецяў. Высоўваючы лёзунг няпрызнаньня ліквідацыі сэрвітутаў, неабходна арганізаваць масавы выгон сялянскага быдла на абшарнічыя пашы і ў лес, зборы апалу ў абшарнічых і дзяржаўных лясох. На падставе гэтай барацьбы неабходна арганізаваць масавую самаабарону. Усюды, дзе выбухае барацьба сялян, неабходна заклікаць да стварэньня сялянскіх камітэтаў і забясьпечыць палітычнае кіраўніцтва партыі ў гэтых камітэтах.

Паасобныя праявы нездавольства і роспачы мас павінны ў пэрспэктыве вырасьці ў магутную хвалю, якая-б уключала ўсе формы барацьбы, аж да паўстаньня і захопу абшарнічых зямель. Чым большы размах мы здолеем прыдаць гэтаму руху, тым мацней будзе ён сатрасаць падваліны фашыстоўскага рэжыму.

Аднак нельга сур'ёзна гаварыць аб арганізацыі рэвалюцыі, аб разгортваньні шырокай барацьбы ў горадзе і вёсцы, не паставіўшы ва ўсей вастраце задачы заваяваньня арміі. Фашыстоўскі ўрад прымушаны ўжо цяпер дзеля здушэньня сялянскай барацьбы выкарыстоўваць значныя масы войск. Армія пачынае сутыкацца з масавым рухам, уцягваецца ў агульны працэс барацьбы. Праца па раскладаньню і заваяваньню салдацкай масы павінна стаць у цэнтры ўвагі партыі.

## Аб завастрэньні сродкаў барацьбы.

Бальшавіцкая партыя прызнае ўсе сродкі барацьбы, абы толькі яны адпавядалі сілам партыі і давалі магчымасьць дасягнуць найбольш станоўчых вынікаў у данных канкрэтных варунках. Неабходна зрабіць адмену паміж прызнаньнем усіх сродкаў барацьбы і мэтазгоднасьцю ўжываньня даннага сродку ў тых альбо іншых абставінах. Тактыка партыі, таксама як і яе сродкі барацьбы, мяняюцца ў залежнасьці ад аб'ектыўных зьменаў у суадносінах сіл. Кожны сродак барацьбы павінен служыць агульнаму стратэгічнаму пляну партыі для арганізацыі важнага ў данны момант ўдара. Зразумела, што ў пэрыяд рэвалюцыйнага ўздыму, калі формы барацьбы становяцца ўсё больш living разнастайнымі і багатымі, мы павінны узмацніць і завастрыць сродкі нашай барацьбы.

„Рэвалюцыйныя пэрыяды,—пісаў Ленін,—тым і адрозьніваюцца ад пэрыядаў так званага мірнага разьвіцьця, ад пэрыядаў, калі эканамічныя варункі ня выклікаюць глыбокіх крызысаў, не параджаюць магутных масавых рухаў, што формы барацьбы ў пэрыядзе першага віду нямінуча бываюць шмат больш разнастайныя з пераважаньнем непасрэдна рэвалюцыйнай барацьбы мас над прапагандыцка - агітацыйнай дзейнасьцю верхаводаў у парлямэнце, друку і г. д. Таму, калі пры ацэнцы рэвалюцыйных пэрыядаў мы абмяжуемся вызначэньнем лініі дзеяньняў розных клясаў, не аналізуючы форм іх барацьбы, дык нашае разважаньне з навуковага боку будзе недакладнае, недыялектычнае, а з практычна-палітычнага боку яно вырадзіцца ў мёртвае рэзанёрства.

Каб ацаніць рэвалюцыю сапраўды па марксысцку, з пункту погляду дыялектычнага матар'ялізму, трэба ацаніць яе як барацьбу жывых грамадзкіх сіл, пастаўленых у такія-то аб'ектыўныя варункі, дзейнічаючых так-то і стасуючых з большым альбо меншым посьпехам такія-то формы барацьбы. На грунце такога аналізу і, зразумела, толькі на гэтым грунце зусім дарэчна, мала таго, патрэбна для марксіста і ацэнка тактычнага боку барацьбы, тэхнічныя пытаньні яе". (1908 год. Да ацэнкі расейскай рэвалюцыі, Ленін, творы, т. XXI, ч. 1. стар. 77).

Завастраючы і ўзмацоўваючы сродкі барацьбы, мы выходзім, аднак, з што-

дзённых балячак і патрэбаў мас, з штодзённых патрэбаў фабрычных рабочых, беспрацоўных, сельска-гаспадарчых рабочых, безьзямельных і малазямельных сялян, жанчын і моладзі. Ні на хвіліну мы ня можам адрывацца ад гэтых штодзённых патрэбаў мас, бо гэта пагражала-б адрывам авангарду ад мас. Толькі шляхам мабілізацыі і арганізацыі мас вакол іх непасрэдных інтарэсаў і далейшай палітызацыі барацьбы за штодзённыя патрэбы мы набліжаем увесь пралетарыят і рэвалюцыйнае сялянства да барацьбы за ўладу. У варунках абвастраючагася крызысу ўсялякая, нават найбольш дробная, сутычка ў горадзе альбо вёсцы становіцца ўпорлівай і вострай, прарывае рамкі фашыстоўскага рэжыму. У такіх абставінах усе віды і формы барацьбы, як напр.: антыпадатковая барацьба, адмова ад уплаты адміністрацыйных спагнаньняў, кантрыбуцый, ад выкананьня дарожных павіннасьцяў, адпор судовым спагнаньням, няпрызнаньне ліквідацыі сэрвітутаў, сельска-гаспадарчыя штрайкі, эканамічныя штрайкі рабочых і барацьба беспрацоўных у горадзе плюс масавыя палітычныя забастоўкі, плюс барацьба за вуліцу і барацьба за армію—усе гэтыя формы пераплятаюцца ўзаемна і кожная з іх паасобку і ўсе разам узятыя уздымаюць барацьбу на вышэйшую ступню, вядуць яе на шлях барацьбы за ўладу, за зямлю, за зваленьне акупацыі.

Гэтае спляценьне рознародных форм барацьбы, перарастаньне адных у другія, камбінаваньне іх будзе паявлічвацца ў бліжэйшай будучыне. Чым больш шыя атрады рабочае клясы і сялянства будуць уцягнуты ў барацьбу, тым хутчэй будзе расьці іх сьвядомасьць, тым лягчэй яны будуць папраўляцца пасьля частковых няўдач, тым энэргічней будуць пераходзіць да контр-атакаў і весьці за сабою пакуль яшчэ адсталыя пласты. Такім чынам будуць рушаны мільённыя масы пралетарыяту і працоўнага сялянства і толькі такім чынам—на падставе штодзённай барацьбы і штодзённага досьледу—мы выясьнім масам неабходнасьць рэвалюцыйнага выхаду з крызысу. Масы ўжо адчуваюць, што ня могуць жыць па старому. Неабходна, каб яны не хацелі жыць па старому, каб былі гатовы рушыцца з баявым энтузіязмам у барацьбу не на жыцьцё, а на сьмерць з капіталістычным ладам.

## Масавая палітычная забастоўка і сялянскі рух.

У гэтым артыкуле мы ня можам ставіць сабе задачы растлумачэньня ролі масавай палітычнай забастоўкі наогул. Нам важна ў першую чаргу паказаць на асаблівую сувязь і аграмаднае значэньне масавых палітычных забастовак перад аблiччам стыхійнага рэвалюцыйнага сялянскага руху.

„Палітычная стачка.—пісаў Ленін, —ёсьць адзіны сур'ёзны сродак разварушыць, узбурыць, падняць на рэвалюцыйную барацьбу сялянства і лепшую частку сялянскага войску.

Рабочыя накіроўваюць усю ўвагу на тое, каб стыхійна ўзрастаючую рэвалюцыйную стачку падтрымаць, узмацніць, разьвіць, усіліць сьвядома для падрыхтоўкі паўстаньня сялян і войску. Калі стачкі зьнясільваюць рабочых—іх трэба весьці ў пераменку, даючы адпачынак адным і падымаючы на барацьбу адпачыўшыя альбо „сьвежыя“ сілы. Трэба ладзіць стачкі больш кароткія. Трэба часам замяняць стачкі дэманстрацыямі, Але самае галоўнае, каб стачкі, мітынгі, дэманстрацыі шлі, без перапынку,, каб усё сялянства, ўсё войска даведалася аб упартай барацьбе рабочых, каб вёска, нават самая захалусная, убачыла, што ў гарадох неспакойна, што „свае“ падняліся, што яны змагаюцца на жыцьцё і на сьмерць, што яны змагаюцца за лепшае жыцьцё, за вышэйшую плату, за спыненьне бясчынстваў і самаволі ўлады, за перадачу абшарнічых зямель сялянам, за зваленьне абшарнічай монархіі цара, за рэспубліку. Трэба, каб глыбокае азлабленьне і паўстрыманы ропат вёскі разам з абурэньнем кашар знайшлі сябе ў рэвалюцыйнай стачцы рабочых цэнтр прыцяганьня. Трэба працаваць над гэтым не пакладаючы рук, і мы ўба-

чым той дзень, калі пралетарыят разам з сялянствам і войскам зваліць абшарнікаў, зваліць царскую манархію народным паўстаньнем“. (Разьвіцьцё рэвалюцыйных стачак і вулічных дэманстрацый, Ленін, Творы, т, XII, ч. 2, стар. 16).

Так пісаў Ленін у 1913 г. калі пасьля доўгіх гадоў рэакцыі ізноў паявіліся масавыя рабочыя забастоўкі, зьвястуны новай рэвалюцыйнай буры. Наколькі прарочымі былі гэтыя словы тады і як актуальны яны цяпер, калі пралетарыят, у саюзе з рэвалюцыйным сялянствам і працоўнымі масамі прыгнечаных народаў, рыхтуецца да рашучай атакі супроць фашыстоўскай дыктатуры ў Польшчы!

Падрыхтоўка і арганізацыя масавай палітычнай забастоўкі зьяўляецца важнейшай задачай партыі. Адсутнасьць цяпер больш шырокага стачачнага руху зьяўляецца ў значнай ступні вынікам нашага адставаньня ў справе кіраўніцтва бягучымі баямі пралетарыяту. Неабходна зьнішчыць гэтае адставаньне, прыкласьці ўсе сілы для таго, каб разгарнуць паасобныя канфлікты і разьяднаныя выступленьні ў магутныя клясавыя баі, пераводзячы іх на шлях масавай палітычнай барацьбы. Масавая палітычная забастоўка згуртуе пралетарыят, які змагаецца з усім апаратам фашыстоўскай дыктатуры, і ўзварушыць шырокія масы сельска-гаспадарчых рабочых і эксплёатаванага сялянства. Палітычная забастоўка падвядзе масы да рашучай барацьбы.

Кожная сур'ёзная эканамічная забастоўка, кіруемая праз нас, набірае ў варунках сучаснага крызысу палітычны характар; кожная паасобная палітычная забастоўка спрыяе развіцьцю эканамічнай барацьбы. Ужо цяпер эканамічныя баі праходзяць часта поплеч з вулічнымі сутычкамі і дэманстрацыямі. Злучэньне гэтых форм барацьбы з адбываючайся барацьбой сялянскіх мас—гэта неабходная прадпасылка дзеля рашучай атакі супроць панаваньня капіталу.

Усё гэта не зьяўляецца ўжо далёкай перспэктывай. Пры належнай актыўнасьці партыі падзеі могуць разгортвацца вельмі шпаркім тэмпам. Неабходна арганізаваць усе сілы, не адрываючыся ад мас і не адстаючы ад іх. Ісьці на чале мас і з рэвалюцыйнымі масамі. Неабходна выкарыстаць усялякую шчыліну, каб накіраваць у яе нездавольства і нянавісьць мас, выкарыстаць абвастрэньні цярцёў у лягеры ворага, паслабленьне варожых сіл, якое выклікана ўнутранай барацьбой, узмацніць націск мас, заваёўваць крок за крокам новыя пазыцыі. Трэба рыхтавацца да новых сільнейшых удараў, аж да рашаючага ўзбройнага выступленьня.

---

**„ПАРТЫЯ ЗЛУЧАЕ РАЗЬЯДНАНУЮ БАРАЦЬБУ СЯЛЯНСКІХ МАС ПАД АГУЛЬНЫМ ЛЁЗУНГАМ: ЗЯМЛЯ БЯЗ ВЫКУПУ ДЛЯ СЯЛЯН І БАТРАКОЎ.**

**ГЭТАЯ БАРАЦЬБА Ў СУЧАСНЫМ ПЭРЫЯДЗЕ ЗЬЯЎЛЯЕЦЦА ЗЬВЯНОМ ДЛЯ ЎЗДЫМУ СЯЛЯНСКАГА РУХУ НА ВЫШЭЙШЫ ЎЗРОВЕНЬ І НАКІРАВАНЬНЯ ГЭТАГА РУХУ Ў РЭЧЫШЧА БАРАЦЬБЫ ПРАЛЕТАРЫЯТУ ЗА ЎЛАДУ“.**

(З пастаноў 5 з'езду КПП).

А. Сталевіч.

# Перамагчы хвасьцізм да рэшткі!

Капітуляцыя правай групы на V Зьездзе КПП, яе ідэолёгічнае і арганізацыйнае разьбіцьцё яшчэ далёка ня кажа аб тым, што правыя памылкі перасталі быць галоўнай небясьпекай для партыі ў яе падрыхтоўцы і арганізаваньні сацыялістычнай рэвалюцыі. Ня трудна заўважыць, як розныя правыя тэорыі і ўстановачкі пралязаюць, выпіраюць праз шчэлкі ў тым ці іншым месцы працы КПЗБ. Горш яшчэ тое, што гэтыя тэорыі і ўстановачкі маюць сваю права-апартуністычную практыку, як у паасобных таварышоў, так і ў некаторых мясцовых парторганізацыях.

Найбольш небясьпечная ў дадзены пэрыяд права-апартуністычная праява, якая ў апошнія часы занадта шмат дае аб сабе знаць—гэта хвасьцізм ва ўсіх яго відах, як адставаньне ад палітычных падзей, атрафіраваньне рэвалюцыйнай чуйнасьці, цягненьне ў хвасьце руху мас, замкнутасьць, абмяжоўнасьць барацьбы ў вузкіх рамках свайго катуха, валачэньне за сацыял-фашызмам.

Мясцовыя парторганізацыі, перамагаючы гераічна цяжкасьці глыбокага падпольля, з бальшавіцкай бояздольнасьцю пад кіраўніцтвам свайго ЦК ажыцьцяўляюць кіраўніцтва рэвалюцыйным рухам працоўных мас, змагаюцца супроць апартунізму; аднак, яны нядосыць рашуча змагаюцца з такім горшага гатунку апартунізмам, як хвасьцізм, і не заўсёды сваечасова рэагуюць на яго канкрэтныя праявы, якія наглядаюцца як у горадзе, так і на вёсцы.

Найбольш яскравы факт, які сам за сябе алярмуе, што ў паасобных звеньнях КПЗБ моцна разгнязьдзіўся хвасьцізм—гэта не сваечасовы водгук на рэвалюцыйныя падзеі ў ЗУ, недаацэнка гэтых падзей. У той час, калі на ЗУ Складкоўскія—вешацелі ўжываюць нячуваныя дагэтуль у Польшчы расправы і зьдзек над працоўнымі масамі, калі на ЗУ клясавая барацьба перарастае выразна ў формы грамадзянскай вайны, калі беларуская і ўкраінская буржуазія блёкуецца на выбарах, каб больш салідарна выступіць супроць рэвалюцыйнага руху рабочых і сялян, мы ў гэты адказны час несваечасова, з павольным разгойдываньнем пачалі адгукацца ў масах з заклікам на барацьбу дзеля салідарнасьці з нашым клясавым братом на ЗУ.

Пралетарыят Польшчы наперакор сацыял-фашыстам 14 верасьня выходзіць на вуліцу дэманстраваць процiў фашыстоўскае дыктатуры, льлецца рабочая кроў на вуліцах Варшавы ад рук бандаў паліцыі і фашыстоўскіх баявікоў; у адказ на гэта зноў такі наперакор сацыял-фашыстам—забастоўка пратэсту ахоплівае звыш дзесяці тысячаў рабочых, а што зрабілі нашыя парторганізацыі, каб падтрымаць барацьбу пралетарыяту Варшавы і іншых гарадоў Польшчы? Гэтыя выпадкі не знайшлі адпаведнага водгуку сярод пралетарыяту і працоўнага сялянства Зах. Беларусі.

Усё гэта з усёй відавочнасьцю паказвае, што парторганізацыі яшчэ не пераключылі сабе на стан „острэго поготовя“, чаго патрабуе сучасная палітычная сытуацыя ў Польшчы. Шэраг арганізацыяў яшчэ ня ўсьвецамілі сабе, што цяпер больш чым калі-кольвек трэба чакаць самых крутых раптоўных паваротаў, моцных выбухаў, „нечаканых“ абвастрэньняў сытуацыі, што ўсё гэта можа ў кожны момант і ня толькі можа, а нямінуча выкліча рашучыя клясавыя бойкі, магутныя клясавыя баі да канца, да перамогі.

У такіх абставінах ўся КПЗБ павінна напружыць усю бальшавіцкую бая-

здольнасьць, каб утрымаць руль карабля рэвалюцыі ў сваіх руках, каб апанаваць стыхію і ўлажыць яе магутныя сілы ў рэвалюцыйнае рэчышча. Трэба ўсім партарганізацыям і кожнаму камуністу паасобна арганізаваць, стаяць на чале і яднаць штодзённую эканамічную і палітычную барацьбу мас і ўмець так падрыхтаваць сябе, каб быць заўсёды гатовым пераключацца з кіраўніка барацьбой мас за штодзённыя дамаганьні на кіраўніка барыкадных баёў, баёў з аружжам у руках, за ўладу, за дыктатуру пралетарыяту. І гэта трэба рабіць неадкладна, бо зусім ня выключана, што не сягодня-заўтра такая крывавая рэпэтыцыя, як на ЗУ, можа ўзьнікнуць у другім месцы, з большай выбуховай сілай і больш раптоўна.

Ленін казаў, што „неразрыўная сувязь з масай рабочых, уменьне пастаянна агітаваць у ёй, удзельнічаць у кожным штрайку, адклікацца на ўсякае запытаньне і дамаганьне мас—гэта галоўнае для камуністычнай партыі". У нашых варунках гэта значыць—бязупынна, упарта вясьці штодзённую работу па падрыхтоўцы як найбольш шырокіх мас, не памінаючы найменшых атрадаў, нават паасобных салдат арміі працы, вясьці падрыхтоўку да агульнага збройнага паўстаньня. Ні на момант не парываць сувязі з масамі, ператвараць іх дамаганьні праз рэвалюцыйныя лёзунгі ў актыўную масавую барацьбу, не апускаць рукі ад часовых няўдач і паражэньняў, бо трэба памятаць, што ў гэты час нарастаньня рэвалюцыйнай хвалі нават тыя ці іншыя няўдачы яшчэ больш запальваюць агнём барацьбы ўсё новыя шэрагі змагаючася пралетарыяту. Гэтыя часовыя паражэньні трэба дасьледаваць так, каб навучыцца на іх, як з большай сілай паўтарыць і разгарнуць націск на клясавага ворага, навучыцца перамагаць яго. У сучасны момант асноўнае ў працы нашай партыі па арганізаваньню і падрыхтоўцы сацыялістычнай рэвалюцыі—гэта сканцэнтраваць і завострыць увагу партарганізацыі на аб'яднаньне, каардынацыю паасобных распарушаных рэвалюцыйных выступленьняў, найсьціслейшая увязка барацьбы пралетарыяту і працоўнага сялянства, надаючы гэтым масавасьць, больш палітычны зьмест, баяздольнасьць, пераводзючы гэтым на вышэйшы палітычны ровень рэвалюцыйную барацьбу працоўных мас.

Невыстарчальна быць рэвалюцыянэрам і прыхільнікам сацыялізму, ці камуністам наогул. Трэба ўмець знайсьці ў кожны момант тое паасобнае зьвяно ланцугу, за якое трэба ўсімі сіламі ўхапіцца, каб утрымаць увесь ланцуг і падрыхтаваць грунтоўна пераход да наступнага зьвяна". Вось, як казаў Ленін, вось задача нашага часу.

А што мы маем на мясцох? На тэкстыльнай фабрыцы Шапіро ў Беластоку, дзе працуе звыш 400 рабочых, у цехах ткачоў выбухла забастоўка і, як паведамляюць мясцовыя партыйцы, зусім „нечакана для нас", хоць на гэтай фабрыцы меліся нашыя сымпатыкі-фракцыянэры. У мястэчку Быхаўшчына пры пабудове цэмэнтнага заводу, дзе працуе калу 200 рабочых, сярод якіх былі і нашыя таварышы, ўзьнікае стыхійна забастоўка паміма кіраўніцтва мясцовай партарганізацыі. У Лунінскім районе Горадзеншчыны разышліся чуткі, што ў Луне мае быць пасольскі мітынг. Зьехалася да 3000 сялян, ехалі в баёвым урачыстым настроем—мужчыны з самадзялковай зброяй, а жанчыны з чырвонымі кветкамі, ехалі і ішлі за 50 вёрст ад Луны. Тартачнікі суседняга тартака пакінулі работу і таксама ўсе гуртам прышлі. А мясцовы райком пальцам не крануў, каб зарганізаваць выступленьне прамоўцаў, каб раскідаць нашу літаратуру, наладзіць дэманстрацыю, з'арганізаваць дружыны самаабароны, словам, каб рэвалюцыйныя настроі масаў ператварыць у рэвалюцыйны чын. Таксама і ў Азёрах, дзе у канцы кастрычніка стыхійна сабралася на мітынг колькі тысяч сялян і дзе партарганізацыя выявіла пасыўнасьць, хвасьцізм, поўную няздольнасьць быць авангардам рэвалюцыйнага руху.

Наглядаецца яшчэ характэрная адзнака хвасьцізму ў выглядзе дзяляйчаства, ў няўменьні павязаць барацьбу за штодзённыя дамаганьні з палітычнымі кампаніямі, у чаканьні дырэктыў з цэн-

тру, ад вышэй стаячых партыйных інстанцый. Гэта асабліва яскрава нглядалася ў часе выбарнай кампаніі, якая ў большасьці арганізацыяў праходзіла без увязкі са штодзённай барацьбой. Горш таго, многія таварышы недааацэнівалі выбарнай кампаніі—гэтай важнейшай кампаніі па арганізацыі і мабілізацыі масаў, і гэта ў той час, калі масы выяўлялі вялічэзную актыўнасьць, аб чым сьведчыць удалы збор подпісаў на сьпіскі, жвавыя прадвыборныя мітынгі, выбары камітэтаў і г. д.

Як бачым з прыкладаў, працоўныя масы пераконваюцца, што выхад з усё пагаршаючагася становішча ляжыць у рэвалюцыйнай барацьбе, яны шукаюць партыю, давяраюць партыі, стукаюцца ў дзьверы мясцовых арганізацыяў, словам, гара сама падыходзіць да Магамэта. Аднак, некаторыя таварышы і паасобныя арганізацыі ня толькі не становяцца на чале барацьбы гэтых мас, але часта, як гэта відаць з вышэй прыведзеных фактаў, яшчэ тармазяць іх рэвалюцыйны імпэт. І няма чаго вінаваціць масы, быццам яны яшчэ рэвалюцыйна не дасьпелі, каб ісьці за партыяй, як жальбуюць некатарыя таварышы з Беластоку і Горадні. Трэба мець бальшавіцкую адвагу прызнаць сваю віну, што мы яшчэ не навучыліся спраўна мабілізаваць масы, што часта цягнемся ў хвасьце руху мас, што мы мала робім у справе іх актывізацыі і арганізаваньня. Ня трэба даказваць, што родная сястра правага апартунізму г. зн. ультра-левыя загібы, як сэктанцтва, нігілізм і інш., таксама служыць адрыву ад рэвалюцыйнага руху масаў, садзейнічае узмацненьню правага апартунізму наогул, а ў выглядзе хвасьцізму асабліва.

Ня трэба доўга шукаць, каб выявіць той-жа хвасьцізм і ў арганізацыйных справах. У Скідэльскім раёне на аднэй з вясковых масовак прысутныя партыйцы не дагадаліся запрапанаваць адпаведную рэзалюцыю, а селянін-бядняк, удзельнік масоўкі запрапанаваў, каб „мітынг падзякаваў кампартыі за кіраўніцтва нашым змаганьнем, мы за ёй ўсюды пойдзем, хай вядзе нас“. Аказалася, што гэты бядняк, які ўсюды пойдзе за партыяй, прайшоў ужо ўсе т. зв. стажы, знаходзіцца ў стане вечнага сымпатыка і ніяк ў партыю ня можа папасьці. А вось яшчэ прыклад. Ня гледзячы на тое, што беластоцкія рабочыя з рэвалюцыйным запалам прымаюць прадстаўнікоў партыі на фабрычных масоўках, бароняць іх ад дэфэнзывы і паліцыі, б'юць паліцыю за адабраньне на дэманстрацыі партыйных адозваў і наогул ідуць за лёзунгамі партыі, як напрыклад, палітычная забастоўка ў зьвязку з турэмнай галадоўкай і іншыя падобныя факты, аднак **да гэтага часу мы ня маем ні аднэй фабрычнай ячэйкі на тэкстыльных фабрыках Беластоку. Скандальны факт!**

Аб чым гавораць гэтыя факты? Адно бясспрэчна, што тут мы маем дачыненьне з недааацэнкай радыкалізацыі мас. Распаношаны белы тэрар, дзікі фашыстоўскі рэжым, які сьціснуў у ціскох масавы рух, нявыжытыя ілюзіі да сацыял-фашызму—усё гэта засланяе некатарым таварышом бачыць штодзённы рост рэвалюцыйнага настрою мас. Гэтую права - апортуністычную ўстаноўку некаторых таварышоў, якая адрывае іх ад рэвалюцыйнай барацьбы мас і цягне ў балота правага ўхілу, найбольш яскрава выявіў рэнэгат, які сядзіць у Горадзенскім вастрозе і якому таварышы-вязьні ня далі належнага адпору. Вось што ён пісаў: „Рэвалюцыйны запал мас пачынае гаснуць, пралетарыят пасьля крывавых баёў замучыўся, ППС і Бунд пяюць калысанку—ён ідзе да іх спаць. Аб гэтым нам кажа ўсё павялічваючаяся пасыўнасьць вёскі і раз'яднанасьць, распарушанасьць выступленьняў беспрацоўных, адсутнасьць шырокага забастовачнага руху, рост ППС і Бунду за кошт дробна-буржуазных элемэнтаў компартыі“.

Зусім правільна з большавіцкім разуменьнем і ацэнкай адказаў Горадзенскі АК на гэтую апортуністычную лухту ў сваім лісьце ў турму. „Што супольнага мае—піша АК—гэтая права-апартуністычная тэорыя з бальшавіцкай лініяй Кампартыі, праверанай ў агні рэвалюцыйнай барацьбы? Аб якім росьце за кошт Кампартыі тут ідзе гутарка? Ці не аб такіх камуністах на манер групы рэнэгата Ілека, які выкінуты з шэрагаў КПЧ, увайшоў да сацыял-фашы-

стаў? Адыход такіх рэнэгатаў з шэрагаў Кампартыі мы толькі можам вітаць, бо „ачышчаючыся ад апартуністычных элемэнтаў партыя ўзмацняецца“. (Ленін). Масы не адыходзяць ад нас, а наадварот, магутным узрастаючым патокам ідуць за нашымі лёзунгамі. ППС і Бунд, бачучы радыкалізацыю мас, апэруюць псэўда-радыкальнай фразай, дзякуючы якой і перахоплівають масы там, дзе мы яшчэ не здалелі іх у належнай меры здэмаскаваць і паказаць іх фашыстоўскае нутро.

Кожны дзень прыносіць адзін другога яскравейшыя факты з поля клясавай барацьбы, якія сьведчаць, што пажар рэвалюцыі разгараецца і толькі кончаны, пратраўлены да рэшткі апартуніст, ня бачыць праз агонь барацьбы, праз кроў расстрэляных, стогну па дэфэнзывах надыходу нямінучай перамогі рэвалюцыі, не адчувае ў нашай труднай гераічнай барацьбе радасьці і энтузыязму. Вось палітычная забастоўка бяластоцкіх рабочых у знак салідарнасьці галадуючым паняволяным у вастрозе барацьбітом Вось віленскія рабочыя баявой дэманстрацыяй-пратэстам хочуць адбіць арыштаваных таварышоў у Вільні. Вось рабочыя і сяляне пры нябывалым яшчэ тэрары, пры ачумелай прадвыборнай крутусе фашызму, сацыял-нацыянал і народніцка-фашызму і ўсяго клеру, з рэвалюцыйнай сьвядомасьцю, сакрушальнай жалезнай пралетарскай воляй несуць антыфашыстоўскі сьцяг рабоча-сялянскага блёку, ідуць за лёзунгамі кампартыі. А колькі-ж такіх драбнейшых, але паўсямесных і штодзённых фактаў, якія сьведчаць аб тым, што, дзе партарганізацыя стаіць на вышыні рэвалюцыйнага кіраўніцтва, там пераможна разгортваецца барацьба мас, там няма „спяшчага пралетарыяту і пасыўнай вёскі“, як гэта выслаўляўся рэнэгат з Горадзенскай турмы.

Дарэмныя тут адгаворы на несьвядомасьць мас, альбо трусьлівыя спасыланьні на паліцэйскі і эканамічны тэрар, на цяжкасьці падпольля. Праўда, усё гэта мае месца ў варунках ЗБ, але ня ў гэтым прычына адставаньня і адрыву ад мас: прычына хвасьцізму ляжыць ў нябачаньні загніваньня капіталізму, разгортваньня контр-наступленьня пралетарыяту, надыходу рашаючых клясавых баёў, у няўменьні фармуляваць рэвалюцыйнымі лёзунгамі дамаганьні мас, каб перавесьці іх барацьбу на вышэйшую палітычную ступень, у адсутнасьці рэвалюцыйнай ініцыятывы, самадзейнасьці і бальшавіцкай самаахвярнасьці — быць першым на чале ў часе бою і апошнім пры адступленьні.

Праяўляць хвасьцізм асабліва ў гэты час рэвалюцыйнага ўздыму—гэта значыць даказаць сваю поўную нядольнасьць да кіраўніцтва барацьбой рабочых і працоўнага сялянства, нядольнасьць быць авангардам рэвалюцыйнага руху працоўных мас. І дзеля таго партыя настарожыць сваю ўвагу каб кожнае нават найменшае праяўленьне хвасьцізму выпальваць развогненым жалезам бальшавіцкай самакрытыкі, шырокім азнаямленьнем і вывучэньнем партыйных пастаноў, актывізаваньнем і паглыбленьнем працы ў масах. Своечасовае рашучае рэагаваньне на праявы хвасьцізму ўключна да арганізацыйных вывадаў супроць непапраўных ухілістаў пазбавіць партыю апартуністычнага баласту, які асабліва небясьпечны ў гэтыя часы, часы надыходзячых магутных рэвалюцыйных выбухаў і збройнай інтэрвэнцыі супроць СССР.

---

**„ЗЬЕЗД ПАДКРЭСЬЛІВАЕ, ШТО ЎВАГА І ВЫСІЛКІ ПАРТЫІ ПАВІННЫ БЫЦЬ НАКІРАВАНЫ НА ПЕРАМАГАНЬНЕ АПАРТУНІЗМУ Ў ПРАКТЫЦЫ ПРЫ ДАЛЕЙШЫМ ПАГЛЫБЛЕНЬНІ ІДЭОЛЁГІЧНАЙ БАРАЦЬБЫ З ПРАВЫМІ ПОГЛЯДАМІ ГРУПЫ т.т. КАСТШЭВЫ, СТЭФАНСКАГА І БРАНДА“.**

(З пастаноў 5 з'езду КПП).

# Пленум ЦК Кампартыі бальшавікоў Беларусі*).

У канцы кастрычніку адбыўся другі пленум ЦК КП(б)Б, які мае вялізарнае значэньне для ўсяго далейшага разьвіцьця сацыялістычнага будаўніцтва Савецкай Беларусі. Пленум абгаварыў такія важнейшыя пытаньні, як задачы ў галіне гаспадарчага будаўніцтва, пытаньні ліквідацыі акруг і ўзмацненьня працы ў раёнах, пытаньне нацыянальнай палітыкі.

Адзначаючы вялізарныя дасягненьні сацыялістычнага будаўніцтва ў выкананьні другога году пяцігодкі, пленум ЦК КП(б)Б зацьвердзіў апэратыўны плян на ўдарны квартал(кастрычнік-сьнежань 1930 г.). Пленум заклікаў усю партыю і рабочую клясу на выкананьне пастаўленых задач і актыўную падрыхтоўку да трэцяга году пяцігодкі, які зьяўляецца рашаючым годам.

Пленум надаў шмат увагі пытаньням далейшага разгортваньня калектывізацыі бедняцка-серадн. гаспадарак БССР.

Пленум падкрэсьліў, што выкананьне ўсіх гэтых задач магчыма толькі пры ўмовах далейшага разгорнутага сацыялістычнага наступленьня на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі, пры ўмовах далейшай барацьбы за ліквідацыю кулацтва як клясы, на падставах суцэльнай калектывізацы'і, пры ўмовах рашучай барацьбы супроць правага апартунізму, як галоўнай небясьпекі і „левых“ загібаў.

Важнейшым пытаньнем было пытаньне аб задачах у галіне ажыцьцяўленьня ленінскай нацыянальнай палітыкі. Пленум перад усім падкрэсьліў, што ў выніку правільнай ленінскай нацыянальнай палітыкі, якую ажыцьцяўляла і ажыцьцяўляе КП(б)Б на чале са сваім ЦК, БССР мае шмат дасягненьняў у галіне нацыянальна - культурнага будаўніцтва, у галіне разьвіцьця і ўзмацненьня белар. пралетарскай культуры.

Агульнае завастрэньне клясавай барацьбы ў краіне знаходзіць сваё адбіцьцё ў актывізацыі ўсіх шавінізмаў і нацыяналізмаў. Адбіцьцём гэтай актывізацыі шавінізмаў зьяўляецца актывізацыя нацыяналістычных ухілаў унутры партыі. Зусім відавочна, і гэта востра падкрэсьліў пленум ЦК КП(б)Б, што барацьба партыі за ажыцьцяўленьне ленінскай нац. палітыкі, магчыма толькі пры ўмовах рашучай і бязьлітаснай барацьбы супроць нацыяналізмаў, супроць нацыяналістычных ухілаў унутры партыі.

Пленум вызначыў тыя задачы, якія стаяць у далейшым практычным ажыцьцяўленьні ленінскай нацыянальнай палітыкі, у галіне ўзмацненьня разьвіцьця сацыялістычнай Беларусі.

ЦК КП(б)Б падкрэсьліў, што галоўнай небясьпекай для КП(б)Б зьяўляецца вялікадзяржаўны расейскі шавінізм. Адначасна з гэтым пленум мабілізаваў партыю на барацьбу з контр-рэвалюцыйным беларускім нацыянал-дэмакратызмам і яго нацыянал-апартуністычнай агентурай унутры КП(б)Б, з яўрэйскім і польскім шавінізмам. Пленум аб'явіў погляды нацыянал-апартунізму несумяшчальнымі з належнасьцю да КП(б)Б. Пленум зацьвердзіў выключэньне з партыі нацыянал-апартуністых Прышчэпава, Баліцкага і Алеся Адамовіча, якія выконвалі ў сваёй працы сацыяльны заказ беларускіх нацыянал-дэмакратаў.

Пленум ЦК КП(б)Б выключыў з Бюро ЦК і са складу ЦК КП(б)Б Ігнатоўскага які ў сваёй працы ў Акадэміі Навук праводзіў нацыянал-дэмакратычную лінію.

Пленум адкамандыраваў у распараджэньне ЦК УсеКП(б) другога сакратара ЦК тав. Васілевіча.

Пленум абраў другім сэкратарам ЦК КП(б)Б тав. **Шэранговіча**, які да гэтага часу працаваў на адказнай партыйнай працы ў Сібіры, а ў свой час прымаў актыўны ўдзел у барацьбе за Савецкую Беларусь. Пленум ЦК КП(б)Б увёў у склад Бюро ЦК т. **Хлеўнікава**—сэкратара Гомельскага камітэту партыі і т. **Будзінскага** — адказнага рэдактара „Зьвязды“.

Пленум ЦК КП(б)Б прыняў прывітаньне да Цэнтральных камітэтаў Кампартыі Польшчы і Зах. Беларусі, у якіх ён пратэстуе супроць белага фашыцкага тэрару і выражае ўпэўненасьць, што кампартыі Польшчы і Зах. Беларусі пад кіраўніцтвам сваіх цэнтральных камітэтаў пасьпяхова выканаюць задачы, якія стаяць перад імі.

*) Больш падрабязную справаздачу аб Пленуму ЦК КП(б)Б рэдакцыя дасьць у наступным нумары „Бальшавіку“.

## КПЗБ, якая заўсёды стаяла ў першых шэрагах у барацьбе з правай групай Кастшэвы—Варскага, будзе і надалей пад кіраўніцтвам ЦК праводзіць рашучую барацьбу з рэшткамі правых канцэпцый, з апартунізмам на практыцы і прымірэнцтвам да іх.

**ЗА ПРАВЯДЗЕНЬНЕ Ў ЖЫЦЬЦЁ ПАСТАНОЎ V З'ЕЗДУ КПП!**

---

## Рэзалюцыя ЦК КПЗБ аб V зьездзе КПП.

V Зьезд КПП зьяўляецца пераломным у дзейнасьці партыі і рэвалюцыйнага руху Польшчы. Ен супаў з такім момантам у разьвіцьці рэвалюцыйнай барацьбы пралетарыяту, эксплёатаванага сялянства і працоўных мас прыгнечаных народаў, калі бальшавіцкая кансалідацыя партыйных шэрагаў становіцца неабходнай прадпасылкай для здабыцьця кіруючай ролі ў нарастаючых рашаючых клясавых баёх з фашыстоўскай дыктатурай. Бальшавіцкая кансалідацыя стала магчымай толькі на падставе правільнай ленінскай лініі VI і VII пленумаў аднаўленага ЦК пры непасрэднай дапамозе Выканкому Камінтэрну і бязьлітаснай барацьбе на два фронты: супроць самага небясьпечнага на даным этапе правага ўхілу групы Кастшэвы, Варскага, Бранда, Барташэвіча, Лапінскага і г. д., а таксама супроць небясьпекі ўльтра-левых і сэктанцкіх загібаў, якія льлюць ваду на млын правага апартунізму.

V зьезд злучыў у шчыльныя шэрагі ўсе партыйныя арганізацыі, незалежна ад іх даўнейшай фракцыйнай прыналежнасьці, і ўдарыў па хлусьлівых закідах збанкрутаваўшых правых правадыроў, нібы аднаўлены ЦК не праводзіць пасьлядоўнай кансалідацыйнай палітыкі. V зьезд прызнаў таксама няўласьцівымі адносіны тав. Бруно да лініі кансалідацыі партыі, якія аднačасна пацьвердзілі правільнасьць абвінавачваньняў, высунутых супроць т. Бруно IV пленумам ЦК КПЗБ. V зьезд, прадбачучы набліжаючуюся катастрофу, крызысу і імпэрыялістычнай вайны, на шлях якой фашыстоўская дыктатура штурхае працоўныя масы Польшчы, Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, паказаў масам адзіны выхад—рэвалюцыйнае разьвязаньне крызысу шляхам узбройнага паўстаньня рабочых, сялян і салдат, заваяваньня дыктатуры пралетарыяту, абапіраючыся на братэрскі саюз рабочых і сялян.

Пастановы V зьезду даюць партыі асноўныя тактычныя і арганізацыйныя паказаньні ў барацьбе за здабыцьцё рашаючай большасьці пралетарыяту, за ўзмацненьне пралетарскай гегемоніі і кіруючай ролі партыі ў вызваленчай барацьбе эксплёатаванага сялянства і працоўных мас прыгнечаных народаў. Зьезд паказвае, як узьняць штодзённую барацьбу на вышэйшы палітычны ро-

вень, як павесьці масы да беспасрэднай барацьбы за ўладу.

**Арганізацыя рэвалюцыі**, скарыстаньне і правільная расстаноўка асноўных рэвалюцыйных сіл на галоўных і рашаючых частках фронту сацыялістычнай рэвалюцыі ў Польшчы,—ізаляцыя контррэвалюцыйнага сацыял—і нацыянал-фашызму ад масаў, выкарыстоўваньне ва ўмовах паглыбляючагася гаспадарчага і палітычнага крызысу сыстэмы фашыстоўскай дыктатуры ў Польшчы ўсіх аб'ектыўных і суб'ектыўных фактараў для абвастрэньня і рэвалюцыйнага разьвязаньня крызысу,—вось асноўныя задачы, якія V зьезд паставіў перад партыяй.

ЦК КПЗБ поўнасьцю салідарызуецца з пастановамі V зьезду і выступае да іх безадкладнага выкананьня.

ЦК КПЗБ зьвяртае ўвагу ўсіх арганізацый і членаў партыі на вялізарнае палітычнае і стратэгічнае значэньне Заходняй Беларусі дзеля далейшага разьвіцьця рэвалюцыйнай барацьбы ва ўсей Польшчы.

Наша партыя, узброеная магутным аружжам—пастановамі V зьезду КПП,—павінна мабілізаваць усе сілы для выкананьня ўсіх задач, што вызначаны V зьездам. Гэтымі задачамі ва ўмовах Заходняй Беларусі зьяўляюцца перш за ўсё: ўздым актыўнасьці партыйных арганізацый як у горадзе, так і на вёсцы, далейшае ўзмацненьне пралетарскага ядра партыі, заваяваньне рашаючай большасьці пралетарыяту, перш за ўсё чыгуначнікаў, тэкстыльшчыкаў, рабочых дрэваапрацовачнай прамысловасьці і сельска-гаспадарчых рабочых; узмацненьне кіраўніцтва рухам сялянскіх мас, які выліваецца ва ўсё больш бурлівыя формы на глебе барацьбы супроць падаткаў, шарваркаў, за зямлю бяз выкупу; узмацненьне гегемоніі пралетарыяту ў нацыянальна-вызваленчым руху, барацьба супроць фашыстоўскай акупацыі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, за самавызначэньне аж да аддзяленьня і аб'яднаньня Зах. Беларусі і Зах. Украіны з Савецкай Беларусьсю і Савецкай Украінай; узмацненьне барацьбы супроць сацыял,—народніцка-і нацыянал-фашызму і галоўным чынам, супроць фашыстоўскай групы Луцкевіча, як асноўнага ворага ў барацьбе за працоўныя масы Зах. Беларусі.

КПЗБ, якая заўсёды стаяла ў першых шэрагах у барацьбе з правай групай Варскага, Кастшэвы, будзе і надалей праводзіць барацьбу з рэшткамі правых канцэпцый і з прымірэнцтвам да іх у нашай партыі. Партыйныя арганізацыі павінны ўзмацніць барацьбу з апартунізмам на практыцы, з сэктанцтвам і з „левымі“ загібамі, а таксама з наступленьнем нацыяналізму ўсякага колеру, які праяўляецца ў шэрагах партыі ў постаці нацыянал-апартунізму і зьяўляецца асабліва небясьпечным у сучасных варунках набліжаючагася ўзбройнага нападу на СССР.

Гуртуючы свае шэрагі навакола вылучанага V зьездам бальшавіцкага ЦК КПП, КПЗБ была і застаецца ў далейшым аднэй з чаловых частак КПП і прыложыць усе высілкі для правядзеньня ў жыцьцё пастаноў V зьезду, для падрыхтоўкі і арганізацыі пераможнай пралетарскай рэвалюцыі ў Польшчы.

Юр. Пружанскі.

# За лінію партыі.

Яшчэ ў 1929 г. на паседжаньні Камісіі Камінтэрну па амэрыканскаму пытаньню тав. Сталін востра падкрэсьліў наступную важнейшую задачу, якая стаіць перад партыямі Камінтэрну:

„Трэба ўзмацніць барацьбу з рэфармізмам, з сацыял-дэмакратызмам. Трэба ўзмацніць барацьбу за заваяваньне мільённых масаў рабочае клясы на бок камунізму. Трэба ўзмацніць барацьбу за выкаваньне сапраўды рэвалюцыйных кадраў партыі і за адбор сапраўды рэвалюцыйных лідэраў партыі, людзей, здольных ісьці ў бой і весьці за сабой пралетарыят, людзей, якія ня здрэйфяць перад навальніцай і ня будуць мятусіцца ў паніцы, а пойдуць насустрэч навальніцы. Але каб выканаць гэтыя задачы трэба цяперка, не губляючы ні аднэй хвіліны—бо час не чакае,—заняцца ачышчэньнем кампартыяў ад правых і прымірэнцкіх элемэнтаў, якія прадстаўляюць аб'ектыўна агентуру сацыял-дэмакратыі ў шэрагах партый. І заняцца трэба гэтай справай ня ў звычайным тэмпе, а ў тэмпе паскораным, бо, паўтараю, час не чакае, і мы ня можам дапусьціць, каб падзеі захапілі нас непадрыхтаванымі... Адбываючыся цяпер працэс ачышчэньня кампартыяў ад няўстойлівых элемэнтаў ёсьць дабрадзеючы працэс узмацаваньня Камінтэрну і яго сэкцый“.

Гэты—як гаворыць т. Сталін—„дабрадзеючы працэс“ ачышчэньня нашай партыі ад права-апартуністычных элемэнтаў, працэс бальшавізацыі партыі і „выкаваньня сапраўды рэвалюцыйных кадраў“ і сапраўды бальшавіцкага кіраўніцтва, які адбываецца ў упартай і няпрымірымай барацьбе партыі з правай групай Кастшэвы—Варскага, знайшоў свой найбольш яскравы адбітак на V Зьезьдзе КПП.

КПП разгарнула барацьбу з права-апартуністычнымі поглядамі і канцэпцыямі Кастшэвы, Варскага, Стэфанскага і іншых, як галоўнай і асноўнай небясьпекі на данным этапе. На VI пленуме і пасьля яго партыя на чале з адноўленым кіраўніцтвам павяла гэтую барацьбу „паскораным тэмпам“. V Зьезд падсумаваў вынікі гэтай аграмаднай барацьбы за ачышчэньне шэрагаў партыі ад апартуністычнага шлака. V Зьезд нанёс сакрушальны ўдар па правай апазыцыі. V Зьезд стаў зьездам бальшавіцкай няпрымірымасьці і адзінства, стварыўшы на падставе камінтэрнаўскай лініі зьнітованае і бальшавіцкае кіраўніцтва. У гэтым—вялікае гістарычнае значэньне Зьезду і ніякія апартуністычныя паклёпы не ўмаляць гэтага значэньня зьезду для справы ўзмацаваньня нашай партыі ў варунках новага магутнага ўздыму рэвалюцыйнай хвалі.

На працягу ўсяго пэрыяду ўнутрыпартыйнай барацьбы я быў цесна зьвязан з групай былой большасьці і яе права-апартуністычнай верхавінай. Слухаючы на V Зьезьдзе КПП выступленьні правай чацьвёркі былых членаў ЦК (т.т. Прухняк, Стэфанскі, Краеўскі і Гвяздоўскі), я павінен проста прызнаць перад усей партыяй, што я яшчэ раз перажыў сур'ёзную ўнутраную палітычную барацьбу, у выніку якой зрабіў поўную пераацэнку палітычных цэннасьцяў. Гэтая пераацэнка цэннасьцяў выразілася ў тым, што я стаў на пазыцыі актыўнай барацьбы супроць правай групы ў КПП, супроць усіх яе апартуністычных канцэпцый і поглядаў, на шлях самакрытыкі і поўнага прызнаньня сваіх уласных памылак.

У саміх паводзінах правай чацьвёркі на 5-ым Зьезьдзе КПП перад іх прымушанай капітуляцыяй, наступіўшай, як просты вынік націску зьезду і яго бальшавіцкай няпрымірымасьці, выявілася тыповае для апартуніста манэўраваньне перад Зьездам, і ня толькі нежаданьне раскрытыкаваць сыстэму сваіх памылак, але на справе актыўнае адстайваньне гэтых памылак.

Што паказаў Зьезд, што паказалі шырака разгарнуўшыяся на ім спрэчкі па дакладу ЦК КПП? Яны паказалі, што маецца бясспрэчнае выключнае адзінства партыі, прызнаньне правільнасьці палітычнай лініі кіраўніцтва, і прызнаньне не фармальнае, а фактычнае. Далей—яны паказалі, што вакол аднаўленага кіраўніцтва партыя згуртавана, і згуртавана не на якіх-небудзь беспрынцыпных плятформах, а на падставе правільнай бальшавіцкай лініі, ажыцьцяўляемай гэтым кіраўніцтвам, на падставе лініі Камінтэрну. Тое кіраўніцтва, супроць якога Барташэвіч кідаў антыпартыйныя абвінавачваньні у „дробна-буржуазнасьці", згуртавала вакол сябе ўсю партыю на падставе ленінскай лініі Камінтэрну.

Неабходна падкрэсьліць, што кансалідацыя партыі, якая была выразна прадэманстравана на V Зьезьдзе КПП, як вялізнае дасягненьне партыі і яе кіраўніцтва, зьяўляецца кансалідацыяй на падставе барацьбы за лінію Камінтэрну, на падставе барацьбы супроць правага ўхілу групы Кастшэвы і прымірэнцтва да яе. Бальшавікі ў барацьбе за выразную палітычную лінію ніколі ня былі прыхільнікамі беспрынцыпнай кансалідацыі, прыхільнікамі „адзінства дзеля адзінства", а менавіта так прадстаўнікі правай чацьвёркі пробавалі ставіць пытаньне аб кансалідацыі на V Зьезьдзе КПП. Партыя пад кіраўніцтвам аднаўленага ЦК дасягнула зьнітаваньня сваіх шэрагаў на базе правільнай бальшавіцкай лініі, якую партыя адстайвала ў барацьбе супроць усялякіх ухілаў і супроць права-апартуністычнага ўхілу групы Кастшэвы, як галоўнай небясьпекі. І такое глыбока-гістарычнае зьявішча, як адзіны, бальшавіцкі-зьнітаваны Зьезд КПП, стала магчымым толькі, як вынік няпрымірымасьці, якую праяўляла партыя ў барацьбе з правай групай. Той з таварышоў, раней належаўшых да былой большасьці, хто гэтага не разумее, той нічога не зразумеў ва ўсім тым вялікім перыядзе барацьбы за бальшавізацыю партыі, які перажыты намі за апошнія гады.

Мы падкрэсьлілі вышэй характар выступленьняў на Зьезьдзе. Гэты вынік адносна характару выступленьняў зьяўляецца адным з рашаючых. Бо калі цяпер партыя гаворыць аб хуткім насьпяваньні рэвалюцыйнай сытуацыі ў краіне, роля суб'ектыўнага фактара рэвалюцыі—нашай партыі — становіцца рашаючай, і зьнітаванасьць партыі, згуртаванасьць яе на лініі Камінтэрну зьяўляецца адным з важнейшых варункаў дзеля пасьпяховага выкананьня партыяй тых задач, якія ўскладаюць на яе абставіны разгортваючайся клясавай барацьбы.

Для кожнага з нас павінна быць ясна, што справа цяпер не ў дэкларацыйным прызнаньні правільнасьці палітычнай лініі партыі. Для партыі цяпер ужо мала фармальнага прызнаньня палітычнай лініі. Партыя патрабуе ня толькі дэкларацыйных заяваў, але і актыўнай барацьбы з правым ухілам, актыўнай барацьбы з тымі памылкамі, якія рабіліся; партыя патрабуе разгорнутай самакрытыкі. Той, хто на словах прызнае лінію правільнай, але на справе ня выконвае ўсіх гэтых патрабаваньняў партыі і яе кіраўніцтва, той на справе выступае супроць лініі партыі, ня хочучы яе актыўна абараняць.

Тут неабходна даць зусім выразны адказ яшчэ на адно пытаньне, — пытаньне аб лініі КПП і лініі Камінтэрну. У выступленьнях правых на Зьезьдзе была спроба супроцьставіць адно-другому. Былі чутны заявы аб фармальным прызнаньні правільнасьці лініі Камінтэрну, але нежаданьне прызнаць правільнасьць рашэньняў Камінтэрну па польскаму пытаньню. Зусім зразумела, што такая пастаноўка пытаньня зьяўляецца няверная і антыкамінтэрнаўская. Няма двух ліній. Нельга згаджацца з лініяй Камінтэрну і адначасна не згаджацца з рашэньнямі Камінтэрну па польскаму пытаньню. Правільная лінія Польскай партыі—гэта лінія Ка-

мінтэрну. І той, хто не прызнае правільнасьці лініі КПП альбо прызнае яе толькі з агаворкамі, той фактычна скочваецца на пазыцыі барацьбы з Камінтэрнам. Так стаіць пытаньне. Таму, калі перад мною, як да належаўшага да групы былай большасьці, стаіць пытаньне аб адносінах да палітычнай лініі партыі, дык для мяне зусім відавочна, што гэта ёсьць адначасна пытаньне і аб прызнаньні,—не на словах, а на справе, — **правільнасьці лініі Камінтэрну.**

Я належаў да тых таварышоў былой большасьці, каторыя актыўна абаранялі тую сыстэму права-апартуністычных поглядаў, за якія партыя зусім правільна б'е групу Кастшэвы. Я абараняў гэтыя погляды і ў КПЗБ і ў КПП. Абараняў погляды адносна брашуры Бранда, погляды адносна ППС, пры чым у абароне іх быў не апошнім, бо належаў да актыўнай групы ў былай большасьці. Таму тое, што я гаварыў і буду гаварыць адносна гэтых памылак, **цалкам і поўнасьцю адносіцца і да маёй асобы**. Я нясу цалкам і поўнасьцю адказнасьць перад партыяй за гэтыя грубыя памылкі, якія вырасьлі ва ўхіл да лініі партыі, ўхіл права-апартуністычнага характару.

На Зьездзе ў разгорнутых выступленьнях прадстаўнікоў правай апазыцыі мы ня чулі самакрытыкі. Такія **кардынальныя пытаньні рэвалюцыі**, як адносіны да сацыял-фашызму, правымі падмяняліся другараднымі пытаньнямі для таго, каб замазаць самакрытыку— першае, і паспрабаваць абараняць паасобныя памылкі—другое.

Апартуністычныя канцэпцыя і памылкі групы Кастшэвы і Варскага прадстаўляюць з сябе ў нашай партыі стройную сыстэму поглядаў, якая аформілася ва ўхіл ад лініі Камітэрну, вядучы ў сваім разьвіцьці проста ў лягер рэнэгацтва. Група Кастшэвы прапагандавала апартуністычныя тэорыі **па асноўных і важнейшых пытаньнях рэвалюцыі.** Ня бачыць гэтага, значыць не зразумець сутнасьці кожнай паасобнай памылкі Возьмем асноўны пералік памылак, зробленых на данным гістарычным этапе.

1) Права-апартуністычная канцэпцыя Кастшэвы і Стэфанскега па пытаньнях аб адносінах да ППС. Няправільная ацэнка ролі сацыял-фашызму, прыпісваньне ППС аб'ектыўна рэвалюцыйнай ролі, адстайваньне наскрозь правай тэорыі аб „абасечнасьці“ левых фраз ППС. Права - апартуністычная пастаноўка пытаньня аб тым, што сацыял-фашызм быццам „ставіў перад масамі праблему ўлады і палітычнага ладу“. Памылкі па пытаньню аб ППС, якія прадстаўлялі з сябе стройную права-апартуністычную канцэпцыю, і, калі-б партыя іх рашуча ня выправіла, маглі прывесьці ўвесь рабочы рух у балота рэнэгацтва і апартунізму, пэратварыўшы нашу партыю ў даважку да ППС.

2) Пераацэнка стабілізацыі капіталізму ў Польшчы, магчымасьцяў шырокага разьвіцьця ўнутранага рынку, тэорыя так званага „залатога дажджу“. З стабілізацыйных установак вынікала беспасрэдна недаацэнка рэвалюцыянізаваньня мас і пераацэнка сіл фашызму. У ацэнцы пэрспэктыў разьвіцьця фашызму ў Польшчы правая група высунула апартуністычную тэорыю аб тым, што быццам фашызм павінен імкнуцца да поўнай ліквідацыі сацыял-фашызму, як сілы, здольнай да ўпартай барацьбы ў абарону сваёй самастойнасьці.

3) Наскрозь апартуністычная пастаноўка пытаньня аб небясьпецы вайны з Савецкім Саюзам і эканамічных падставах польскага імпэрыялізму. Тэорыя тав. Бранда аб тым, што імпэрыялістычная экспансія Польшчы на Ўсход не зьяўляецца рэчавістасьцю сёньняшняга дню, вяла фактычна да пацыфісцкага ўсыпленьня працоўных мас Польшчы, да недаацэнкі ўзрастаючай небясьпекі вайны і абвастраючайся экспансіі польскага імпэрыялізму на ўсход.

4) Прапагандаваньне права-апартуністычных поглядаў у аграрным пытаньні (няправільныя адносіны да згодніцкіх сялянскіх партыяў, недаацэнка сельска-гаспадарчага пралетарыяту і г. д.). Права-апартуністычныя погляды, прыкрываўшыяся часта левай фразай у пытаньнях прафсаюзнай палітыкі, якія знайшлі ў самы апошні час свой яркі выраз у постаці атакі на

лінію партыі з боку тав. Гальмы (Вайгкевіча).

Само сабой зразумела, што з усей гэтай сыстэмы поглядаў па ўсіх важнейшых пытаньнях рэвалюцыйнай барацьбы вынікалі і няправільныя тактычныя ўстаноўкі.

Ці зьяўляюцца гэтыя памылкі ўхілам ад лініі партыі ці не? Ці зьяўляюцца яны сыстэмай? Гэтае пытаньне я стаўлю таму, што між іншым і па гэтай лініі шла барацьба правай чацьвёркі на самім Зьездзе супроць рашэньняў Камінтэрну. Гэтае пытаньне я стаўлю і таму, што ў першы пэрыяд я таксама не зразумеў, што гэтыя памылкі прадстаўляюць з сябе ўхіл і сыстэму. Зразумела, што гэтае пытаньне зьяўляецца не фармальным, а ўдвая палітычным. Партыя тут мае справу з памылкамі, якія ідуць і паўтараюцца па аднэй пэўнай лініі, вырастаюць у пэўны ўхіл. Зразумела, што гэты права-апартуністычны ўхіл разыходзіцца з лініяй Камінтэрну па кардынальнейшых пытаньнях. Гэтага не прызнаваць, значыць ня прызнаваць і глыбіні кожнай памылкі ў паасобку, значыць не прызнаваць на справе правільнасьці лініі партыі і правільнасьці тэй барацьбы, якую вядзе партыя супроць правага ўхілу.

Ленін нас заўжды вучыў неабходнасьці грунтоўна высьвятляць прычыны, якія парадзілі памылкі, сыстэму памылак. У чым-жа складаюцца асноўныя сацыяльна-клясавыя прычыны права-апартуністычных памылак групы Кастшэвы? Дзе сацыяльна-клясавыя карэньні гэтых памылак? Яны заключаюцца ў нацiску клясава-варожых нам сіл на пэўныя няўстойлівыя элемэнты у нашай партыі. Нацiск гэтых сіл знайшоў сваё адбіцьцё ў права-апартуністычных канцэпцыях групы Кастшэвы. Такія рэчы, як погляды па пытаньню аб ППС, зьявіліся адбіцьцём нацiску левай фразы ППС на партыю. Тав. Сталін на XVI Зьезьдзе УсеКП(б) вельмі выразна падкрэсьліў, што цяпер, калі сацыял-дэмакратыя, якая траціць уплыў у рабочых масах, будзе асабліва завастрацъ левую фразу, нацiск гэтай фразы будзе асабліва моцны на нашы партыі. Ухілы, якія ў гэтым пытаньні і па гэтай лініі будуць адбывацца і адбываюцца ў партыі, адбіваюць гэты нацiск сацыял-дэмакратыі і льлюць ваду на яе млын. Той, хто не зразумеў гэтага, той нічога не зразумеў у сацыяльна-клясавым зьмесьце гэтых памылак, той ніколі не зразумее, куды яны цягнулі партыю, рупорам якіх сіл яны былі ў партыі, бязумоўна, ня змажа змагацца з імі. Хто хоча станавіцца на шлях партыі, той павінен зразумець і ўцяміць прычыны, якія выклікаюць правы ўхіл ад лініі партыі.

Але ці-ж гэта ўжо ўсё ў высьвятленьні крыніц права-апартуністычных памылак і поглядаў групы Кастшэвы па вышэйпаказаных пытаньнях? Не, тут трэба яшчэ падкрэсьліць з усёй рашучасьцю і выразнасьцю зусім вачавідную сувязь гэтых памылак і поглядаў з даўнейшымі канцэпцыямі, якія прапагандаваліся Варскім, Кастшэвай, Валецкім і іншымі ў нашай партыі. Было-б апартунізмам, калі-б усе гэтыя памылкі, якія былі зроблены на апошнім этапе клясавай барацьбы браліся ізалявана і бяз сувязі ранейшых правых канцэпцый і тэорый. Канцэпцыя аб самастойнай ролі дробнай буржуазіі, права-апартуністычная пастаноўка пытаньня аб двух этапах рэвалюцыі ў Польшчы, няправільная пастаноўка пытаньня аб дыктатуры пралетарыяту— усё гэта знаходзіцца ў цеснай сувязі з апошнімі памылкамі правай групы, усё гэта зьяўляецца паказьнікам ідэолёгічнай сувязі паміж сёньняшнім і ўчорашнім днём правай групы. Поўнае ідэолёгічнае разбраеньне перад партыяй мае на ўвазе неабходнасьць прызнаньня гэтай сувязі, прызнаньня не фармальна, а па сутнасьці, для таго каб высьвятліць перад партыяй ідэолёгічныя крыніцы ўсіх канцэпцый і памылак—кожнай у паасобку.

Ці зьяўляюцца права-апартуністычныя канцэпцыі групы Кастшэвы сходнымі з правай ва ўсім Камінтэрне? На гэтае пытаньне партыя даўно ўжо дала цьвёрды адказ. Я застанаўліваюся на ім таму, што ў пачатку я меў і ў гэтым пытаньні пэўныя хістаньні. Гэтае пытаньне ня ёсьць фармальнае, а ўдвая палітычнае. На тым гістарычным этапе, на якім былі зроблены памылкі

па пытаньнях аб ППС, аб стабілізацыі, аб ваеннай небясьпецы, аналёгічныя памылкі па гэтых-жа кардынальных пытаньнях былі зроблены правымі і ў цэлым шэрагу іншых партыяў Камінтэрну (нямецкая, француская, швэдзкая і інш. кампартыі). Барацьба ўнутры партыяў Камінтэрну ў паскораным тэмпе за ачышчэньне ад апартуністычных і прымірэнцкіх элемэнтаў, аб чым гаварыў тав. Сталін, разгарнулася якраз па гэтых пытаньнях.

Такім чынам, паміж той лініяй, якую абаранялі і абараняюць правыя ўхілістыя з групы Кастшэвы, і лініяй партыі няма нічога і ня можа быць нічога супольнага. Лінія, якую адстайвалі і адстайваюць правыя апартуністы, вядзе партыю ў балота рэнэгацтва і ператварэньня яе ў хвост ППС. І зразумела, што калі-б партыя не зрабіла крутога пераломү, калі-б партыя пры дапамозе Камінтэрну і пад яго кіраўніцтвам і пад кіраўніцтвам аднаўленага ЦК ня ўзяла паскораны тэмп у барацьбе супроць правага ўхілу і за ачышчэньне кіраўніцтва і партыі ад прывых элемэнтаў, дык разьвіцьцё памылак прывяло-б нашу партыю да палітычнай катастрофы.

Зусім зразумела таму, што прапаганда падобных поглядаў, адстайваньне іх несумяшчальна з прабываньнем у шэрагах нашай партыі. Партыя ня можа цярпець у сваіх шэрагах тых, хто лье ваду на млын сацыял дэмакратыі, хто цягне партыю ў балота апартунізму. Тут справа не ў асабістых сантымэнтах, а ў палітыцы, у лёсах далейшага разьвіцьця нашай партыі і польскай рэвалюцыі. І калі кожны з нас гэтага не ўсьвядоміць сабе з усей вастратой і глыбінёй, дык што-ж—няма за што крыўдзіцца, калі партыя будзе біць з усей сілай, з той сілай, з якой вучылі біць заўсёды бальшавікі за погляды нічога супольнага нямаючыя з бальшавізмам. Нежаданьне самакрытыкавацца роўназначна настойваньню на памылках. Разгорнутая самакрытыка і актыўная барацьба разам з партыяй, нага ў нагу з ёй, супроць усіх і ўсякіх правых ухілістых зьяўляецца асноўнай прадпасылкай, для таго каб стаць на шлях партыі і камінтэрну.

Я ўжо адзначыў вышэй, што належаў да тых, якія цэлы шэраг апартуністычных памылак групы Кастшэвы (памылкі ў пытаньнях ППС, памылкі Бранда і г. д.) ня толькі моўчкі спаведвалі, але і актыўна абаранялі. Асноўная і кардынальная мая палітычная памылка складаецца ў тым, што я не разумеў на пэўным этапе ўнутрыпартыйнай барацьбы сутнасьці ўсіх гэтых памылак, сацыяльна-клясавых прычын гэтых памылак, сувязі іх з мінулым, сувязі іх з правымі ў Камінтэрне. І толькі пасьля рашэньня 6-га пленуму ЦК КПП я стаў на шлях прызнаньня гэтых памылак, шлях, які мяне прыбліжаў да палітычнай лініі, выкаванай на 6-м пленуме пры дапамозе і пад кіраўніцтвам Камінтэрну. Я заяўляю аб гэтым адкрыта перад усей нашай партыяй і раблю гэта для таго, каб разам з партыяй змагацца за палітычную лінію, змагацца і супроць тых памылак, якія ляжаць на маёй палітычнай совесьці. Я павінен тут з усей рашучасьцю падкрэсьліць, што, дзякуючы КПЗБ і яе ЦК, дзякуючы іх рашучай і непрымірымай барацьбе супроць маіх памылак і маёй фракцыйнасьці, я стаў на пазыцыі партыі. Ужо пасьля 6-га пленуму ЦК КПП я яшчэ не адразу разгарнуў выстарчаюча актыўную барацьбу супроць гэтых памылак. У гэтым мая памылка, якую я ня лічу ганебным прызнаць перад партыяй. І, урэшце,—разброіўшыся фракцыйна і ў групавых адносінах пасьля 6-га пленуму ЦК КПП і прызнаўшы на III пленуме ЦК КПЗБ правільнасьць палітычнай лініі партыі, я на працягу першага пэрыяду захаваў яшчэ рэшткі старых фракцыйных перажыткаў і партыя і ЦК КПЗБ зусім правільна давалі рашучы адпор гэтым перажыткам. Я страруся ў наступны пэрыяд часу на актыўнай працы даказаць, што ніякай зброі супроць партыі і кіраўніцтва ў мяне няма.

Зьезд узброіў партыю аружжам бальшавізму і з гэтым аружжам я абавязаны і буду актыўна біцца за лінію партыі і супроць правага ўхілу і яго ідэолёгаў—групы Варскага—Кастшэвы.

У барацьбе супроць правага ўхілу патрэбна даць рашучы адпор прымі-

рэнцкаму адношэньню да правых памылак і іх канкрэтных носьбітаў, аб чым гавораць і пастановы 5-га Зьезду КПП. Нежаданьне выказваць свой выразны палітычны погляд, чаканьне „удобнага моманту“ для антыпартыйных вылазак, манэўраваньне у адношэньні да ўсіх рашэньняў партыі і Камінтэрну, толькі фармальнае прызнаньне лініі партыі, адначасна ўпорліве нежаданьне весьці актыўнай барацьбы з правым ухілам, павінна брацца ў штыхі бальшавіцкай няпрымірымасьці ўсей нашай партыяй.

Пад націскам Зьезду правая чацьвёрка былых членаў ЦК скапітулявала. Аднак, Зьезд правільна падкрэсьліў, што ён ня можа прызнаць выстарчаючым галасло̆ныя заявы, якія мелі месца непасрэдна пасьля атакі на лінію партыі і пасьля абароны уласных памылак. Зьезд патрабаваў ад скапітуляваўшых т.т. Прухняка, Стэфанскага і іншых, каб яны ад слоў перайшлі да справаў, перайшлі да грунтоўнай і поўнай рэвізіі сваіх памылак, да актыўнай барацьбы з правымі канцэпцыямі. Зьезд партыі праявіў зусім законнае недавер‘е да шчырасьці гэтай капітуляцыі. Гэтае недавер‘е аснована на ўсім вопыце барацьбы ня толькі польскай, але і ўсіх іншых партыяў Камінтэрну, і перад усім УсеКП(б) супроць правых апартуністаў і права-„левага“ блёку. Толькі справы, толькі рашучае разбраеньне, поўны разрыў з мінулым, толькі рашучая барацьба з групай Варскага—Кастшэвы, толькі актыўны ўдзел разам са ўсёй партыяй у здэмаскаваньні самых апошніх наскокаў Варскага на лінію партыі, толькі рашучая барацьба супроць прымірэнцтва да апартунізму можа пацьвердзіць шчырасьць капітуляцыі.

Партыя не пацерпіць у сваіх шэрагах і ніякага двурушніцтва. Наша партыя павінна цалкам і поўнасьцю ўлічыць вопыт той барацьбы, якую разгарнула бальшавіцкая УсеКП(б) супроць правых двурушнікаў, якія ашуквалі партыю. Усялякая спроба ашукаць партыю, схаваць перад партыяй якую-б то ні было зброю фракцыйнасьці, усялякія двурушніцкія адносіны да партыйнага кіраўніцтва і Камінтэрну, **паставіць такога апартуніста і двурушніка па-за шэрагамі партыі, па-за шэрагамі рэвалюцыйнага руху.** 5-ты Зьезд падкрэсьліў:

„Заклікаючы ўсю партыю да далейшай няпрымірымай барацьбы з правымі і левымі ўхіламі, з апартунізмам у практыцы, а таксама і з усялякімі праявамі прымірэнцтва, Зьезд папераджае, што кожная спроба ладарваць адзінства і дасягнутую кансалідацыю партыі, парушыць бальшавіцкую партыйную дысцыпліну сустрэне самы востры адпор партыйнага кіраўніцтва і ўсей партыі. Усялякая спроба аднаўленьня фракцыйнай барацьбы паставіць кожнага фракцыянэра па-за рамкамі партыі“.

Гэтае рашэньне Зьезду павінна быць ня толькі на словах прынята кожным членам партыі і асабліва тымі, якія даўней рабілі права-апартуністычныя памылкі. Гэтае рашэньне павінна праводзіцца кожным з нас, на яго пасадзе, на яго практычнай працы, з тым, каб даваць адпор усялякаму адраджэньню фракцыйнай барацьбы і ўсялякаму адраджэньню права-апартуністычных канцэпцый і поглядаў групы Варскага—Кастшэвы на новым грунце і ў новых варунках, з тым, каб рашуча змагацца з правым і „левым“ апартунізмам на практыцы. Перад нашай партыяй стаяць вялізарныя задачы, якія вынікаюць з пэрыяду шпарка набліжаючыхся абвостраных клясавых баёў і ўзрастаючай з кожным днём небясьпекі вайны супроць СССР. Правыя ўхілістыя, правыя фракцыянэры—гэта дэзэртыры рэвалюцыйнага фронту барацьбы, гэта агенты ворага ў нашай партыі, і ачышчаць партыю паскораным тэмпам ад агентаў ворага, значыць стварыць прадпасылкі для пасьпяховага выкананьня адказных задач, што стаяць перад партыяй.

5-ты Зьезд стварыў гэтыя прадпасылкі. Усе нашыя сілы—на выкананьне і ажыцьцяўленьне бальшавіцкіх рашэньняў Зьезду пад кіраўніцтвам ЦК КПП і ЦК КПЗБ.

---

# НАША ЖЫЦЬЦЁ І БАРАЦЬБА.

## СЛОВА ЗА ТАВАРЫШАМІ З МЕСЦ.

Рэдакцыя, атрымоўваючы матар'ялы аб рабоце партарганізацыяў, прыкмеціла шэраг ад'емных аналёгічных фактаў, якія мелі месца ў працы паасобных таварышоў ці арганізацый і якія сьведчаць, што гэтыя факты не адасобнены.

Рэдакцыя заклікае партыйны актыў, а таксама ўсіх жадаючых выказацца на старонках „Бальшавіку" ў аддзеле „наша жыцьцё і барацьба", выкрыць карэньні і прычыны гэтых памылак і як хутчэй і аканчальна зьнішчыць ніжэйпададзеныя ад'емныя праявы ў працы партарганізацый.

Горадня. Таварышы з прафлявіцы ў адным з прафсаюзаў замест таго, каб самім узяць ініцыятыву, запрапанавалі радзе прафсаюзаў (ППС і Бунд) склікаць мітынг беспрацоўных.

Сябра Скідэльскага РК пайшоў на зьезд прафсаюзу чыгуначнікаў, скліканы Цэнтралевам, дуиаючы, што сацыял-фашыстоўскі Цэнтралеў і прафлявіца—гэта адно і тое-ж самае.

У Вільні, пры акцыі выбараў дэлегатаў на канфэрэнцыі прафлявіцы, тартачнікі, якія ўваходзяць у прафсаюз сацыял-фашыста Бойко, ў гутарцы з мясцовымі камуністамі заявілі, што яны з імі ва ўсім згодны і гатовы выбраць дэлегатаў на канфэрэнцыю, толькі перш парадзяцца з Бойкам. Нашы таварышы далі згоду, нават без усялякага супярэчаньня.

Партыец адмовіўся выступіць на сходзе бастуючых нёманскай фабрыкі (гор. Зенічына), заяўляючы, што ў памяшканьні Бунду ня гожа выступаць супроць яго.

Каля Брэставіц (Горадзеншчына) баставала да двух сот сельска-гаспадарчых рабочых. Баставалі толькі праваслаўныя, а каталікаў не хацелі ўцягваць у забастоўку, і некаторыя з іх пасьля пайшлі ў штрайкбрэхеры. Па гэтаму факту АК прышоў да вываду, што мы недастаткова працуем сярод працоўных-каталікаў.

Калі судзіць па справаздачах АК за апошнія 4-5 месяцаў, дык толькі Беластоцкі АК зацікавіўся палітычнымі і арганізацыйнымі справамі нацыянальна-вызваленчага руху—гэтага важнейшага вучастку нашай працы.

Вось дзе вязанкі фактаў, якія кажуць аб скрыўленьні лініі партыі ў адносінах да ацэнкі ролі нацыянал-фашыстаў і пастаноўкі нацыянальнага пытаньня.

Супольнымі сіламі, узброеная самакрытыкай зьверху да нізу, партыя, абапіраючыся і пры дапамозе рабочае клясы, дасьць і дае рашучы адпор правым і ультра-левым ухілістым, якія сваёй работай льлюць ваду на фашыстоўскі млын. Няхай-жа самакрытыка стане нашай мацнейшай штодзённай зброяй у барацьбе супроць усіх ухілаў, як справа, так і „зьлева", за бальшавіцкую лінію партыі.

Слова за вамі, таварышы з месц!

## УРОКІ НАШАЙ ПЕРШАЖНІВЕНЬСКАЙ КАМПАНІІ.
### (Вільня).

Хоць з некаторым спазьненьнем, але мы хочам падзяліцца вурокамі кампаніі 1-га жніўня, праведзенай у нас у Вільні. Гэта трэба зрабіць асабліва зараз, калі з такой шпаркасьцю абвастраецца небясьпека антысавецкай вайны, калі польскія, францускія і ангельскія імпэрыялісты ў саюзе з контррэвалюцыйнымі элемэнтамі ўнутры СССР рыхтуюць інтэрвэнцыю, рыхтуюць зрыў сацыялістычнага будаўніцтва.

У падрыхтоўчай рабоце да 1-га жніўня нашай арганізацыі ўдалося зрабіць далейшыя крокі ў пранікненьні на буйныя прадпрыемствы. З агульнага ліку 1.400 ахопленых масоўкамі рабочых—1.200 — гэта рабочыя буйных прадпрыемстваў. У шэрагу мясцох (у цагельнікаў, тартачнікаў, каналізацыйных рабочых, у шаўцоў) антываенная кампанія была ўвязана з іншымі насьпяваючымі там акцыямі. Арганізацыя імкнулася на справе ажыцьцявіць тактыку адзінага фронту зьнізу. З 60 удзельнікаў канфэрэнцыі, прысьвечанай пытаньням 1-га жніўня, амаль 50 было беспартыйных рабочых. Зроблены значны крок у бок ахопу польскіх і беларускіх рабочых праз гэту кампанію. У часе акцыі мы шырока разгарнулі папулярызацыю дасягненьняў сацыялістычнага будаўніцтва ў СССР. Мы значна завострылі барацьбу супроць сацыял-фашыстаў.

Аднак у часе кампаніі былі дапушчаны і памылкі. Ня было праведзена амаль ніякай работы па арганізацыйнаму замацаваньню прафлявіцы, як на прадпрыемствах, так і ў саюзах. У кампаніі была праяўлена некаторае занядбаньне працы ўнутры прафсаюзаў. Мала была выбрана першажнівеньскіх камітэтаў. Кампанія вельмі слаба ахапіла беспрацоўных і зусім нязначную колькасьць жанчын. Адным з асноўных недахопаў зьяўляецца недастатковая актывізацыя ячэяк нашай арганізацыі. Уся гэтая праца праводзілася сіламі невялікай групкі актыву. Як у часе шырокай рабочай канфэрэнцыі, скліканай перад 1-м жніўнем, так і ва ўсёй падрыхтоўчай працы амаль зусім ня было надана ўвагі пытаньням рабочай самаабароны.

Усе гэтыя памылкі і недахопы улічаны арганізацыяй у далейшым разгортваньні барацьбы супроць нарастаючай ваеннай небясьпекі. В—скі.

## ПАТРЭБНА ЯШЧЭ БОЛЬШАЯ АКТЫЎНАСЬЦЬ.
### (Горадня).

За апошні час, у выніку правільнага кіраўніцтва з боку Цэнтральнага Камітэту, адзначаецца некаторы пералом у дадатні бок у нашай Горадзенскай арганізацыі. Перш за ўсё Горадзенская арганізацыя пачала пашырацца за кошт

рабочых больш буйных прадпрыемстваў, за кошт польскіх і беларускіх рабочых. Зроблены крок наперад і ў галіне масавай работы. Праведзена, напрыклад, параўнальна шырокая масавая работа ў сувязі з канфэрэнцыяй прафсаюзнай лявіцы. Усё гэта для Горадні бязумоўна вялікія плюсы.

Але гэтыя першыя посьпехі яшчэ вельмі недастатковыя. Горадзенская арганізацыя не стварыла яшчэ шырокага рабочага актыву, на якім яна магла-б абаперціся ў разгортваньні шырокай масавай працы. Гэтым тлумачыцца, што яна ў адмену ад Віленскай арганізацыі амаль зусім не рэагуе (масоўкамі, дэманстрацыямі), на падзеі. Палітычныя кампаніі і па сёньняшні дзень праходзяць у Горадні надзвычайна слаба. На працягу ўсяго году ў Горадні амаль ня было дэманстрацый. Усё гэта гаворыць аб тым, што з боку ўсей арганізацыі патрэбна яшчэ большае напружаньне сваіх сіл у барацьбе за масы рабочае клясы.

Рашуча перамагаючы ў сваіх шэрагах праваапартуністычныя тэндэнцыі і памылкі, даючы адпор левай фразе, Горадзенская арганізацыя павінна яшчэ больш зьвязацца з шырокімі масамі пралетарыяту і значна актывізаваць усю сваю працу. Г.

## ЯК ПРАВЫ АПАРТУНІЗМ ГРАЕ НА РУКУ КЛЯСАВАМУ ВОРАГУ.

### (З дзейнасьці Скідэльскай гміннай рады).

У свой час Скідэльская гмінная рада ў сваёй большасьці знаходзілася пад нашым уплывам. Першы час нашы таварышы, якія былі выбраны ў склад гміннай рады, праводзілі там рэвалюцыйную, вытрымана-клясавую лінію. Фашысты пачалі стасаваць у адносінах да паасобных таварышоў побач з тэрарам—палітыку подкупу ў постаці даваньня грашовай платы за працу ў гміннай радзе. З бегам часу паасобныя былыя таварышы паддаліся гэтай хітрай палітыцы фашызму і на практыцы—барацьбу супроць клясавага ворага падмянілі ўгодай з гэтым ворагам.

З гэтага часу дзейнасьць гміннай рады зышла на лінію згодніцкай работы разам з фашыстоўскім урадам. Гмінная рада прызнала выдаткі на рамонт паліцэйскага пастарунку. Гмінная рада ўхваліла 100 злотых на выпіўку для сабе і солтысаў у дзень спатканьня прэзыдэнта. Былі ўхвалены і выдадзены грошы на экскурсію ў Пазнань. Фашыстоўскім чыноўнікам прыбаўляецца пэнсія, бюджэт гміннай рады прымаецца цалкам так, як ён прапануецца фашыстоўскім урадам.

Ня гледзячы на тое, што райком Скідэльскай арганізацыі даваў неаднаразовыя дырэктывы аб працы партыйцаў членаў рады гміннай, яны гэтых дырэктыў не выконвалі. У „апраўданьне“ сваей здрадніцкай дзейнасьці яны высоўвалі той факт, што ні выдзел павятовы, ні соймік „не зацьвердзяць іх прапановы“. У канцы канцоў райком запрапанаваў правесьці партыйцам—членам гміннай рады крытыку сваёй дзейнасьці перад шырокімі масамі, выступаючы на сходах. Тэрмін прайшоў, але ні адзін з іх ня выканаў пастановы партыі.

Райком пастанавіў усіх гэтых здраднікаў партыі выключыць з шэрагаў арганізацыі.

На гэтым яскравым факце мы бачым, як права-апартуністычная практыка па сутнасьці ператвараецца ў простае здрадніцтва інтарэсам партыі, ў простую ўгоду з фашызмам.

Правым апартуністам ня можа быць месца ў шэрагах нашай партыі.

## НАШЫ ВЯСКОВЫЯ АРГАНІЗАЦЫІ ПАВІННЫ СТАЦЬ НА ЧАЛЕ ШТОДЗЁННАЙ БАРАЦЬБЫ СЯЛЯНСКІХ МАС.

### (Берасьцейская акруга).

Партыйная арганізацыя ў Бярэсьцейскай акрузе заўсёды адрозьнівалася сваёй моцнасьцю. У шэрагу раёнаў акругі наша партыя праводзіла ня раз шырокія масавыя кампаніі, якія уздымалі на барацьбу супроць акупантаў масы бедняцкасераднядкага сялянства.

За апошні час у паасобных раёнах некалькі аслабла кіраўніцтва з боку нашых ячэяк і раённых арганізацый барацьбой працоўных мас сялянства. Вось прыклад: у чатырох раёнах Берасьцейскай акругі адбываецца ліквідацыя сэрвітутаў, а нашы арганізацыі ў гэтых раёнах не разгарнулі шырокай кампаніі, не мабілізавалі мас працоўнага сялянства супроць ліквідацыі сэрвітутаў. У выніку гэтай права-апартуністычнай пасыўнасьці ў некаторых мясцох канфлікты перадаюцца на вырашэньне фашыстоўскага суду.

Такі факт, як ліквідацыя сэрвітутаў, павінен быць шырока выкарыстаны нашай арганізацыяй для мабілізацыі масы працоўных сялян на магутныя выступленьні супроць фашыстоўскіх акупантаў. Гэтую кампанію трэба ўвязаць з агульнапалітычнымі кампаніямі, якія праводзіць партыя і перад усім з барацьбой супроць ваеннай небясьпекі. Барацьбу супроць ліквідацыі сэрвітутаў трэба ўвязаць з барацьбой за зямлю бяз выкупу, за рэвалюцыйнае зваленьне фашыстоўскай дыктатуры, за рабоча-сялянскі савецкі ўрад.

Пасыўнасьць арганізацыі грае толькі на руку клясаваму ворагу. З пасыўнасьцю трэба скончыць. Бр.

## НА БАРАЦЬБУ СУПРОЦЬ ПАДРЫХТОЎКІ АНТЫСАВЕЦКОЙ ВАЙНЫ.

### (Глыбоцкі раён).

У сувязі з бязупыннымі падрыхтоўкамі да контррэвалюцыйнага нападу на Савецкі Саюз, у нашым раёне, як прымежным раёне, акупанты асабліва гарачкова праводзяць шарваркі. У цэлым шэрагу месц Глыбоцкага раёна мы маем выпадкі адмаўленьня сялян ад выканьня шарваркаў. Трэба толькі адзначыць, што гэтыя стыхійныя выступленьні супроць ваеннай падрыхтоўкі да нападу на СССР часта не кіраваліся нашай арганізацыяй і таму ў шэрагу месц фашыстам удалося зламаць сялян і павесьці іх на шарваркі. За невыкананьне шарварак яшчэ ў мінулым годзе на сялян налажылі штрафы, вылічаныя ў жыта. І зараз, пасьля таго, як сяляне гэтае жыта ня ўнесьлі, яны прымушаюцца да выкананьня шарварак ў большых разьмерах, чым у мінулым годзе,

У сувязі з гэтым сярод сялянскіх мас расьце вялікае абурэньне. Наш раён па дырэктывах акруговага камітэту разгортвае кампанію супроць выкананьня шарварак под лёзунгам: **„Ні воднага зярна, ні граша ўраду вайны, голаду, тэрару і беспрацоўя! Ні воднага селяніна на шарваркі, разьлічаныя на вайну супроць СССР!“.**

У апошні час у нашым раёне зноў узмоцніліся рэпрэсіі, яшчэ больш жорсткім стаў белы тэрар. На працоўных сялян накладаюцца ўсялякія адміністрацыйныя кары за „неблагонадежность“. За найдрабнейшае выступленьне сялян, за чытаньне радыкальнай прэсы, за найдрабнейшую праяву варожых адносінаў да фашызму—на працоўных сялян сыплюцца новыя непасільныя штрафы.

Наша арганізацыя кліча сялян не плаціць гэтых штрафаў, яна арганізуе адпор сялян сэквэстратарам і солтысам, якія прабуюць гвалтам сьцягваць гэтыя штрафы.

Слаба разгортваецца ў нашым раёне праца сярод тартачнікаў і батракоў. Акруговы Камітэт даў нам дырэктывы паставіць гэтую працу, як важнейшую задачу арганізацыі. Гл.

## ЗАБАСТОВАЧНАЯ БАРАЦЬБА ПРАЛЕТАРЫЯТУ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ.

Амаль ва ўсіх рабочых цэнтрах Зах. Беларусі адбываюцца паасобныя забастоўкі рабочых.

У **Беластоку** ня так даўно адбылася забастоўка 150 рабочых дыктавай фабрыкі Маліняка. Рабочыя патрабавалі падвышкі заработнай платы на 15 проц. Забастоўка працягвалася больш тыдню і рабочыя выйгралі 15 проц. Увесь час забастоўкі настрой рабочых быў баявы. Значна вырасьлі ўплывы партыі сярод гэтых рабочых. Адчак, трэба адзначыць, што ў часе забастоўкі наша арганізацыя правадзіла слабую масавую работу. Забастоўка не была пашырана на другую фабрыку Маліняка, дзе працуе 100 рабочых. У ходзе забастоўкі нашы таварышы недастаткова актыўна дэмаскавалі сацыял-фашыстоўскіх профбюрократаў.

За гэты-ж час, **у Беластоку** была забастоўка 90 ткачоў на фабрыцы Шапіра. Апрача гэтых ткачоў баставалі „сновальщики“. Фабрыка гэта працуе па ваенных заказах. Забастоўка ўзьнікла стыхійна напракі бундаўска-пепеэсаўскіх правадыроў, якія былі ўпэўнены ў сваіх „моцных уплывах“ на гэтай фабрыцы. Самімі бастуючымі быў выбраны забастовачны камітэт, куды не ўвайшоў ні адзін з бундаўска-пэпэсаўскага кіраўніцтва. Трэба адзначыць, што і тут нашымі таварышамі было мала зроблена, каб узяць кіраўніцтва забастоўкай у нашы рукі.

Нарастаюць моцныя забастовачныя настроі сярод усей масы тэкстыльшчыкаў **Беластоку.** Правадыры Бунду і ППС імкнуцца да таго, каб не дапусьціць да забастоўкі. Сярод рабочых тэкстыльшчыкаў расьце працэс вострага палявеньня. Трэба адзначыць, што наша арганізацыя ў Беластоку яшчэ вельмі мала зрабіла, каб пранікнуць на буйныя фабрыкі і заводы, каб арганізацыйна замацаваць свае палітычныя ўплывы. Партыйнае кіраўніцтва беластоцкай арганізацыі разгортвае працу па падрыхтоўцы забастоўкі. АК высунуў наступныя патрабаваньні: павышэньне заработнай платы, выплата за прастой, 7-гадзінны рабочы дзень, 6 гадзін для моладзі і г. д.

**У Крынках** была забастоўка польскіх і яўрэйскіх гарбароў. Саюз гарбароў знаходзіўся ў руках Бунду, але калі ў гэты саюз у выніку нашай агітацыі, увайшлі і польскія рабочыя, дык аб'яднаныя сілы рэвалюцыйных польскіх і яўрэйскіх рабочых вырвалі кіраўніцтва прафсаюзам з бундаўскіх рук. Забастоўка была выйграна.

**Віленская** арганізацыя правяла 2 забастоўкі сельска-гаспадарчых рабочых. У забастоўцы на фальварку Бухнавічы прымала ўдзел 150 рабочых. Абшарніку ўдалося разьбіць забастоўку пры дапамозе штрайкбрэхэраў.

Як мы бачым, гэтыя факты пацьвярджаюць пастановы нашай партыі аб нарастаньні рэвалюцыйных забастовачных настрояў сярод рабочых і разьбіваюць права-апартуністычныя разважаньні „аб адсутнасьці кан'юнктуры“, аб „немагчымасьці падняць рабочых на забастоўку“ і г. д. і г. д.

Нашы арганізацыі на мясцох павінны рашуча перамагаць гэтыя права-апартуністычныя настроі, актыўна змагацца супроць сацыял-фашыстоўскіх правадыроў, найстойліва працаваць над арганізацыяй забастовачнай барацьбы.

## РЭВАЛЮЦЫЙНЫЯ НАСТРОІ Ў ФАШЫСТОЎСКАЙ АРМІІ.

Абвастраючыся гаспадарчы і палітычны крызыс фашыстоўскай дыктатуры—з аднаго боку, а з другога—узрост рэвалюцыйнай актыўнасьці рабоча-сялянскіх мас знаходзіць свой адбітак і ў кашарах. Усё больш трудна ўдаецца фашызму ізаляваць жаўнерскія масы ад той барацьбы, якая разгортваецца ў горадзе і вёсцы. Ня гледзячы на ўсе высілкі фашыстоўскага афіцэрства і жандармэрыі, у кашары пранікаюць рэвалюцыйныя настроі. Удзел жаўнераў Грудзёнскага і Быдгашскага гарнізонаў у дэманстрацыях беспрацоўных, удзел жаўнераў у міжнародным Дню моладзі, барацьба жаўнераў Львоўскага гарнізону з фашыстоўскай дыктатурай у кашарах—гаворыць выразна аб тым, што фронт рэвалюцыйнай барацьбы пашыраецца і на жаўнерскія масы.

Але наперадзе ўсіх рэвалюцыйных выступленьняў салдат высоўваецца Рэмбэртаў—жаўнеры манэўранага батальёну. У дзень 14 верасьня досыць значная група жаўнераў, ня гледзячы на вострую варту жандармэрыі, вырвалася з кашараў і арганізавала жаўнерскі мітынг пад лёзунгамі салідарнай барацьбы з рабочымі і сялянамі супроць фашыстоўскай дыктатуры. У выніку арыштавана дзесяць жаўнераў, якіх накіравалі ў ваенную турму. Але гэта не зламала баявога духу сярод жаўнераў. Рэмбартоўскія жаўнеры дамагаюцца звальненьня арыштаваных таварышоў. Няма такога дня, каб у кашарах не зьявілася ўлётка альбо адозва, заклікаючая да барацьбы супроць фашыстоўскага афіцэрства.

Аб чым сьведчыць барацьба рэмбартоўскіх жаўнераў? Яны зразумелі задачы моманту, а сваім выступленьнем далі прыклад арганізаванай барацьбы з фашызмам. Выступленьне рэмбартоўскіх жаўнераў—гэта доказ таго, што жаўнерскія масы, ізаляваныя кітайскім мурам ад рэвалюцыйнай барацьбы імкнуцца да супольнай барацьбы разам з працоўнымі масамі. Зэт.

# ЗЬМЕСТ: